

# БЕЛАРУСКІ РЭЗЫСТАНС

## ЧАСОПІС НАЙНОЎШАЙ ГІСТОРЫІ

**№ 2(13)/2012**

Заснаваны ў 2004 г. у Менску.

**Галоўны рэдактар:** Сяргей Ёрш.
**Намесьнік галоўнага рэдактара:** Андрэй Барткевіч.

Пры перадруку спасылка абавязковая.



ЗЬМЕСТ:

# СПРАВА ГАДЛЕЎСКАГА



Чаканьне рэабілітацыі айца Вінцэнта Гадлеўскага, прызнаньня яго заслугаў перад беларускім народам і адпаведнага ўшанаваньня яго памяці на дзяржаўным узроўні працягваецца ўжо трэцяе дзесяцігодзьдзе. Незалежная беларуская дзяржава ў яе цяперашнім варыянце калі не варожа, дык абыякава ставіцца да гэтай праблемы. Тыя адзінкі, якія валодаюць поўнай інфармацыяй, разумеюць небясьпеку “справы Гадлеўскага” для існуючай дзяржаўнай ідэалёгіі, для кананічнай трактоўкі апошняй вайны і месца ў ёй Беларусі. Таму працягваецца маўчаньне і будзе працягвацца яшчэ доўга.

Высьвятляецца, што справа ня толькі ў нежаданьні прызнаць факт існаваньня ў 1941-1942 гг. беларускага нацыянальнага антынацысцкага Супраціўленьня, арганізатарам і духоўным лідарам якога быў Гадлеўскі. Як вядома, нацысты яго арыштавалі і расстралялі ў Трасьцянцы пад Менскам 24 сьнежня 1942 году. А перад гэтым, на працягу сьнежня, былі допыты ў СД, дзе ў айца Вінцэнта Гадлеўскага патрабавалі прызнаньня ў канспірацыйнай антынямецкай дзейнасьці ды кантактах з савецкай разьведкай. Паводле зьвестак выведнікаў польскай Арміі Краёвай, арышт В. Гадлеўскага быў выкліканы даносамі немцам савецкіх агентаў у беларускім нацыяналістычным руху.* І гэта падобна на праўду. Пра гэта сьведчыць дасьледаваньне Аляксандра Будрэвіча, якое публікуецца ў гэтым нумары “БР”. Атрымліваецца, што савецкія спэцслужбы скарысталіся дапамогай Вінцэнта Гадлеўскага і беларускай канспірацыі, уладкавалі сваіх разьведчыкаў у розныя легальныя ўстановы, а пасьля ліквідавалі лідара беларускага Супраціву нямецкімі рукамі. Кроў беларускага сьвятара і палітыка з мундзіраў ужо ня змыць.

Сказаць праўду яны ня могуць і ня хочуць. Але не ўпускаюць магчымасьці, каб не абліць брудам сьветлае імя айца Вінцэнта Гадлеўскага, сеюць сумненьні ў яго датычнасьці да беларускага Супраціву. Гэтыя мэтады нам добра вядомыя.

У такой сытуацыі застаецца рознымі шляхамі спрабаваць здабываць і публікаваць дакумэнты з расейскіх і беларускіх архіваў,

---

*NKWD o polskim podziemiu. 1944 – 1948. Konspiracja polska na Nowogrodczyz’nie i Grodzien’szczyz’nie. — Warszawa, 1997, s. 32.

якія датычаць дзейнасьці айца Вінцэнта Гадлеўскага падчас Другой сусьветнай вайны.**

Дагэтуль удалося зрабіць ня шмат*** — адразу ж узьнікалі перашкоды і актыўнае супраціўленьне. Тым ня менш, праца марудна, але ідзе наперад. Як бы цяжка не было сёньня. Як бы не шалелі ворагі зь іх фальшывымі арганізацыямі, сайтамі, выданьнямі. Бо праўда пераможа.

**Каштоўныя дакумэнты захоўваюцца і на Захадзе. Паводле непацьверджанай інфармацыі, захаваўся дзёньнік а. В. Гадлеўскага, які знаходзіцца ў прыватнай калекцыі і які публікаваць яго ўладальнікі не сьпяшаюцца.

***Адзначым наступную публікацыю ў “БР”: Самсонаў К. Удзел беларускага нацыянальнага Супраціву ў ратаваньні габрэяў зь менскага гета ў 1941-1942 гг.; Паказаньні Смоляра Рыгора Давідавіча ў НКГБ БССР // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 1(6), б. 30-37.

# САВЕЦКІ РЭЗЫДЭНТ КАРПАЎ РЫХТАВАЎ ЛІКВІДАЦЫЮ КІРАЎНІЦТВА БНС

## ГІСТОРЫЯ ТРОХ АГЕНТАЎ “ІВАНОВЫХ”

Пасьля нашай публікацыі ў “БР”, прысьвечанай выкраданьням савецкімі партызанамі і спэцслужбамі дзеячоў грамадзянскай адміністрацыі ў акупаванай немцамі Беларусі[1], зімой-вясной 2011-га ў саўмінаўскай “Рэспубліцы” зьявілася сэрыя артыкулаў на гэтую тэму Міхаіла Шыманскага.[2] Яны былі падрыхтаваныя па матэрыялах Цэнтральнага архіву КДБ РБ. Шыманскі распавядае пра выкраданьне чэкістамі Канстанціна Рабушкі (пра гэты выпадак мы якраз пісалі), пра забойства Фабіяна Акінчыца, Уладзіслава Казлоўскага, Вацлава Іваноўскага. Скажам шчыра: амаль нічога сэнсацыйнага, але некаторыя выкладзеныя факты вартыя ўвагі, яны зьяўляюцца добрай нагодай, каб вярнуцца да тэмы.

Нагадаем, мы распавядалі пра адно з самых гучных выкраданьняў — справу сябра Рады Даверу і кіраўніка “Прафэсійнага саюзу Беларусі” (арганізацыі, створанай з дазволу нямецкіх акупантаў) Канстанціна Рабушкі. Чэкісты з спэцгрупы НКГБ БССР *“Мстители”* з дапамогай свайго агента захапілі яго 18 траўня 1944 г. у Масюкоўшчыне пад Менскам. Супрацоўнічаць з чэкістамі Рабушка адмовіўся, двойчы спрабаваў уцячы. 19 траўня яго прывялі на лясную базу, каб пры нагодзе адправіць самалётам у Маскву. Аднак падчас прарыву кола акружэньня нямецкіх карнікаў Рабушка, нібыта, быў сьмяротна паранены.[3]

М. Шыманскі дадае дэталяў: аказваецца, адразу па захопе чэкісты патрабавалі ад Рабушкі згоды на супрацоўніцтва з НКГБ БССР і адпаведнай падпіскі — той адмаўляўся. Яму нават пагражалі халоднай зброяй. Высьвятляецца, што “Ігнацьеў”, які заманіў Рабушку да сябе ў госьці ў Масюкоўшчыну (1908 г.н., ураджэнец Полацкага раёну, беларус, беспартыйны, акружэнец Чырвонай Арміі), быў выкарыстаны “*мстителями*” ўсьляпую (яму сказалі, што яны з Рабушкам толькі пагаворуць). Па дарозе ў лясны лягер К. Рабушка спрабаваў пакідаць знакі для тых, хто яго будзе шукаць (выкідаў кавалкі паперы), не пакідаў думкі пра ўцёкі. У выніку, яму зьвязалі рукі.

20 траўня 1944-га з Лагойскага раёну ў Маскву была пасланая радыёграма пра пасьпяховую аперацыю. Наркам дзяржбясьпекі БССР загадаў прывезьці Канстанціна Рабушку і паабяцаў хутка даслаць самалёт. Аднак у раёне знаходжаньня спэцгрупы НКГБ пачалася нямецкая карная акцыя і чэкістам давялося прарывацца з акружэньня. Як піша Шыманскі, “падчас бою, пры прарыве, Рабушка быў цяжка

паранены ў твар разрыўнымі кулямі”. Спыніць кроў яны не змаглі, таму “скончылася яго жыцьцё”.[4] Сытуацыя была такая, што не было часу чакаць, калі памрэ цяжкапаранены Рабушка, таму, верагодна, яго дабілі.

У аперацыі за захопе Рабушкі ўдзельнічалі двое чэкістаў, вядомыя пад мянушкамі “Вілейскі” і “Аляксей”. Яны не былі закінутыя з-за лініі фронту — ад пачатку вайны знаходзіліся на акупаванай немцамі тэрыторыі. “Аляксея” (імя і прозьвішча яго не называецца) залічылі ў спэцгрупу 25 сакавіка 1944 г. Ён нарадзіўся ў 1917 г. у Менскім раёне, беларус, беспартыйны, акружэнец Чырвонай Арміі, з партызанамі трымаў сувязь ад сакавіка 1943-га. Уся яго сям’я была расстраляная немцамі.[5]

Камандзірам быў “Вілейскі” (яго імя і прозьвішча М. Шыманскі таксама не называе), 1919 г. н., ураджэнец Смаргонскага раёну, беларус. У верасьні 1939-га арганізоўваў “рабочую гвардыю” ў родных мясьцінах. У 1940 г. скончыў шасьцімесячныя курсы НКВД у Дзісьне, служыў “у міліцыі на аператыўнай рабоце”. Падчас нямецкай акупацыі ў родных месцах знаходзіўся на нелегальным становішчы. З верасьня 1942 г. — сувязны савецкага партызанскага атрада імя Сталіна. Па заданьню камандаваньня ў лютым 1943 г. паступіў на службу ў менскую гарадзкую паліцыю, здабываў для партызанаў зброю, боепрыпасы, разьведдадзеныя. У канцы траўня 1943 г. арыштаваны ў Менску, здолеў уцячы. Патрапіў у спэцгрупу “*Соседи*”, удзельнічаў у дывэрсіях на чыгунцы, з 25 лістапада 1943-га выконваў заданьні спэцгрупы “*Мстители*”. У пачатку сьнежня 1943 г. ён удзельнічаў у забойстве бурмістра Менску Вацлава Іваноўскага.[6]

Дзякуючы яшчэ адной публікацыі ў “Рэспубліцы”[7] мы ведаем, што агентам “Вілейскім” быў Мікалай Мельнікаў, супрацоўнік НКВД, які перад вайной служыў у Віцебску. Аказваецца, ён у 1943 г. ці ў пачатку 1944-га прайшоў спэцпадрыхтоўку ў Падольску, пасьля чаго яго закінулі ў Пухавіцкі раён. У канцы сьнежня 1943 г. (пасьля забойства Іваноўскага) Мельнікаў разам з камандзірам групы быў адкліканы ў Маскву, быў прызначаны намесьнікам начальніка аддзела НКГБ БССР. Пасьля вайны працаваў у Гродне, але неўзабаве захварэў (сухоты) і быў вымушаны выйсьці ў адстаўку. У траўні 1953-га ён памёр. Яго справа захоўваецца ў архіве ўпраўленьня КДБ па Гродзенскай вобласьці.

Падрабязна М. Шыманскі піша пра забойства Вацлава Іваноўскага[8]. Значную ролю ў гэтай аперацыі спэцгрупы “*Мстители*” адыграў агент НКГБ БССР (з 1923 году) “Косьця”, 1908 г. н., ураджэнец Менскай вобласьці, беларус, былы супрацоўнік Акадэміі навук, “добры знаёмы” Іваноўскага. Шыманскі не раскрывае яго прозьвішча, аднак яно вядомае — Івашкевіч.[9]

Высьвятляецца, што існавалі тры варыянты захопу Вацлава Іваноўскага (а яго чэкісты хацелі захапіць жывым). У першым плянавалі выкарыстаць артыстку драмтэатра, каханку Іваноўскага Зэйдліц — запрасіць да яе на вечарынку бурмістра, напаіць яго і схапіць пры выхадзе з кватэры. Аднак Зэйдліц выехала ў Бэрлін і плян сарваўся. Сарваўся і другі варыянт — "Косьця"-Івашкевіч мусіў суправаджаць Іваноўскага дахаты і падаць чэкістам сігнал, каб тыя захапілі бурмістра каля кватэры. Аднак Іваноўскі быў выкліканы з паседжаньня навуковага таварыства немцамі, а "Косьця" там застаўся. Самы цікавы для нас — трэці варыянт. Паводле Шыманскага, Івашкевіч мусіў прывесьці на кватэру Вацлава Іваноўскага савецкіх выведнікаў, якія адрэкамендаваліся б "прадстаўнікамі беларускіх нацыяналістычных арганізацый" ды прапанавалі б "спыніць працу на немцаў і выехаць з гораду". Аднак, пасьля забойства Ўл. Казлоўскага, Іваноўскі не запрашаў дахаты нават знаёмых людзей.[10]

М. Шыманскі не патлумачыў, чаму тыя "прадстаўнікі" беларускіх нацыяналістаў хацелі пераканаць Іваноўскага выехаць з гораду. Адказ на гэтае пытаньне знаходзім у пісьменьніка Івана Новікава. У кнізе "Дарогі скрыжаваліся ў Мінску" ёсьць эпізод, калі савецкія выведнікі зьбіраюцца наведаць бурмістра Менску Вацлава Іваноўскага ад імя "нацыянальнага партызанскага атрада, які стыхійна стварыўся і змагаецца супраць немцаў і супраць бальшавікоў". Яны зьбіраліся прапанаваць яму "агульную барацьбу супраць немцаў і Саветаў, за стварэньне беларускай самастойнай дзяржавы".[11]

У выніку, было вырашана напасьці на Іваноўскага падчас яго вяртаньня з працы дахаты. Сігнал чэкістам аб выхадзе Іваноўскага з будынка падаў "Косьця" і нейкая сувязная (магчыма, яго жонка). Аднак у раёне вуліцы Няміга Іваноўскі аказаў супраціўленьне і быў забіты нападнікамі. Акрамя "Вілейскага"-Мельнікава ў акцыі прымаў удзел "Арлоўскі", 1913 г. н., ураджэнец Менску. Ён працаваў аўтамеханікам у нямецкіх арганізацыях да жніўня 1943 году, калі атрымаў заданьне ад апэратыўнай групы "Беляка" і разам з жонкай выехаў з гораду на "нямецкай аўтамашыне спэцыяльнага прызначэньня", якую вывеў з гаража. Пасьля гэтага патрапіў у атрад "*Мстителей*".[12]

Варта зьвярнуць увагу на тое, што акцыі ў Менску праводзілі беларусы.

***

"У кастрычніку 1943 году Народным камісарыятам дзяржбясьпекі Беларусі была пастаўленая выключна важная, адказная і складаная задача — паралізаваць праводзімую дзейнасьць супраць савецкай улады з боку БНП, БНС, СБМ, — піша М. Шыманскі. — Раскласьці гэтыя арганізацыі і перахапіць у свае рукі кіраўніцтва імі, накіраваць іх

дзейнасьць супраць фашысцкіх акупантаў".[13] Да гэтай апэрацыі было вырашана далучыць спэцгрупу "*Мстители*". Неўзабаве яна атрымала ад наркама дзяржбясьпекі БССР Л. Цанавы "плян дадатковых мерапрыемстваў". Паводле Шыманскага, там былі зьвесткі пра згаданыя структуры, якія *"актыўна супрацоўнічалі з рознымі замежнымі выведкамі ў якасьці шпіёнаў, тэрарыстаў і дывэрсантаў"*.[14]

А пасьля аўтар заблытаўся ў "беларускіх камітэтах". Ён і не здагадваўся, што камітэты беларускай Самапомачы, якія існавалі ў 1940-1941 гг. у Нямеччыне і Польшчы ("генэральнай губэрні") ды БНС 1942-1944 гг. у Беларусі — гэта не адно і тое. Для М. Шыманскага яны ўсе *"правакацыйныя", "антысавецкія фашысцкія арганізацыі"*, якія складаліся са *"здраднікаў Радзімы, беларускіх буржуазных нацыяналістаў і шпіёнаў"* ды змагаліся *"супраць савецкіх патрыётаў"*. *"Практычна ўся дзейнасьць БНС вялася ў цесным кантакце, пад кіраўніцтвам і на сродкі нямецкіх спэцслужбаў"*, — гэта ўжо Шыманскі пераскоквае на перадваенныя камітэты. Паводле М. Шыманскага, БНС дапамагала немцам *"падначаліць беларускі народ"*, *"паралізаваць партызанскі рух". "Пособниками гитлеровцев"* ён называе Ермачэнку, Аляхновіча, Гадлеўскага, Іваноўскага.

Падаем гэтыя цытаты, каб яскрава прадэманстраваць узровень публіцыстаў ці дасьледчыкаў, якія працуюць у архівах КДБ і зацята пішуць вось на гэтыя тэмы. Да таго ж Міхаіл Шыманскі, сьвядома ці не, аб'яднаў у адну дзьве асобы савецкіх агентаў, якія мелі аднолькавы псэўданім — "*Иванов*".

Аказваецца, 11 кастрычніка 1943 году "*Мстители*" атрымалі з Масквы шыфраграму з заданьнем ліквідацыі намесьніка гаўляйтэра Кубэ Кайзера і Казлоўскага. Апошняга пажадана было захапіць жывым, каб пасьля зьнішчыць яго "з групай іншых фашыстаў".[15]

*"Усе высілкі накіраваць на выкананьне заданьня па ўстанаўленьні сувязяў з Івановым. Калі ён на сувязь ня пойдзе, трэба яго ліквідаваць ці захапіць жывым",* — цытуе ці пераказвае дакумэнт М. Шыманскі. Адна з частак артыкула называецца *"Загадочный Иванов"*. Ён лічыўся сувязным. Выйсьці на яго павінна была група **Аляксандра Бабылёва** (1905 г. н., ураджэнец Арлоўскай вобл. Расеі, чырвонаармеец-акружэнец, напачатку партызаніў у брыгадзе Шмырова, у "*Мстителях*" меў псэўданім "Іван Цюрын"). Намесьнікамі былі Міхаіл Ганцоў ("опытный чекист", у НКВД — з 1939 г., у спэцгрупе меў псэўданім "Сьвятлоў") і Фама Хвясько. Вядома, што ў групе быў таксама сувязны "Віцебскі" (30 гадоў, урадэнец Лёзьненскага раёну, беларус, у ворганах НКВД-НКГБ — са жніўня 1940-га).

І хто ж гэты загадкавы "Іваноў"? М. Шыманскі сьцьвярджае, што "ён займаў кіроўнае становішча ў белнацдэмаўскім руху на акупаванай тэрыторыі Беларусі". "Гэта была вельмі каштоўная для чэкістаў крыні-

ца інфармацыі, і адносіны да яе, натуральна, былі асаблівыя", — піша аўтар артыкула ў "Рэспубліцы". А далей, калі ён вырашыў распавесьці пра біяграфію "Іванова", пачынаецца сапраўдны "цырк".

*"Нарадзіўся "Іваноў" у 1917 годзе ў Сталінградзе, рускі,* — цытуем мы М. Шыманскага, які, нагадаем, карыстаўся архівамі КДБ. — *Да вайны — камандзір аддзяленьня памежвойск НКВД. Па заданьні НКГБ БССР знаходзіўся ў тыле праціўніка, дзе паказаў сябе са станоўчага боку. Вось і ўсё, нават сапраўднага яго прозьвішча, імя імя па бацьку, на жаль, ня можам назваць".*[16]

Шаноўны спадар М. Шыманскі, як кадравы супрацоўнік НКВД ды яшчэ рускі мог заняць *"кіроўнае становішча ў белнацдэмаўскім руху"?* Не задумваліся вы пра гэта? І імя гэтага агента, якое вы "ня можаце назваць", ужо 15 гадоў як вядомае — яго абнародаваў прафэсар **Эмануіл Іофе**! У адным з артыкулаў ён працытаваў кароткую справаздачу камандзіра спэцгрупы маёра С. Казанцава ад лютага 1944-га. Там згадваецца адзін з рэзыдэнтаў, які працаваў у Менску: **"Няборскі Мікалай Мікалаевіч**, псэўданім "**Іваноў**", у мінулым лейтэнант Чырвонай Арміі, землямер Менскай раённай управы".[17]

Але Няборскі-Іваноў ня быў у "белнацдэмаўскім руху". Насамрэч, чэкісты вельмі цанілі іншага свайго агента, які меў псэўданім "Іваноў". Атрымліваецца, што гэта яго меў на ўвазе М. Шыманскі, калі пісаў, што *"праз Іванова "Мстители" плянавалі скрасьці Казлоўскага і Іваноўскага".* Але, відаць, ён на кантакт не ішоў і дапамагчы чэкістам не жадаў. Толькі так можна патлумачыць, чаму яны спрабавалі заманіць "Іванова"-"нацдэма" ў нейкі населены пункт пад Менскам, каб яго "сакрэтна зьняць" і даставіць на базу "*Мстителей*".[18] Далей Шыманскі распавядае пра ліквідацыю Ўладзіслава Казлоўскага (падрабязна на ёй спынімся іншым разам), аднак пра "Іванова" ўжо маўчыць. Вось так, столькі было словаў, а як дайшло да справы, дык той агент чамусьці зьнікае.

Паспрабуем разабрацца з агентамі "Івановымі". З Мікалаем Няборскім мы ўжо пазнаёміліся. Цяпер распавядзем, адкуль мы даведаліся сапраўднае прозьвішча іншага "Іванова"-"нацдэма". У маскоўскай газэце "*Совершенно секретно*" яшчэ ў 1996 годзе былі апублікаваныя вытрымкі з паведамленьня наркама дзяржбясьпекі СССР Мяркулава ў Дзяржаўны Камітэт абароны і асабіста Сталіну ад жніўня 1943 году:

*"НКГБ Беларускай ССР перакінутая ў раён Мінску апэратыўная група з адказных працаўнікоў і праверанай агентуры НКГБ БССР, якую ачольвае падпалкоўнік дзяржаўнай бясьпекі ЮРЫН С. В. Для выкананьня пастаўленай задачы ў гор. Мінску група мае наступныя магчымасьці:*

***1)У Мінску жыве агент НКГБ БССР "Іваноў". [...]***

***"Іваноў", 1909 году нараджэньня, беларус, з вышэйшай аду-***

***кацыяй, літаратар, прафэсар, у мінулым удзельнік контррэвалюцыйнай арганізацыі “Саюз Вызваленьня Беларусі”.***

***Немцы зрабілі “Іванова” акадэмікам і прызначылі намесьнікам генэральнага камісара Беларусі В. Кубэ. [...]***

*2)У Мінску таксама жыве агент НКГБ БССР “Пегас”. [...]*

*“Пегас”, 1896 году нараджэньня, кампазітар, был[ы] начальнік музычнага аддзела ўпраўленьня па справах мастацтваў Беларускай ССР. [...]*



III. По гор. Минску.

а) НКГБ Белорусской ССР переброшена в район Минска оперативная группа из ответственных работников и проверенной агентуры НКГБ БССР, возглавляемая подполковником государственной безопасности тов. ЮРИНЫМ С.В. Для выполнения поставленной задачи в гор. Минске группа располагает следующими возможностями:

1) В Минске проживает агент НКГБ БССР «Иванов». <...>

«Иванов», 1909 года рождения, белорус, с высшим образованием, литератор, профессор, в прошлом участник контрреволюционной организации «Союз Вызволения Белоруссии».

«Иванов» немцами произведен в академики и назначен заместителем генерального комиссара Белоруссии В.Кубэ. <...>

2) В Минске также проживает агент НКГБ БССР «Пегас». <...>

«Пегас», 1896 года рождения, композитор, быв. начальник музыкального отдела управления по делам искусств Белорусской ССР. <...>

«Пегас» пользуется доверием немцев и по их заданиям выступает по радио с профашистскими докладами.

Группе тов. ЮРИНА дано задание тщательно проверить перечисленных выше агентов и, в зависимости от результатов проверки, использовать их для выполнения задачи.

Независимо от результатов проверки и переговоров с упомянутой агентурой, тов. Юрину дано задание установить связь и использовать для участия в операции по «Ворону» созданные НКГБ Белорусской ССР семь резидентур, в составе 27-ми осведомителей, в том числе:

*“Пегас” карыстаецца даверам у немцаў і па іх заданьнях выступае па радыё з прафашысцкімі дакладамі.*

*Групе тав. ЮРЫНА дадзена заданьне дасканальна праверыць пералічаных вышэй агентаў і, у залежнасьці ад вынікаў праверкі, выкарыстаць іх для выкананьня задачы”.*[19]

Дадзеныя гэтага “Іванова” супадаюць з дадзенымі літаратара **Антона Адамовіча** (1909, г. Менск — 1998, ЗША). Безумоўна, тады ён ня быў ні “акадэмікам”, ні “прафэсарам”, ні тым больш “намесьнікам Кубэ” — чэкісты відавочна перабольшвалі значэньне свайго агента. Насамрэч, Адамовіч-“Іваноў” уваходзіў у Галоўную раду БНС, быў адным з кіраўнікоў Беларускага навуковага таварыства, рэфэрэнтам па справах прапаганды і прэсы пры Генэральным камісарыяце Беларусі, супрацоўнікам “Беларускай газэты”.

Цікава, што апошні раз Адамовіча-“Іванова” савецкая дзяржбясьпека спрабавала выкарыстаць 15 кастрычніка 1943-га для арганізацыі забойства гаўляйтэра Готбэрга (наступніка забітага ў верасьні 1943 году В. Кубэ). Ён мусіў падаць з будынка Генэральнага камісарыяту сігнал снайперу, які сядзеў у блізкім тэатры. Як піша расейскі дасьледчык Барыс Сакалоў, “у гэты дзень Готбэрг адсутнічаў у горадзе, а праз некалькі дзён Іваноў быў арыштаваны”.[20] Ці арыштоўваўся



Адамовіч ці не, дакладна невядома. Ён у канцы восені — у пачатку зімы выехаў зь Менску ў Бэрлін. Пакуль мы ня можам дакладна сказаць, ці ён сам выйшаў з-пад кантролю савецкіх спэцслужбаў, ці тут прыклалі сваю руку і спэцслужбы нямецкія. Беларускі эмігрант Антон Шукелойць сьцьвярджае, што ад Адамовіча спрабавалі пазбавіцца нямецкія спэцслужбы, але замах на яго аказаўся няўдалы, і яго проста выслалі ў Бэрлін (ці не раскрыў ім "Іваноў", што яго "трывожаць" савецкія агенты?).[21]

Такім чынам, мы разабраліся і з другім "Івановым" — Антонам Адамовічам. Прыгадваючы гісторыю з нязьдзейсьненым замахам на гаўляйтэра Готбэрга, варта адзначыць, што спробы новых замахаў рабіліся савецкімі дывэрсантамі аж да ліпеня 1944 году. Напрыклад, у пачатку траўня 1944-га спэцгрупай "Градава" (С. Ваўпшасава) была дзеля гэтага сфармаваная апэратыўная група ў складзе 11 чалавек, а сярод іх — "**Настаўніка**" ("Учителя", пра яго мы пагаворым пазьней), вядомых ужо нам "Іванова", "Вілейскага", "Арлоўскага", "Аляксея".[22] Што да "Іванова", дык, верагодна, Валерый Надтачаеў мае на ўвазе Мікалая Няборскага. Пішам так асьцярожна, бо неўзабаве распавядзем пра яшчэ аднаго савецкага агента "Іванова", ужо трэцяга... Да таго ж, Надтачаеў сьцьвярджае, што ў чэрвені 1944 году "Іваноў" і "Вялейскі" патрапілі ў засаду пад Менскам і ў перастрэлцы загінулі.[23] Дзіўна, бо вышэй мы пісалі пра "Вілейскага" і яго лёс — паводле афіцыйных зьвестак, чэкіст Мікалай Мельнікаў памёр у 1953 годзе. А можа, як у справе з "Івановымі", быў яшчэ "Вілейскі"?

***

Мы згадалі пра агента/рэзыдэнта "Настаўніка". Вось што пісаў пра яго наркам дзяржбясьпекі СССР Мяркулаў у Дзяржаўны Камітэт абароны і Сталіну ў жніўні 1943 году:

*"У склад аператыўнай групы тав. ЮРЫНА ўваходзіць таксама агент "Настаўнік", які ўжо быў у Мінску па заданьню НКГБ БССР.*

*"Настаўнік" [...] 1912 году нараджэньня, беспартыйны, ураджэнец гор. Хвалынска, Саратаўскай вобласьці, з вышэйшай адукацыяй, скончыў Беларускі Педагагічны Інстытут, да вайны выкладчык сярэдняй школы ў Сірацінскім раёне Мінскай вобласьці.*

*Пасьля акупацыі Беларусі застаўся працаваць у Сірацінскай*

*раённай управе на пасадзе інспектара школаў. У верасьні 1942 году сыйшоў у партызанскі атрад тав КАРОТКІНА, якім быў выведзены за лінію фронту і пасьля вярбоўкі НКГБ БССР закінуты ў гор. Мінск, з заданьнем стварэньня агентурнай сеткі.*

***Па заданьню НКГБ БССР “Настаўнік” праз завербаванага агента зьдзейсьніў ліквідацыю аднаго з выбітных дзеячоў “Беларускай Нацыянальнай Самапомачы”.***[24]

1) Резидент «Саша» <...> работает заведующим гаража «Белорусской газеты», владеет немецким языком, пользуется доверием у немецких властей.
2) Агент «Заря» <...> белорусс, работает в отделе пропусков генерального комиссариата Белоруссии, имеет связи среди работников комиссариата и обеспечивает агентуру НКГБ БССР пропусками для прохода в гор. Минск.

В состав оперативной группы тов. ЮРИНА входит также агент «Учитель», уже бывавший в Минске по заданию НКГБ Белорусской ССР.

«Учитель» <...> 1912 года рождения, беспартийный, уроженец гор. Хвалынска, Саратовской области, с высшим образованием, окончил Белорусский Педагогический Институт, до войны преподаватель средней школы в Сиротинском районе Минской области.
После оккупации Белоруссии остался работать в Сиротинской районной управе на должности инспектора школ. В сентябре 1942 года ушел в партизанский отряд тов. КОРОТКИНА, которым был выведен за линию фронта и после вербовки НКГБ БССР заброшен в гор. Минск, с заданием создания агентурной сети.
По заданию НКГБ БССР «Учитель» через завербованного агента осуществил ликвидацию одного из видных деятелей «Белорусской Национальной Самопомощи». <...>

Кроме того в распоряжение тов. ЮРИНА для обеспечения подготовки ликвидации «Ворона» приданы четыре оперативные группы НКГБ БССР, общей численностью 37 человек, действующие в районе Минска и имеющие опыт боевой работы в тылу противника.

Біяграфія “Настаўніка” выдатна накладаецца на біяграфію “беларускага савецкага пісьменьніка і крытыка” **Уладзімера Карпава** (1912 — 1977). У 1921 годзе яго сям’я ўцякла ў Беларусь, ратуючыся ад голаду. Аднак “аддзячыў” сваёй другой Бацькаўшчыне Карпаў арганізацыяй забойства нейкага вядомага беларускага дзяяча. Магчыма, ксяндза **Вінцэнта Гадлеўскага**, аднаго з лідараў Беларускага нацыянальнага Супраціву Паводле адной з версіяў, летам-восеньню 1942-га ён вёў перамовы наконт сумеснай антыфашыстоўскай дзейнасьці з савецкай выведкай, апошняя пазьней ад яго і пазбавілася, падкінуўшы кампрамат нацыстам.[25] А “завэрбаваным агентам” Карпава-“Настаўніка” мог быць **Пятро Кісель**, дырэктар менскай школы № 29 у Траецкім прадмесьці. Віктар Ча-

батарэвіч, супрацоўнік В. Гадлеўскага ў Менску, пісаў у 1962 годзе да Кастуся Акулы: *“Ксяндза выдаў менскі настаўнік Кісель, які, належачы да даверанага людзей Гадлеўскага, адначасна быў савецкім партызанам і ад іх* ***меў загад зьнішчыць Гадлеўскага нямецкімі рукамі****”.*[26]



***Уладзімер Карпаў***

Паколькі дагэтуль гэты бок “дзейнасьці” Карпава малавядомы, ня дзіўна, што сёлета пра яго “гераічную біяграфію” распавядала газэта ТБМ “Наша слова” (з нагоды 100-х угодкаў з дня нараджэньня).[27]

Міхаіл Шыманскі піша: “Адным з самых каштоўных выведнікаў спэцгрупы “Мстители” ў Мінску быў Настаўнік. Ён ачольваў групу з трох чалавек. За час з 19 сьнежня 1942 г. да 15 сакавіка 1943-га Настаўнік прыцягнуў да актыўнай барацьбы з акупантамі 35 чалавек. Гэтыя людзі былі ўкаранёныя на працу ва ўстановах нямецкіх акупацыйных уладаў”.[28]

Такім чынам, Карпаў-“Настаўнік” займаўся вербоўкай працаўнікоў розных установаў, найперш у Менску. Кожны зь іх мусіў даказаць сваю адданасьць ці савецкай радзіме, ці органам савецкай дзяржбясьпекі. Той жа М. Шыманскі адну з частак свайго артыкула назваў так: **“Иванов: проверка на преданность”.**

Гаворка ідзе пра трэцяга агента дзяржбясьпекі “Іванова”, які ў сакавіку 1943-га зьдзейсьніў ліквідацыю лідара беларускіх нацыянал-сацыялістаў Фабіяна Акінчыца. Шыманскі не называе яго прозьвішча, хоць як і ў сытуацыі з “Настаўнікам”, гэта не таямніца. Гэтым “Івановым” быў былы супрацоўнік рэдакцыі “Беларускай газэты” **Алесь Матусэвіч**. Сувязь зь ім чэкісты спэцгрупы “*Мстители*” ўстанавілі ў пачатку 1943 году. Спачатку Матусэвіч выканаў некалькі іх нескладаных заданьняў, найперш дапамагаў зьбіраць зьвесткі пра кіраўніцтва і дзейнасьць беларускіх “контррэвалюцыйных” арганізацый, “здабываў каштоўныя дакумэнтальныя дадзеныя”.[29]

Найхутчэй гаворка ідзе пра перададзеныя ім чэкістам праграмныя дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі, пра “Бюлетэнь БНП”.

“Распрацоўцы апэрацыі па зьнішчэньні Акінчыца папярэднічала працяглая падрыхтоўка з боку Настаўніка, — піша М. Шыманскі. — **Партызан Іваноў быў старанна правераны на адданасьць, і толькі пасьля гэтага Настаўнік прыцягнуў яго да групавой акцыі над кіраўнічым складам БНС**. Але з-за шэрагу абставінаў, якія

скlаліся, **дадзенае заданьне Іваноў выканаць ня змог.**

У канцы лютага 1943 году Іваноў атрымаў ад Настаўніка новае заданьне — пачаць арганізацыю індывідуальных акцыяў. Прычым Настаўнік паставіў перад ім першачарговую задачу канкрэтна па Акінчыцу".[30]

Як бачым Шыманскі падае сэнсацыйную інфармацыю і сам гэтага не разумее. Дагэтуль было невядома, што савецкія спэцслужбы плянавалі адначасова ліквідаваць усё кіраўніцтва БНС. Можна здагадвацца, што гэта была міна, альбо атрута. І, відаць, толькі дзякуючы сабатажу Матусэвіча гэтай трагедыі ўдалося пазьбегнуць. Затое Алесь Матусэвіч паўдзельнічаў у забойстве ў Менску кіраўніка беларускіх нацыянал-сацыялістаў Фабіяна Акінчыца.

"Апэрацыя праводзілася пад кіраўніцтвам рэзыдэнта "Настаўніка", якому падначальваліся агенты "Іваноў", "Мінскі" і баец-партызан Прылепа", — пішуць аўтары кнігі *"Щит и меч Отечества"*. [31]

З публікацый-успамінаў беларускага эмігранта Антона Шукелойця яшчэ ад пачатку 1990-х вядома, што Алесь Матусэвіч быў сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі. Пасьля ён перабраўся ў лес да савецкіх партызанаў. "Тады ён у тых партызанах мусіў жа відаць нечым паказаць сябе, — распавядае А. Шукелойць. — І даручылі яму забойства гэтага Акінчыца. І ня ён забіваў яго, ня ён страляў..., але ён арганізаваў забойства... тут ёсьць рука беларускага падпольля".[32]

Ня будзем тут дыскутаваць з Ю. Туронкам, які трымаецца версіі, што ліквідацыю Фабіяна Акінчыца арганізаваў кіраўнік БНС Ян Ермачэнка. Мы крыху распавядзем пра асобу гэтага агента "Іванова"-Матусэвіча.

Алесь (Аляксандар Лявонцьевіч) Матусэвіч (1902 — 1985) нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў вёсцы Тхарніца цяперашняга Лагойскага раёну. Журналісцкую працу пачаў з 1924-га ў газэце "Беларуская вёска", дзе быў рэпарцёрам. Ад 1936 году — у газэце "Звязда". Падчас нямецкай акупацыі працаваў выпускаючым рэдактарам у "Менскай газэце" (пазьней перайменаванай на "Беларускую газэту"). З выведкай савецкіх партызанаў (брыгада "Штурмавая", што дзейнічала ў Лагойскім раёне) супрацоўнічаў ад кастрычніка 1942 г., яго сувязнымі былі Соф'я Куніцкая і Сабіна Сасноўская. Перадаваў у лес выведчыя зьвесткі, шрыфты, фарбу. З лютага 1943 году — у партызанах, займаўся выданьнем партызанскай газэты. Пасьля вайны зноў працаваў у "Звяздзе", быў адказным сакратаром Саюза журналістаў БССР. Памёр у жніўні 1985 году.[33]

У шматтомным выданьні "Ворганы дзяржаўнай бясьпекі СССР у гады Вялікай Айчыннай вайны" знаходзім нямала цікавых зьвестак пра Матусэвіча. Аўтары зборніка паведамляюць пра "Іванова": "Агент "Іваноў" знаходзіўся ў агентурнай сетцы ад 1929 г. У пэрыяд Вялікай




***Зьлева направа: Макар Пасьлядовіч, Алесь Матусэвіч, Уладзімір Мацьвееў, Алесь Пальчэўскі, Мікалай Лазарчык, Дзьмітрый Малевіч, 1971 г.***

Айчыннай вайны жыў у г. Мінску і да 1943 г. працаваў сакратаром рэдакцыі антысавецкай нацыяналістычнай газэты “Беларуская газэта”. У 1942 г. устанавіў сувязь з партызанамі і 5 сакавіка 1943 г. разам з рэзыдэнтам “Мінскім” прыняў удзел у акцыі адплаты над здраднікам Акінчыцам, пасьля чаго сыйшоў у партызанскі атрад. Пасьля вайны выкарыстоўваўся ворганамі МГБ БССР як агент-“*розыскник*”.[34]

Цікавая інфармацыя. Аказваецца, Алесь Матусэвіч быў агентам савецкай дзяржбясьпекі ад 1929 году, а ў паваенны час ён дапамагаў НКГБ/МГБ шукаць беларускіх нацыяналістаў, якія засталіся ў БССР. Вылічыць у зборніку, што менавіта Матусэвіч — “Іваноў” — даволі лёгка, бо там даецца і такая даведка: “Матусэвіч Аляксандар Лявоньцьевіч (1902 — ?) — кіраўнік групы падпольнікаў у г. Мінску. У пэрыяд акупацыі жыў у г. Мінску і працаваў вярстальшчыкам фашысцкай газэты “Беларуская газэта”. З лютага 1943 г. зьяўляўся ўдзельнікам разьведвальнай групы “Учитель”. У сакавіку 1943 г. пасьля забойства Акінчыца сыйшоў у партызанскі атрад “За Отечество” брыгады “Штурмавая”, дзе і знаходзіўся да 12 ліпеня 1944 г.”.[35]

Такім чынам, рэдактары-укладальнікі зборніка выдалі сапраўднае прозьвішча агента “Іванова” (калі не хацелі заблытаць чытачоў, што малаверагодна). Там жа зьмешчаная справаздача агента НКГБ БССР “Іванова” [Матусэвіча] аб аперацыі па ліквідацыі Ф. Акінчыца, узятая з Цэнтральнага архіву ФСБ Расеі.[36]

Цікавае сьведчаньне “Іванова”-Антона Адамовіча ў 1985 годзе атрымаў гісторык Ю. Туронак. Высьвятляецца, што напярэдадні забойства Фабіяна Акінчыца Алесь Матусэвіч-“Іваноў” няўдала спрабаваў яго атруціць. Нібыта, Матусэвіч запрасіў да сябе Акінчыца,

Казлоўскага і Адамовіча, аднак тады забіць лідара нацыянал-сацыялістаў не ўдалося.[37]

У сваёй аўтабіяграфіі ўжо на эміграцыі Антон Адамовіч пісаў, што ён *"разам зь іншымі, галоўна маладымі беларусамі",ўдзельнічаў у заснаваньні "нелегальнае антынямецкае "Беларускае незалежніцкае партыі", па лініі гэтае партыі прычыняюся да падрыхтаваньня ліквідацыі нямецкага агента Акінчыца".*[38]

Таямніцай для нас пакуль застаецца асоба савецкага агента "**Міхася**", які, як і Матусэвіч, быў сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі. У пляне 4-га аддзела НКГБ БССР па арганізацыі агентурна-апэратыўнай і выведча-дывэрсійнай працы ў акупаваных раёнах Мінскай і Віцебскай абласьцей БССР ад 29 чэрвеня 1943 г. ставілася задача па набыцьці "новай кваліфікаванай агентуры" і яе ўкараненьні ў кіраўніцтва БНП:

*"Праз агента "Міхася", які асабіста знаёмы з кіруючымі працаўнікамі БНП — Сянкевічам, Караленкам і інш., і Матусэвіча, былога працаўніка рэдакцыі газэты "Беларуская газэта", які мае сувязі з некаторымі кіруючымі працаўнікамі БНП, устанавіць кіруючы склад і арганізацыйную структуру БНП. Вывучыць магчымасьці вярбоўкі агентуры зь ліку кіруючых працаўнікоў БНП. Праз гэтых агентаў здабываць найважнейшыя рашэньні і пастановы БНП"*.[39]

Па адной з версій, "Міхась" яшчэ жывы. Праўда, ён адмаўляе, што быў савецкім агентам.

**Аляксандар Будрэвіч**

[1] Будрэвіч А. Гучныя выкраданьні "беларускіх калябарантаў" // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 2(9), б. 65-69.
[2] Шиманский М. Бесстрашные "Мстители" // Рэспубліка, 2011, 22 лютага, № 34; Яго ж: По следу бургомистра // Рэспубліка, 2011, 12 сакавіка, № 46; В Берлин он не вернулся // Рэспубліка, 2011, 7 траўня, № 84; По плану "Т " // Рэспубліка, 2011, 20 траўня, № 92, 21 траўня, № 93.
[3] Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 2(9), б. 65-67.
[4] Шиманский М. По плану "Т " // Рэспубліка, 2011, 21 траўня, № 93.
[5] Тамсама.
[6] Шиманский М. По следу бургомистра // Рэспубліка, 2011, 12 сакавіка, № 46.
[7] Новицкая Л. Война за линией фронта // Рэспубліка, 2010, 6 траўня, № 81.
[8] Шиманский М. По следу бургомистра // Рэспубліка, 2011, 12 сакавіка, № 46.
[9] Пра ролю агента НКГБ БССР "Косьці" (Івашкевіча) ў забойстве Вацлава Іваноўскага гл. таксама: Да пытаньня перамоваў беларускіх нацыяналістаў з "сябрамі ангельскага ўраду" ў 1943 годзе // Беларускі Рэзыстанс, 2009. № 1(6), б. 123-129.
[10] Рэспубліка, 2011, 12 сакавіка, № 46.

[11] Новікаў І. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску. Т. 2. — Мінск, 1988, б. 242-243.
[12] Рэспубліка, 2011, 12 сакавіка, № 46.
[13] Шиманский М. Бесстрашные "Мстители" // Рэспубліка, 2011, 22 лютага, № 34; http://respublika.info/5197/exclusive/article45618/
[14] Тамсама.
[15] Органы государственной безопасности СССР в Великой Отечественной войне. Сборник документов. т. 4, кн. 1. Секреты операции "Цитадель". 1 января — 30 июня 1943 года. — Москва: "Русь", 2008, б. 391.
[16] Рэспубліка, 2011, 22 лютага, № 34; http://respublika.info/5197/exclusive/article45618/
[17] Иоффе Э. От какой мины взорвался Кубе? // Имя, 1997, 4 красавіка, № 13 (94). Гэты дакумэнт пасьля неаднаразова цалкам публікаваўся, у тым ліку ў кнізе Мікалая Дуброўскага, якая даступная ў Сеціве. Гл.: Дубровский Н. Бессмертие подвига. Документальная повесть. — Минск: Народная асвета, 2007, б. 103; http://cs10671.userapi.com/u142591793/docs/7e060efa5705/Dubrovsky_Bessmertie_podviga.pdf
[18] Рэспубліка, 2011, 22 лютага, № 34; http://respublika.info/5197/exclusive/article45618/
[19] Решин Л. Охота на «Ворона» // Совершенно секретно (Масква), 1996, № 2, люты, б. 12.
[20] Соколов Б.В. Оккупация. Правда и мифы. — Москва: АСТ, 2002; http://militera.lib.ru/research/sokolov3/index.html
[21] Пазьняк З. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. — Варшава-Вільня: "Беларускія ведамасьці", Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве, 2003, б. 69-70.
[22] Надтачаев В. Погоня за гауляйтером // Во славу Родины, 2011, 10 лістапада, № 214; http://vsr.mil.by/2011/11/10/pogonya-za-gauplyajterom/
[23] Тамсама.
[24] Совершенно секретно (Масква), 1996, № 2, люты, б. 12-13.
[25] Больш пра гэта гл.: Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1(3), б. 9-13.
[26] Юрэвіч Л. Шматгалосы эпісталярыюм. Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні. — Мінск: "Кнігазбор", 2012, б. 254, 255.
[27] 100 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Карпава // Наша слова, 2012, 22 лютага, № 8.
[28] Шиманский М. В Берлин он не вернулся // Рэспубліка, 2011, 7 траўня, № 84.
[29] Тамсама.
[30] Тамсама.
[31] Щит и меч Отечества. — Минск, 2006, б. 142.
[32] Гутаркі з Антонам Шукелойцем, б. 86-87.
[33] Мяснікоў А. Дзядзька Алесь. Да 100-годдзя з дня нараджэння ветэрана "Звязды" Алеся Матусевіча // Звязда, 2002, 25 траўня, № 108-109. http://www.zvyazda.minsk.by/second.html?r=28&p=16&archiv=25052002
[34] Органы государственной безопасности СССР в Великой Отечественной войне. Сборник документов. т. 4, кн. 1, б. 389.
[35] Тамсама, б. 392.
[36] Тамсама, б. 389-392.
[37] Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. — Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006, б. 381.
[38] З архіву Антона Адамовіча // Запісы ([БІНіМ], Нью-Ёрк — Менск), 2011, № 34, б. 257. У мінулым нумары "БР" друкавалася сьведчаньне Антона Шукелойця пра галасаваньне кіраўнікоў БНП па сьмяротным прысудзе Акінчыцу, які было даручана выканаць сябру БНП Алесю Матусэвічу. Гл.: Ёрш С. Маўчаньне Грыбоўскага // Беларускі Рэзыстанс, 2012, № 1(12), б. 7
[39] Органы государственной безопасности СССР в Великой Отечественной войне. Сборник документов. т. 4, кн. 1. Секреты операции "Цитадель". 1 января — 30 июня 1943 года. — Москва: "Русь", 2008, б. 636, 637.

# ПРА РУСКАГА АФІЦЭРА ПАЛКОЎНІКА ЎСЬПЕНСКАГА

Неаднаразова ў розных беларускіх выданьнях апошняга дзесяцігодзьдзя даводзілася сутыкацца з біяграфічнай даведкай палкоўніка **Аляксандра Ўсьпенскага**. Яго прадстаўляюць там, як "беларускага дзеяча". Напрыклад, гісторыкі, якія рабілі камэнтары да "Кароткага нарыса беларускага пытаньня", прадставілі афіцэра наступным чынам:

*"Усьпенскі Аляксандар — беларускі вайсковы дзеяч, палкоўнік…".*[1]

Польскія аўтары "Нарыса…" называюць Усьпенскага *"адным з арганізатараў беларускага вайсковага руху"*.[2]

Але ці быў рускі афіцэр Аляксандар Усьпенскі "беларускім вайсковым дзеячом" і "арганізатарам беларускага вайсковага руху"? На наш погляд, ня быў! Аднак спачатку вернемся да біяграфіі гэтага чалавека. Вось што падаюць камэнтатары "Нарыса…" Алесь Пашкевіч, Андрэй Вашкевіч і Андрэй Чарнякевіч:

*"…1 лютага 1919 г.* [Усьпенскі] *быў прызначаны камандуючым 1-га батальёну 1-га Гарадзенскага беларускага палка і кіраўніком падафіцэрскай школы. У канцы красавіка 1919 г. кароткі час быў камандзірам палка, падпісаў пагадненьне з польскім камандаваньнем, каб замест эвакуацыі ў Літву пакінуць яго ў Горадні. Летам 1919 г. на кароткі час арыштоўваўся палякамі. У верасьні 1920 г. — камэндант афіцэрскіх курсаў у Літве. З 27 верасьня па 9 кастрычніка 1920 г. кіраваў фармаваньнем беларускага батальёну ў складзе літоўскай арміі, які пазьней узначаліў. У пачатку 1920-х гг. кіраваў штабам беларускай антыпольскай партызанкі ў Літве. На чэрвень 1924 г. знаходзіўся ў м. Лейпоны. Аўтар успамінаў "І-шы беларускі полк у Горадні і як палякі яго раззброілі"*.[3]

Дзіўна, адкуль жа ўзяўся гэты "беларускі дзеяч" зімой 1919-га? Чаму ў біяграме няма ніякай інфармацыі пра яго ранейшую дзейнасьць? Магчыма, гісторыкі яе не выявілі, хаця зрабіць гэта вельмі проста. У інтэрнэце ёсьць артыкул Канстанціна Пахалюка, прысьвечаны Ўсьпенскаму.[4] Пра месца яго нараджэньня ў 1872 годзе нічога не паведамляецца. Вядома, што Аляксандар Усьпенскі скончыў Літоўскую духоўную праваслаўную сэмінарыю, аднак сьвятаром ня стаў.



***Аляксандар Усьпенскі, пачатак 1930-х.***

У 1891 годзе ён пайшоў шарагоўцам у 108-ы Саратаўскі полк. На пачатак Першай сусьветнай вайны Аляксандар Усьпенскі ў ранзе капітана камандаваў 16-й ротай 106-га Уфімскага палка 27-й дывізіі 3-га армейскага корпуса, што ўваходзіў у склад 1-й рускай арміі. Ваяваў ва Ўсходняй Прусіі. За баі восені 1914-га атрымаў рангу падпалкоўніка (загад выйшаў летам 1915-га). У лютым 1915-га на Аўгустоўшчыне разам з разьбітымі часткамі 27-й дывізіі (тады яна ўжо ўваходзіла ў 20 корпус) трапіў у нямецкі палон. Усьпенскі знаходзіўся там да канца 1918-га, калі быў вызвалены і прыехаў зь Нямеччыны ў Летуву.[5]

Пра тое, што было далей, А. Усьпенскі пазьней напіша ў сваіх мэмуарах. Прычым, пра "беларускую службу" ён выказаўся вельмі арыгінальна:

*"Літоўскі народ, асабліва воіны-афіцэры і жаўнеры, зь якімі давялося мне блізка пазнаёміцца за маю доўгую службу ў рускай арміі, мне былі сімпатычныя, духова блізкія і дарагія, і я разам з палк[оўнікам]* ***М. В. Лаўрэнцьевым****, маім был[ым] аднапалчанінам, вырашылі неадкладна запісацца ў шэрагі арміі, якая фармавалася для барацьбы з бальшавікамі за незалежнасьць Літвы. Мы зьявіліся да загадчыка запісам добраахвотнікаў, першага добраахвотніка — палкоўніка Кубілюса. Літоўская Тарыба ў той час вырашыла ў адзінстве з беларусамі фармаваць літоўска-беларускія часткі. Я быў запісаны добраахвотнікам у адну з такіх частак, і з гэтага моманту пачынаецца мая служба ў славутай Літоўскай Арміі…".*[6]

Ну і як вам "беларускі дзеяч"? Дарэчы, Аляксандар Усьпенскі ў міжваенны час жыў у Коўне (Каўнасе), з сярэдзіны 1920-х — на пенсіі. Грошай не хапала, ён дапамагаў сыну ад першага шлюбу (выпускніку Полацкай кадэцкай вучэльні), які знаходзіўся ў бальшавіцкім канцлягеры на Салаўках. Таму працаваў у прыватным тэатры, меў сцэнічны псеўданім "Холмскі". У 1927 годзе ў вар'етэ "Скала" выйшаў са сцэны ў залу ў афіцэрскай форме. Пасьля гэтага Ўсьпенскаму забаранілі яе насіць. З просьбай адмяніць забарону ён дайшоў нават да прэзыдэнта Летувы.[7]

Дарэчы, дакладна невядома, калі Аляксандар Усьпенскі атрымаў рангу палкоўніка (пра яе пішуць у разнастайных беларускіх выданьнях). Але даць яе маглі толькі летувіскія ўлады.

Аляксандар Усьпенскі выдаў некалькі кнігаў успамінаў: *Успенский*




***Афіцэры і падафіцэры беларускага батальёна, Коўна, 1921 г. Палкоўнік А. Усьпенскі стаіць у першым шэрагу ў цэнтры. Зьлева ад яго палкоўнік М. Лаўрэнцьеў (?).***

*А. А. На войне. Вост. Пруссия — Литва. — Каунас. 1932; Успенский А. А. В плену. Воспоминания офицера. Ч. 1. 1915 — 1916 гг. — Каунас, 1933; Успенский А. А. В плену. Воспоминания офицера. Ч. 2. 1917 — 1918 гг. — Каунас, 1933.*[8] Нічога беларускага ў іх няма. Пра тое, што ён “беларускі вайсковы дзеяч”, Усьпенскі згадаў толькі падчас нямецкай акупацыі 1941-1944 гг. Верагодна, пра гэта яму нагадалі… сьледчыя НКВД пасьля арышту ў 1940-1941 гадах. Тады афіцэру ўдалося ацалець ды выйсьці на волю пасьля прыходу нямецкіх войскаў. Летам 1943 году ўспаміны Ўсьпенскага пра ўдзел у беларускіх аддзелах літоўскага войска друкавала летувіская газэта “Ateitis”.[9] а яшчэ раней — бэрлінская газэта “Раніца”.[10]

Паводле памылковай вэрсіі Канстанціна Пахалюка, *“пасьля акупацыі рэспублікі савецкай арміяй у 1940 годзе А. А. Усьпенскі эмігруе, будзе жыць у Празе”*.[11] Найхутчэй, ён сапраўды апынуўся ў Празе, але пазьней — у 1944 годзе. Паколькі расейская эміграцыя нічога ня ведае пра лёс Усьпенскага, ён мог патрапіць пад “зачыстку белагвардзейцаў”, якую вясной-летам 1945-га ў Празе праводзілі савецкія спэцслужбы. Пахалюк піша, што *“канчаткова сьлед… рускага афіцэра… губляецца пасьля 1945 году”*.[12]

Ня быў “беларускім вайсковым дзеячом” і палкоўнік Лаўрэнцьеў,

“аднапалчанін” Усьпенскага. Нездарма ў верасьні 1921 году адзін з жаўнераў беларускага батальёну ў летувіскім войску пісаў, што *“…усё беларускае, што было ў ім раней… скасавалі афіцэры-маскалі”*.[13] Гаворка ідзе ўсё пра тых жа Ўсьпенскага, Лаўрэнцьева і шэраг іншых.

**Віктар Каранец**

[1] Кароткі нарыс беларускага пытаньня. — Мінск, 2009, б. 170.
[2] Тамсама.
[3] Тамсама.
[4] Пахалюк К. Александр Арефьевич Успенский // http://hero1914.com/aleksandr-aferevich-uspenskij/
[5] Тамсама.
[6] Успенский А. А. В плену. Ч. 2. 1917 — 1918 гг. — Каунас, 1933, б. 157-158; http://www.grwar.ru/library/Uspensky-capt-2/UC_16.html.
[7] http://hero1914.com/aleksandr-aferevich-uspenskij/; Повседневная жизнь русских Каунаса в 20-30 годы ХХ века // http://www.nedelia.lt/index.php?newsid=8782
[8] Гэтыя выданьні даступныя на наступным сайце: http://www.grwar.ru/library/
[9] Беларускі голас (Вільня), 1943, 6 жніўня.
[10] Палкоўнік Усьпенскі. 1-шы беларускі полк у Горадні й як палякі яго разброілі // Раніца (Бэрлін), 1943, 10 студзеня, № 1-2; 24 студзеня, № 4 (116) ды інш.
[11] http://hero1914.com/aleksandr-aferevich-uspenskij/
[12] Тамсама.
[13] Латышонак А. Жаўнеры БНР. — Беласток — Вільня: Беларускае Гістарычнае Таварыства — Інстытут беларусістыкі, 2009, б. 87.

# “САЮЗ АКТЫЎНАЙ БАРАЦЬБЫ” — ПАПЯРЭДНІК БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНІЦКАЙ ПАРТЫІ?

Гісторыя беларускага нацыяналістычнага руху ў 1930-х у Заходняй Беларусі маладасьледаваная. Выглядае ён кволым, бо толькі станавіўся на ногі. Таму была досыць абмежаваная дзейнасьць: арганізацыйная, прапагандовая. “Сьлядоў” гэтыя арганізацыі пакінулі мала, вось і абдзеленыя яны ўвагай дасьледчыкаў.

Тагачасныя ўмовы ў Заходняй Беларусі не спрыялі актыўнаму пашырэньню беларускага нацыяналістычнага руху. Арганізацыі і суполкі нацыяналістычнага характару, якія існавалі ў пачатку 1920-х гадоў, да 1930-х на тэрыторыі тагачаснай Польшчы ўжо спынілі сваю дзейнасьць. Беларускі рух падпаў пад уплыў бальшавікоў і розных згуртаваньняў левага кірунку. Пад уплывам і па заданьні савецкай агентуры пракамуністычны і камуністычны актывы вялі барацьбу супраць нават непалітычных нацыянальных арганізацый, ім непадкантрольных (іх наўпрост называлі “фашысцкімі”), стараліся паралізаваць іх уплыў на сялянства.

Аднак ужо да сярэдзіны 1930-х сытуацыя мяняецца. З аднаго боку, адыгралі сваю ролю польскія рэпрэсіі супраць камуністычнага падпольля і яго ўдзельнікаў. Нямала людзей расчараваліся, спынілі палітычную дзейнасьць пасьля вяртаньня са зьняволеньня. Адпаведна ўплывы КПЗБ і блізкіх да яе арганізацый зьмяншаюцца. З другога боку, пачынае даваць плён нацыянальна-культурная, асьветніцкая праца асобных дзеячоў на месцах. Зьяўляюцца асяродкі, у якіх гартуецца беларуская моладзь, вольная ад камуністычных уплываў. Адныя вучацца ў беларускіх гімназіях, іншыя — у польскіх. А далей яны здабываюць вышэйшую адукацыю — у Вільні, Варшаве, альбо едуць за мяжу — у Прагу, Бэрлін, Бялград. У гэтай моладзі зьяўляюцца свае арганізацыі — Беларускі Студэнцкі Саюз у Вільні і Аб’яднаньне Беларускіх Студэнцкіх Арганізацый з цэнтрам у Празе. Выходзяць свае пэрыёдыкі — віленскія “Шлях моладзі”, “Студэнцкая думка”, “25 Сакавіка”. Так паўставала новая беларуская інтэлігенцыя, нешматлікая, але загартаваная неспрыяльнымі, цяжкімі ўмовамі змаганьня за сваю нацыянальную самабытнасьць, нацыянальную годнасьць.

Адзін з лідараў беларускага студэнцкага руху ў 1930-х гадах нацыяналіст Мікола Шчорс успамінаў у 1990-х:

*“Цікавая рэч, пад Польшчай моцная* [беларуская] *нацыянальная, нават можна сказаць, нацыяналістычная групоўка была адукавана ў польскіх школах. Пракамуністычная групоўка з іх элементам — у беларускіх школах. Там быў уплыў настаўнікаў…”.*[1]

Беларускі нацыяналістычны рух нараджаўся сярод студэнтаў Ві-

ленскага ўнівэрсытэту імя С. Батуры. Яны былі пад уплывам старэйшых беларускіх дзеячоў (найбольш аўтарытэтны — ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі[2]), ад студэнтаў-украінцаў ведалі пра канспірацыйную дзейнасьць Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў. Беларускае студэнцтва ў Вільні (і адпаведна ў Беларускім Студэнцкім Саюзе) дзялілася на дзьве групы: левых (пракамуністычна настроеныя, эсэры) і правых. Апошнія пасьля 1936 году падзяліліся на нацыяналістаў і прыхільнікаў Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі / Беларускага Народнага Аб'яднаньня, і таму згубілі большасьць. Ідэйным натхняльнікам студэнтаў-нацыяналістаў быў В. Гадлеўскі. Яны пачалі выдаваць свой друкаваны ворган — часопіс "25 Сакавіка" (яго рэдагаваў адзін з найбліжэйшых паплечнікаў Вінцэнта Гадлеўскага Вацлаў Папуцэвіч).

*"Было змаганьне паміж гэтымі групамі,* — успамінае М. Шчорс. — *Да таго часу, пакуль мяне падтрымоўвалі хадэкі (хрысьціянскія дэмакраты), я быў старшынём. Потым… Саветы стварылі недзе ў канцы 30-х гадоў супольны фронт з іншымі палітычнымі не вельмі выразна варожымі групамі. І хадэкі на чале з ксяндзом Станкевічам перайшлі ў супрацоўніцтва з камуністычнай партыяй і дасталі грошай… А я застаўся супраць камуністычных уплываў, супраць Савецкага Саюзу таму, што я, жывучы блізка каля мяжы, арыентаваўся, што робіцца, што дзеіцца ў Савецкім Саюзе, пачынаючы з 1929 года… Усё-такі я стаяў на правільным шляху, а той, хто прэзентаваў расійскі ўплыў, памыляўся"*.[3]

Прыклад таго, як арганізоўваліся і змагаліся ўкраінцы-антыкамуністы, ня мог не ўплываць на беларускіх нацыяналістаў. Да таго ж, у канцы 1938-га — у пачатку 1939 году існавала аўтаномная, а пасьля і незалежная дзяржава "Карпацкая Ўкраіна". Вядома, што група беларусаў з розных краін Эўропы ўдзельнічала ў абароне "Карпацкай Украіны" і, верагодна, усе яны загінулі.[4] У гэты час польская паліцыя адзначае актывізацыю кантактаў віленскіх беларусаў з АУН. Сярод іх, відаць памылкова, згадваўся паэт Максім Танк.[5]

Безумоўна, беларускія нацыяналісты марылі пра такую ж сваю арганізацыю, як АУН. Малавядомы факт, але яна была створаная! У пачатку сакавіка 1939 году польская паліцыя атрымала інфармацыю, што ў Вільні ствараецца канспірацыйная беларуская маладзёжная нацыяналістычная арганізацыя **"Саюз Актыўнай Барацьбы"**. На яе чале стаў Мікола Шчорс.[6]

Дзіўна, але гісторыя стварэньня гэтай арганізацыі не дасьледаваная. Не пакінуў пра гэты факт успамінаў і Шчорс. Праўда, у адным з інтэрвію ён прызнаўся, што "ўдзельнічаў ва ўкраінскім нелегальным зьезьдзе ў Львове".[7] У іншым месцы, праўда, удакладняе, што зьезд быў украінскага студэнцтва з розных краін Эўропы і праходзіў ён у 1935 ці 1936 гадах. На ім Шчорс вітаў прысутных ад імя беларускіх студэнтаў. Зьезд быў разагнаны польскай паліцыяй.[8]

Паводле М. Шчорса, пасьля ўдзелу ў львоўскім зьезьдзе яго выклі-



***Кіраўніцтва Беларускага студэнцкага саюза ў Вільні, др. палова 1930-х. Сядзяць (зьлева направа): Мікола Шчорс, Ганна Сухая, Язэп Бурак. Стаяць: Піліп Засім, Міхась Якімец, Адам Дасюкевіч, Бэрнард Стэповіч. Піліп Засім мог быць найбліжэйшым паплечнікам Міколы Шчорса ў стварэньні "Саюза Актыўнай Барацьбы". Здымак з архіву М. Шчорса.***

калі ў "дэфензіву". Палякі прапаноўвалі яму супрацоўніцтва, "абяцалі прафэсуру на унівэрсытэце на медыцыне. Але ён адмовіўся. [9]

Верагодна, і вясной 1939 году польская паліцыя "патрывожыла" Міколу Шчорса. Таму "Саюз Актыўнай Барацьбы" і не разгарнуў дзейнасьці, бо быў на самым пачатку раскансьпіраваны. Ігнараваньне пагрозаў польскіх "сілавікоў" магло б прывесьці да арышту жменькі маладых беларускіх нацыяналістаў.

Цікава, што польская паліцыя называла "Саюз Актыўнай Барацьбы" "новай **баявой** беларускай арганізацыяй". У якасьці інструктара ў яе быў прыцягнуты ўкраінскі дзяяч з АУН **Уладзімер Дэцык**[10], які вучыўся ў Віленскай школе палітычных навук.[11]

"Саюз Актыўнай Барацьбы" фактычна быў папярэднікам Беларускай Незалежніцкай Партыі, якая ўзьнікла падчас Другой сусьветнай вайны.

**Сяргей Ёрш**

[1] Белая С. Да роднага ганку: З журналісцкага нататніка пачатку 90-х. Гутаркі з віленскімі беларусамі Амерыкі. — Мінск, 2009, б. 127.

[2] Мікола Шчорс успамінаў: "На мяне найбольш грамаднае ўражаньне зрабіў

ксёндз Гадлеўскі… Ксёндз Гадлеўскі ў першую чаргу быў беларусам, а потым католікам”. Гл.: Да роднага ганку…, б. 143.

[3] Да роднага ганку…, б. 125-126.

[4] Швец Б. Беларускія абаронцы Карпацкай Украіны // Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1(4), б. 129-133.

[5] Iljin A. Filip Zasim // Echa Polesia, 2006, № 4, s. 48.

[6] Тамсама.

[7] Да роднага ганку…, б. 142.

[8] Тамсама, б. 140.

[9] Тамсама, б. 142.

[10] Уладзімір Дэцык, нарадзіўся ў 1910 годзе ў Самбіры на Львоўшчыне. Сын мастака. Сябра Саюзу ўкраінскіх студэнтаў у Вільні.

[11] Украинские националистические организации в годы Второй мировой войны. Документы: в 2 т. Т. 1: 1939-1943. — Москва: Российская политическая энциклопедия, 2012, б. 46, 47; http://archives.ru/library/ukrainian-nationalist-organization-second-world-war-volume-1/index.html#/4/zoomed

# ЖОНКУ МІКОЛЫ ШКЯЛЁНКА ЗАСТРЭЛІЛІ Ў 1952 ГОДЗЕ КАЛЯ ВАРШАВЫ?

Пра аднаго зь лідараў беларускага нацыянальнага антынацысцкага Супраціву Міколу Шкялёнка (1899 — 1945?) напісана вельмі мала[1], яго біяграфія распрацаваная слаба. Таму ня дзіўна, што толькі зусім нядаўна стала вядома пра яго жонку і ейны трагічны лёс.



*Кіраўніцтва Беларускага навуковага таварыства ў Вільні, 28 чэрвеня 1936 г. Зьлева направа: Станіслаў Станкевіч, Вінцук Грышкевіч, Ян Станкевіч, Мікола Шкялёнак, Антон Луцкевіч, Антон Неканда-Трэпка, Уладзімер Самойла. Са збораў Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь.*

Даволі плённа працуе над дасьледаваньнем жыцьця й дзейнасьці Міколы Шкялёнка краязнаўца са Слоніма Сяргей Чыгрын. Ён усталяваў кантакт са сваякамі Шкялёнка ды даведаўся нямала раней невядомых, а часам і сэнсацыйных фактаў. Яны былі абагульненыя ў адной з апошніх кніг С. Чыгрына.[2]

Аўтар распавядае пра бацькоў, братоў Шкялёнка, пра самога Міколу і яго

жонку **Марыю Брынкевіч**.[3] Яна, як і Мікола Шкялёнак, паходзіла з былога Дзісьненскага павету (цяпер — Міёрскі раён). Вучылася на мэдыка. З Міколам Марыя пазнаёмілася ў канцы 1920-х, неўзабаве яны пабраліся шлюбам, жылі ў Вільні. У Шкялёнкаў не было сваіх дзяцей — яны выхоўвалі дачку сястры Марыі — Антаніны Брынкевіч (Лісук) — Ірыну. Яна скончыла Віленскую беларускую гімназію, вясной 1944-га была расстраляная на Міёршчыне разам з роднымі бацькамі і бабуляй нацыстамі “за сувязь з партызанамі”. Як піша С. Чыгрын, нядаўна іх перапахавалі.

Што да Марыі Брынкевіч (Шкялёнак), дык у канцы вайны яна жыла (а дакладней — хавалася) ў Польшчы. “Да сваіх сваякоў яна не дасылала ніякіх вестачак, баялася ім нашкодзіць, — піша Сяргей Чыгрын. — І сапраўды, усіх сваякоў па лініі Шкялёнкаў і Брынкевічаў у Беларусі вельмі часта дапытвалі супрацоўнікі НКУС. У 1950 годзе Марыя Шкялёнак усё ж паслала некалькі паштовак сваякам на Беларусь і ў Польшчу. І гэтага хапіла, каб яе высачылі супрацоўнікі НКУС на тэрыторыі Польшчы і ў 1952 годзе застрэлілі недалёка ад Варшавы”.[4]

Безумоўна, версію пра гібель Марыі Брынкевіч (Шкялёнак) добра было б спраўдзіць у архівах. Маем заўвагу да версіі пра гібель М. Шкялёнка ў “засьценках НКВД”, якой прытрымліваецца С. Чыгрын, не падаючы аднак, адкуль мае такія зьвесткі (верагодна, яны паходзяць з эміграцыйных крыніц). І гэта пры тым, што ў сваім тэксьце ён падае сьведчаньне сваяка Шкялёнка, што КГБ, нібыта, шукаў Міколу аж да сярэдзіны 1960-х гадоў. Варта было б яму згадаць і іншую версію, паводле якой Мікола Шкялёнак на чале атрада беларускіх камандасаў прыйшоў зь Нямеччыны ў Беларусь летам 1945-га. Падчас рэйда на Барысаўшчыну яны трапілі ў засаду МГБ, атрад быў разьбіты, а М. Шкялёнак ці адразу загінуў у баю, ці памёр пасьля ад атрыманых ранаў.

У тым жа, што Мікола Шкялёнак ня быў арыштаваны ў Польшчы, ня быў прывезены ў БССР, ня быў пакараны сьмерцю, сумнявацца не даводзіцца. Яшчэ ў 2003 годзе гісторык, у той час супрацоўнік Цэнтральнага архіву КДБ РБ Ігар Валахановіч засьведчыў: **“Шкялёнак ня быў арыштаваны ворганамі дзяржбясьпекі”**.[5] Гэта ўскоснае пацьверджаньне версіі, паводле якой М. Шкялёнак загінуў у баю ці памёр ад ранаў адразу ж пасьля патрапленьня ў палон. Магчыма, былі нейкія сумневы, таму пошукі працягваліся ў наступныя гады, альбо гэта была адмысловая апэратыўная камбінацыя.

**СЁ**

[1] Між іншым, некалькі публікацый у мінулыя гады зьяўляліся на бачынах “БР”: Ёрш С. Першы віцэ-прэзыдэнт БЦР быў камандзірам атрада камандасаў // Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1(4), б. 135-138; Самсонік Б. Палкоўнік Генэральнага

штабу Антон Шкелянко (Шкялёнак) — забытая постаць // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 1(6), б. 118-121; Самсонік Б. Правакацыя супраць віцэ-прэзыдэнта БЦР Міколы Шкялёнка // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 1(8), б. 94-95.
[2] Лёс Міколы Шкялёнка і яго сваякоў // Чыгрын С. Такі іх лёс: гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы. — Мінск: Кнігазбор, 2012, б. 106-115.
[3] Беларускі эмігрант Лявон Галяк у сваіх успамінах называе тых, хто здаваў іспыты ў 1930 годзе ў Віленскай беларускай гімназіі (між іншых, Міхася Вітушку, "які меў скончаную Клецкую Беларускую гімназію, якая ня мела правоў"), але прозьвішча Брынкевіч ня згадвае, піша: "жонка тады яшчэ не адваката Мікалая Шкялёнка". Гл.: Галяк Л. Успаміны. — Кн. 1. ЗША: "Летапіс", 1982; http://old.knihi.com/memuary/halak.html
[4] Тамсама, б. 115.
[5] Валахановіч І. Тэрактаў як у Нью-Ёрку ў нас не было [інтэрвію] // Наша ніва, 2003, 25 красавіка, № 16.

# БЕЛАРУСКІЯ АДОЗВЫ І ЎЛЁТКІ 1941 ГОДУ

Нямецкія спэцслужбы спадзяваліся, што на пачатку вайны з Савецкім Саюзам атрымаюць падтрымку беларускіх "лясных братоў". Сьведчаньне пра існаваньне кантакту зь імі адшукалася ў нямецкім вайсковым архіве. Аказваецца, беларускія "лясныя браты" мелі пароль — "Мінск", знакі адрозьненьня — на выпадак сустрэчы зь нямецкімі камандасамі, выкінутымі ў савецкі тыл.[1] Да таго ж, напярэдадні пачатку вайны нямецкай вайсковай выведкай былі выкарыстаныя некалькі групаў беларускіх камандасаў, закінутых на самалётах у раён Менску і Ліды, а таксама перайшоўшых мяжу пешым парадкам каля Ломжы.[2] Пра тое, што ўжо ў той час былі аддрукаваныя беларускія ўлёткі ці адозвы, зьвестак няма. Яны зьявіліся ўжо пасьля пачатку нямецка-савецкай вайны.

Згадваючы пра беларускія адозвы і ўлёткі лета-восені 1941 году, варта прыгадаць прапагандысцкае выданьне "**Перамога**". Інфармацыю пра яго зьмяшчалі ў сваёй працы Вітаўт і Зора Кіпель.[3] Яны пісалі, што "ведамы толькі адзін нумар" гэтага выданьня: **№ 1, ліпень 1941**. Кіпелі дадалі, што месцам выданьня быў горад Кэнігсбэрг. Адшукаць гэтае выданьне нам доўгі час не ўдавалася, аж пакуль яно часткова не было зьмешчанае ў інтэрнэце. Сайт ww2.ru, які спэцыялізуецца на продажу разнастайных рэчаў, выданьняў часоў апошняй вайны, у 2012 годзе зьмясьціў згадку і пра часопіс "Перамога".[4] Мы атрымалі магчымасьць пабачыць першую вокладку і пазнаёміцца са зьместам некалькіх бачын. Таксама да "Перамогі" далучаная прапагандысцкая




Паведамленьне з фронту:

### Штурмовая гармата ўрэзваецца ў савецкі танк.

Ужо з паўтузіну белых кружкоў было на стальных баках штурмовае гарматы. Гэтыя белыя кружкі былі акуратна намаляваныя ў мясцох варожых пападаньняў з адзначаньнем даты. Асаблівы вайсковы дзёньнік!
Але хто з абслугі падумаў, што яшчэ да начы знойдуцца новыя адзнакі пападаньняў і тузін белых кружкоў сягоньня напоўніцца?

Цяжкія чырвоныя танкі надыходзяць! Раптам палаў гэта вагнядзчык і зараз-жа штурмовая гармата рушылася наперад. Ужо першая сутычка з ворагам дала добры вынік. Пасьля трох пападаньняў у бок, першы савецкі танк быў прыведзены ў нячыннасьць. Ахвіцэр наводчык аробіў сваю працу. Таксама хутка расправіліся і з другім. Пры трэцім танку кіраўнік гарматы мусіў дапамагчы. Калі чырвоны танк быў падбіты і супыніўся, дык ён падбег да яго, двума ручнымі гранатамі, укінутымі праз адтуліны вежы, да рэшты ль ім напоўчыў. Чацьверты чырвоны танк пабачыўшы, як папаншала ягоным перадавым таварышом, кінуўся на ўцёкі.

Але толькі пасьлей для каманды штурмовае гарматы надышоў адказьнейшы момант змаганьня — зьявіўся найцяжэйшы з дагэтуль бачаных танк чырвоных. Грузна ён перакочваўся праз горку. Ён кідаецца на нямецкую штурмавую гармату, якая толькі што зьнішчыла тры ягоных папярэднікі. Штурмавая гармата распачынае агонь і асягае некалькі пападаў у вежу цяжкога чырвонага танку, але ён усё-ж коціцца далей і ўсё набліжаецца, на момант затрымліваецца, страляе і коціцца далей наперад. Штурмовая гармата страляе колькі мага і ня гледзячы на блізкасьць чырвонага танку ўсё-ж не можа сканстатаваць пападаў. Нешта панцыр мусіць адмаўляцца. Варожыя снарады падаюць усё бліжэй. Неўзабаве чырвоны панцыр іх зноўку дагледзіць на прыцэл. «Пан лейтэнант, снарады канчаюцца!» І гэта яшчэ ў дадатак! — Але што гэта такое? Чырвоны танк раптам завяртае і нібы ўцякае. Што ён жадае? Ці яму ўжо дасталося, ці ён жадае нас абмінуць? Няма часу на разважаньні. Ахвіцэр загадвае: «За ім!» Ён ужо аб тым не думае, што няма снарадаў, ён думае толькі аб тым, што гэты чырвоны баёвы панцыр трэба зьнішчыць. Яму прыйшла ў галаву шалёна-адважная думка: «Мы мусім у гэтую пачвару ўрэзацца!» Яны гоняцца за танкам і амаль ужо яго нагналі, якія кіруюцца проста на яго. Чырвоны панцыр ад іх ухіляецца, завяртае на бок, а штурмовая гармата зараз-жа за ім і перарэзвае яму дарогу. Яна ў поўным разгоне кідаецца проста яму ў бок. Цяпер зусім блізка. Яшчэ 10 метраў, яшчэ пяць, яшчэ тры. Затым магутны штуршок, як выбух падрыхтаваны — сутыкнуліся два волаты. Двох салдатаў з абслугі гарматы ад сілы штуршка лёгка паранілі ў галаву, але чырвоны баёвы панцыр прыціснула ляжаць, шалёная ідэя лейтэнанта зьдзейсьнілася, задавыя люкі танка былі пароманы.
Гэта бальшавікам у іх цяжкім танку нават і не сьнілася, што нямецкая штурмовая гармата, ды яшчэ без амуніцыі ў іх урэжацца. Прыгнечаныя вылазяць яны, падымаюць рукі і здаюцца ў палон.

беларускамоўная ўлётка.

На сайце ww2.ru памылкова напісана, што часопіс выдаваўся ў Менску. У астатнім там зьмешчаная каштоўная інфармацыя пра гэтае выданьне. “Перамога” мела фармат, які адпавядае цяперашняму А4, мяккую трохкаляровую вокладку, 16 старонак тэксту з чорна-белымі ілюстрацыямі: фотаздымкамі нямецкіх вайскоўцаў і мапамі баёў. Беларускамоўныя тэксты прысьвечаныя перамогам нямецкіх войскаў у Эўропе і Афрыцы, да Беларусі ніякага дачыненьня ня маюць.

Разам з часопісам на сайце “ў камплекце” прадавалася і ўлётка **“Штурмовая гармата ўрэзваецца ў савецкі танк”**. Таксама фармату, які адпавядае цяперашняму А4: дзьве бачыны тэксту і ілюстрацыя на адвароце. Верагодна, улётка, якую сайт ww2.ru называе “агітацыйнай улёткай-плакатам”, таксама была выдадзеная ў 1941 годзе.

Малаверагодна, што часопіс “Перамога” выходзіў і надалей. Верагодна, на першым нумары выданьне яго было спынена. Пра беларускіх выдаўцоў у гэтым выпадку гаварыць не даводзіцца. Можна дапусьціць, што існавала група, якая перакладала тэксты зь нямецкай мовы.

Найбольш групаў беларускіх “лясных братоў” было на Палесьсі. Каб узяць пад кантроль гэты пераважна стыхійны рух, беларускія дзеячы зь Менску са згоды абвэра паслалі туды групу камандасаў, якія ўдзельнічалі ў дэсантах чэрвеня 1941-га. Паводле ўспамінаў аднаго зь іх, спачатку распаўсюджваліся сярод насельніцтва нямецкія прапагандысцкія плякаты і ўлёткі. У канцы жніўня 1941-га ў Пінску і Берасьці беларускія камандзіры атрадаў самаабароны, з дазволу нямецкіх уладаў, апублікавалі свае беларускамоўныя ўлёткі. Іх пасыл быў наступны: “бальшавікоў патрэбна біць, дапамагаць Германіі, бо яна дасьць магчымасьць адбудаваць сваю дзяржаву”. Таксама беларускія ўлёткі прывозілі зь Менску.[5]

З непадкантрольных нямецкай цэнзуры ўлётак у той час на Палесьсі распаўсюджвалася **аддрукаваная 3-я Ўстаўная грамата Беларускай Народнай Рэспублікі 1918 году (Акт 25 Сакавіка)**, якой абвяшчалася дзяржаўная незалежнасьць Беларусі. Гэтых улётак было “вельмі шмат”, іх распаўсюджвалі сярод байцоў атрадаў самаабароны і насельніцтва на Палесьсі. Найхутчэй, гэта была акцыя партызанскага камандзіра **Якуба Харэўскага** (Новіка), які трымаўся незалежніцкай пазыцыі, не хацеў супрацоўнічаць зь немцамі.[6]

Адозвы “беларускага актыву”, ранейшыя ці новыя, распаўсюджваліся на Палесьсі і ў канцы 1941 году. Вось што ўспамінае **Алесь Алехнік** пра сытуацыю на Лунінеччыне:

“Нашыя палешукі-беларусы былі тагды ў вельмі цяжкім становішчы: не любілі камуністаў, не давяралі немцам, не хацелі палякаў, але




euroradio.fm

***У пачатку 2012-га ў Берасьці грамадзкімі актывісты перавыдалі 3-ю Ўстаўную грамату БНР***

ня мелі таксама й нічога свайго беларускага. І магчыма таму нашыя людзі, а найбольш за ўсіх я, вельмі цешыліся найменшымі праявамі ці весткамі аб дзейнасьці беларускіх арганізацыяў, выдаваньні беларускіх газэтаў і г. д. Першая “Адозва” беларускага актыву, якую прывёз мне з Баранавічаў мой дзядзька Павал недзе напрыканцы 1941-га, была падпісаная былым беларускім сэнатарам у польскім Сойме Юрыем Сабалеўскім і закончвалася заклікам “Вас кліча Беларусь!”.[7]

“Беларускі актыў” зь Менску летам 1941 году распаўсюджваў адозвы і ўлёткі ня толькі ў Беларусі, але і ў замежжы. Беларускі дзяяч Язэп Сажыч у той час быў студэнтам і вучыўся ў Львове. Ён стаў сьведкам, як бандэраўская АУН абвесьціла незалежнасьць Украіны і як пасьля гэтага пачаліся нямецкія рэпрэсіі.

“Разам з украінцамі перажыў гэтае расчараваньне й пераканананьне, што ад немцаў-нацыстаў няма чаго спадзявацца й думаць нейкай незалежнасьці ці аўтаноміі, — успамінаў **Язэп Сажыч**. — Пабачыўшы, што многія з маіх сяброў-украінцаў былі арыштаваныя, а многія пайшлі ў падпольле — вырашыў вярнуцца на Бацькаўшчыну, адкуль да нас — беларускіх студэнтаў — падсылалі заклікі й ўлёткі, каб вярталіся дадому й памаглі будаваць беларускую адміністрацыю пад нямецкай акупацыяй”.[8]

У Львове было нямала беларускіх студэнтаў. Іх вяртаньне на Бацькаўшчыну не зрабіла вялікага ўплыву на легальны нацыянальны рух, дазволеныя акупантамі арганізацыі і ўстановы, аднак практычна ўсе далучыліся да беларускай нацыянальнай канспірацыі (Міхась Рагуля, Аўген Аскерка, Сымон Раманчук, Язэп Сажыч ды іншыя).

Ёсьць няпэўныя зьвесткі і пра ўлётку, выдадзеную беларускімі дзеячамі ў Варшаве дзесьці ў канцы лета — ў пачатку восені 1941 году. У ёй давалася ацэнка падзеям у акупаванай немцамі Беларусі. На жаль, дасьледчыкам яна невядомая — верагодна, не захавалася.

**Андрэй Турук**

[1] Jerzy Grzybowski. Pogoń między Orłem Białym, Swastyką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodległościowy w latach 1939–1956. — Warszawa, 2011, s. 114, 115.

[2] Новыя факты пра дзейнасьць і лёсы беларускіх камандас // Беларускі Рэзыстанс, 2008, № 1 (5), б. 143-148; Пратакол допыту беларускага камандаса пасьля затрыманьня ў чэрвені 1941 году // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2 (7). С. 53-58; Ёрш С. Дэсант у няпэўнасць. Беларускі парашутны батальён “Дальвіц”. 1944-1945 гг. — Мінск, 2012, б. 21-23.

[3] Бібліяграфія беларускага друку на Захадзе. Часапісы, Газэты. — Нью Ёрк [2004], б. 82.

[4] http://ww2.ru/store/element.php?SECTION_ID=4097&ELEMENT_ID=55778

[5] Камбатант: Байцы Харэўскага нашывалі на вопратку бел-чырвона-белыя сьцяжкі [інтэрвію] // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 2(11), б. 141.

[6] Тамсама.

[7] Алехнік А. Пад бел-чырвона-белым (memento patriam). — Вільня: “Рунь”, 1999, б. 25.

[8] Сажыч Я. Мілітарызацыя Наваградчыны ў часе нямецкае акупацыі 1941-1944 // Юрэвіч Л. Жыцьцё пад агнём. Партрэт беларускага военачальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі. — Менск, 1999, б. 233.

# ПРА РАДЫСТКУ “ДАЛЬВІЦА” НІНУ ЛАБОВІЧ

Упершыню пачуў пра яе ад Барыса Данілюка з ЗША. Пра Ніну Лабовіч ён пісаў у лістах — крыху ведаў яе па Слоніме часоў нямецкай акупацыі. У Нямеччыне не сустракаў, але чуў пра ейны лёс ад Рыгора Зыбайлы, кіраўніка Беларускай Народнай Самапомачы ў Слонімскай акрузе, а пасьля — афіцэра БКА і дэсантнага батальёну “Дальвіц”.




***Ключ марзянкі ад нямецкага перадатчыка***

З ліста Барыса Данілюка ад 25 чэрвеня 2003 г.: *“Урэшце колькі словаў да таго, што я вам ужо пісаў праз Ніну Лабовіч. Мне было дзівам пачуць ад Зыбайла ў канцы 1944-га, ці пачатку 1945-га году, што яна апынулася ў Дальвіцы й радысткай была пасланая на Беларусь, бо падчас нямецкае акупацыі яна ад беларускага руху трымалася здалёк і толькі працавала ў лясным аддзеле* [Слонімскай управы], *дзе ейнымі начальнікамі былі інжынер Ігнатовіч і Мілевіч. Таму я бачыў яе адно пару разоў і мая жонка, хоць вучылася ў той самай дзесяцігодцы, яе таксама мала ведала.*

*Паходзіла яна, здаецца, з Кракоткі, дзе, магчыма, можна было б праз яе што-колечы выпытаць.*

*Тлумачыць ейную долю, відаць, трэба каханьнем, бо, як сказаў мне Зыбайла, перад адлётам яна выйшла замуж за Булыгу, падахвіцэра ў рабочай роце, што стаяла ў Слоніме й якой камандаваў нядаўна памерлы ў Нямеччыне мастак Зьміцер Чайкоўскі. Шкада, што дарэмна згінула з мужам вельмі прыгожая жанчына й прыкра, што з Дальвіца паўцякалі ахвіцэры, што іх выпраўлялі ў згубную дарогу, як Рагуля, каб пазьней пад іншай уладай пасылаць на згубу новую хвалю маладых ахвярных патрыётаў”.*

У кнізе сваіх успамінаў Барыс Данілюк таксама згадвае пра Ніну:

*“…яшчэ ўлетку ці рана ўвосені [1944-га] ў Беларусь была скінутая зь нямецкага самалёту нахутка вышкаленая ў Дальвіцы на радыстку прыгожая дзяўчына-бляндынка, што пры Польшчы вучылася ў слонімскай гімназыі, а пры немцах працавала ў лесавой управе, — Ніна Лабовіч. Эвакуявалася яна, відаць, з упадабаным ёй хлопцам (імя не памятаю) Булыгам, што служыў у Слоніме ў працоўнай роце пад камандай капітана Зьміцера Чайкоўскага, але па дарозе трапіла разам зь ім у дальвіцкую пастку, адкуль, узяўшы перад тым шлюб,*

*абое яны паляцелі назад на Бацькаўшчыну, дзе за адвагу заплацілі жыцьцямі"*.[1]

Нехта з камэнтатараў успамінаў (Аляксандар Пашкевіч, Натальля і Алег Гардзіенкі) прапанавалі версію далейшага лёсу Ніны Лабовіч. Яны згадалі пра затрыманьне ў сьнежні 1945 году на Слонімшчыне падчас ліквідацыі атрада "лясных братоў" Чэрняка нейкай "радысткі" Лабовіч[2], пра што мы пісалі ў кніжцы "Была вайна…".[3]

Нагадаем, пра што там ішла гаворка. Былы слонімскі міліцыянт Уладзімер Дунай (1923 — 2005) у ліпені 1996-га распавядаў нам пра апэрацыю, якую НКВД праводзіў у сьнежні 1945 году на хутарах каля вёскі Плаўскія (удзельнічала каля 30 чалавек). Мэтай была ліквідацыя "банды" Чэрняка. Атаман з аблогі вырваўся, яго пазьней забілі ці знайшлі забітым у лясной зямлянцы. Былі праведзеныя арышты "сувязных" з ліку мясцовых жыхароў.

Дунай з захапленьнем успамінаў пра арыштаваную "радыстку Лабовіч": *"На хутары арыштавалі мы кульгавага намесьніка Чэрняка. А разам зь ім і радыстку Лабовіч, якая таксама жыла на хутары. Вельмі прыгожая яна была. Я ня памятаю, каб знайшлі рацыю, але яна чамусьці лічылася радысткай. Відаць, яна нічога не перадавала — не было рацыі. Але яны нешта рыхтавалі, а тут мы іх узялі. На Лабовіч, на гэтую прыгажуню, ніхто з міліцыянтаў нават голасу не павысіў. Такая маладая, прыгожая... Гаварылі, што ў лягерах яна выйшла замуж за нейкага супрацоўніка МВД"*.[4]

З успамінаў Дуная вынікае, што Лабовіч была асуджаная.

На першы погляд падаецца, што ўсё супадае. Камэнтатары ўспамінаў Б. Данілюка не былі першымі, хто гэта заўважыў. Доўгія гады мы шукалі новых згадак, дакумэнтаў, каб зьняць усе пытаньні. Але спачатку адзначым, што дэсант "Дальвіца", у якім была б радыстка Ніна Лабовіч, нам невядомы. У кнізе "Дэсант у няпэўнасць" мы напісалі пра яе наступнае:

**"ЛАБОВІЧ Ніна**

Радыстка "Дальвіца". Ураджэнка Слонімшчыны (верагодна, з в. Кракотка). Мела сярэднюю адукацыю. Падчас нямецкай акупацыі працавала ў лясным аддзеле ў Слоніме, "ад беларускага руху трымалася здалёк". У канцы лета — у пачатку восені 1944 г. патрапіла ў "Дальвіц". Паводле сведчання Б. Данілюка, перад адлётам з дэсантам выйшла замуж за слонімца Булыгу. Іншых звестак пра яе дэсант няма. Паводле сведчання Ю. Брэчкі, у траўні 1945 г. Н. Лабовіч была ў "Дальвіцы", узяла шлюб з А. Занкавічам, спрабавала перайсці на Захад, але была затрыманая савецкімі вайскоўцамі. У паваенны час была арыштаваная ў амерыканскай зоне акупацыі Нямеччыны за шпіянаж на карысць СССР і асуджаная. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: Лісты да аўтара Ю. Брэчкі ад 17 траўня 2003 г. і ад 14 жніўня 2004 г.; Ліст да аўтара Б. Данілюка ад 25 чэрвеня 2003 г.”.[5]

Атрымліваецца, што паводле сьведчаньня былой радысткі “Дальвіца” Юзэфы Брэчкі (Найдзюк), на травень 1945 году Ніна Лабовіч была ў батальёне на тэрыторыі Чэхіі. Як можна гэта патлумачыць? Магчыма, Р. Зыбайла памыліўся. Сам ён зьехаў з “Дальвіца” дзесьці ў кастрычніку-лістападзе 1944-га. Здаралася так, што дэсанты плянаваліся, але, з розных прычынаў, так і не былі зьдзейсьненыя. Другая версія — дэсант сапраўды быў, але Ніна вярнулася з-за лініі фронту.

Дасьледчык Ян Максімюк пісаў: *“Своеасаблівае ваеннае вандраваньне перажыла адна з вучаніцаў [беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхэльсдорфе], якая пасьля падрыхтаваньня ў беларускім спэцбатальёне ў Дальвіц (Усходняя Прусія) была як радыстка высаджаная з групай у тыле савецкага фронту й пасьля разьбіцьця групы, параненая, перабралася ў Нямеччыну й апынулася ў беларускім лягеры”*.[6]

Як распавядаў мне ў 1997 годзе яшчэ адзін беларус з Беласточчыны Мікола Ваўранюк, менавіта Юзэфа Брэчка *“ўцякла на Захад параненая”*.[7] А як вядома, яна вучылася ў гімназіі ў Міхэльсдорфе. Значыць, і Ян Максімюк так лічыў. Таму, калі ўзьнікла магчымасьць спытаць пра гэта ў самой спадарыні Юзэфы, я ёй скарыстаўся. *“Я ніколі партызанкай ня была, толькі вучылася (Дальвіц). Таксама на Бацькаўшчыне ад 1944 г. ніколі ня была”*, — адказала яна ў лісьце.[8] І гэта падобна на праўду. У іншым лісьце Ю. Брэчка пісала, што была лёгка параненая летам 1944-га падчас эвакуацыі зь Беларусі.[9]

Калі Ніна Лабовіч у траўні 1945-га была ў Чэхіі, дзе яе затрымалі савецкія вайскоўцы, гэта не перашкодзіла б ёй апынуцца ў сьнежні 1945-га на Слонімшчыне. Мы ведаем, што яна была завербаваная савецкімі спэцслужбамі і перапраўленая ў заходнюю зону акупацыі Нямеччыны. А што калі перад гэтым яе выкарысталі для пошуку і ліквідацыі “лясных братоў”? Але гэта толькі версія.

Нам удалося выявіць дакумэнт МВД СССР пра згаданую аперацыю ў сьнежні 1945 году на хутарах каля вёскі Плаўскія на Слонімшчыне:

*“Ліквідацыя бандытаў. Нашыя страты. Атрымаўшы дадзеныя пра тое, што на Плаўскіх хутарах павінны сабрацца бандыты для правядзеньня каляднага сьвята, Слонімскі Р[аённы] А[ддзел] НКВД 27 сьнежня арганізаваў некалькі засадаў у раёне гэтых хутароў. Участковы ўпаўнаважаны міліцыі МІХАЛЬЧУК, заўважыўшы чатырох бандытаў у доме грамадзянкі СЬЛЕДБ Браніславы, спрабаваў іх затрымаць. Бандыты забілі МІХАЛЬЧУКА, які ўвайшоў у дом, і схаваліся. Перасьледуючы забойцаў, апэратыўная група выявіла*

*дзьве зямлянкі з пяцю бандытамі. Пры аказаньні ўзброенага супраціўленьня адзін з бандытаў быў забіты, двое затрыманыя. Забітым аказаўся ЧЭРНЯК Юзэф, затрыманымі — ЛЯНЧКОЎСКІ А. А. і сястра бандыта ЛАБОВІЧА — ЛАБОВІЧ Іна. Са складу апэргрупы бандытамі паранены ўчастковы ўпаўнаважаны ЛОСЬ. У бандытаў забраныя: гранаты, тол, капсулі, дэтанатары, боепрыпасы і радыёпрыёмнік. Вядзецца сьледзтва і вышук дваіх бандытаў, якія схаваліся”.*[10]

Такім чынам, затрыманая была **Іна Лабовіч.** Праўда, можна дапусьціць невялікую верагоднасьць памылкі пры публікацыі гэтага дакумэнта: “*Инна*” замест “*Нина*”. Вельмі дзіўна, што імёны дваіх асобаў (ці ўсё ж адной?), у лёсах якіх мы спрабавалі разабрацца, так сугучныя. Таму для стоадсоткавай упэўненасьці варта пашукаць новых дакумэнтаў і сьведчаньняў.

**СЁ**

1 Данілюк Б. Азіраючыся расой выетымі вачыма: Успаміны. — Мінск: Лімарыус, 2012, б. 344.
2 Тамсама, б. 469.
3 Была вайна. З гісторыі антысавецкага ўзброенага супраціву. — Менск: “Беларускі Рэзыстанс”, 2003.
4 Тамсама, б. 19.
5 Ёрш С. Дэсант у няпэўнасць. Беларускі парашутны батальён “Дальвіц”. 1944-1945 гг. — Мінск, 2012, б. 234-235.
6 Максімюк Я. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне. 1945 — 1950. — Нью-Ёрк — Беласток, 1994, б. 77.
7 Паведамленьне аўтару М. Ваўранюка ад 19 траўня 1997 г.
8 Ліст Ю. Брэчкі (Найдзюк) да аўтара ад 17 траўня 2003 г.
9 Ліст Ю. Брэчкі (Найдзюк) да аўтара ад 14 жніўня 2004 г.
10 Жертвы националистического террора в западных регионах СССР // Дзяржаўны архіў Расейскай Федэрацыі, ф. 9478с, воп. 1 с, спр. 569, арк.46; http://lists.historyfoundation.ru/person.php?region=2&id=654

# ДАКУМЭНТЫ ФСБ РАСЕІ ПРА ЗБРОЙНЫ СУПРАЦІЎ У БССР У 1947-1953 ГАДАХ

Вельмі рэдка публікуюцца дакумэнты з Цэнтральнага архіву ФСБ Расеі, у якіх асьвятляецца паваенны антысавецкі супраціў у БССР. Таму кожны з такіх матэрыялаў можа мець вялікую каштоўнасьць для беларускіх дасьледчыкаў, якія ня маюць доступу да архіўных збораў расейскіх спэцслужбаў. На наш погляд, вельмі цікавай зьяўляецца публікацыя расейскага дасьледчыка Алега Мазохіна.[1] На сваім сайце ён зьмясьціў главу са сваёй манаграфіі, прысьвечанай барацьбе савецкіх спэцслужбаў супраць тэрарызму. Спынімся на фактах і асобах, якія маюць дачыненьне да Беларусі.

Адзначым, што праблемы з узброеным падпольлем у НКГБ БССР зьявіліся яшчэ ў пачатку 1941 году. Толькі ў першым квартале былі зарэгістраваныя 9 выпадкаў “тэрарыстычных праяваў”, былі забітыя 8 чалавек і 3 параненыя. Большасьць зь іх заставаліся нераскрытымі, таму НКГБ СССР падрыхтаваў праект дырэктывы НКГБ БССР аб узмацненьні барацьбы з тэрарыстычнымі праявамі ўдзельнікаў контрэвалюцыйных паўстанцкіх арганізацый. Дзейнасьць “контрэвалюцыянераў” была адзначана ў Беластоцкай, Берасьцейскай, Палескай і нават Мінскай абласьцях.[2] Вядома, што на 1 траўня 1941 году ў БССР дзейнічала толькі 1 “банда”, на 15 чэрвеня — 13, а на 1 ліпеня 1941-га — 17.[3]

“На завяршаючым этапе вайны была праведзеная рэарганізацыя **частак БКА** за кошт вярбоўкі новых салдат, стварэньне дапаможных кантынгентаў для выкарыстаньня іх у сыстэме абароны Нямеччыны, і **арганізацыі антысавецкага партызанскага руху на тэрыторыі Беларусі**”, — піша Алег Мазохін.[4] На жаль, аўтар не падае падрабязнасьці, у дадзеным выпадку піша схематычна, акрэсьліваючы тэндэнцыі.

Спасылаючыся на паказаньні падчас сьледзтва ў НКГБ БССР К. Езавітава і У. Родзькі, Алег Мазохін упэўнена піша, што ўжо ў канцы вайны кіраўнікі беларускіх нацыяналістаў мелі сувязі з “англа-амэрыканскімі выведчымі органамі”.[5] Аднак ніякіх канкрэтных фактаў не прыводзіцца і, відаць, усё ж гаворка пра намер усталяваць кантакты. У паваенны час “некаторыя прадстаўнікі беларускага руху сталі супрацоўнічаць з ЦРУ, якое арганізоўвала антысавецкія дывэрсійныя атрады”, — піша Мазохін. Ён сьцьвярджае, што з ліку былых байцоў брыгады СС “Беларусь” “англічане і амэрыканцы вэрбавалі кадры для закідкі на тэрыторыю СССР”.[6]

Паводле архіўных матэрыялаў ФСБ, Алег Мазохін паведамляе, што **на травень 1947-га** на тэрыторыі заходніх абласьцей БССР

былі на ўліку **53 “бандыцкіх групы”**, якія складаліся з **360 чалавек**, а таксама **1186 удзельнікаў розных антысавецкіх нацыяналістычных арганізацый і групаў**.[7] Ён прыводзіць статыстычныя дадзеныя па выніках барацьбы МГБ БССР супраць антысавецкага падпольля і партызанскага руху ў **1947-1948 гадах**. У заходніх абласьцях Беларусі былі ліквідаваныя **108** антысавецкіх арганізацый і групаў польскага, украінскага і беларускага нацыяналістычнага падпольля і яго ўзброеных бандаў. Былі забітыя 315 “бандытаў”, арыштаваныя 8059 чалавек, сярод іх было звыш 500 агентаў замежных выведчых ворганаў. **У 1949 годзе** ў заходніх абласьцях БССР было забіта 167 і арыштавана 2879 “бандытаў”, удзельнікаў “нацыяналістычных фармацый і бандпасобнікаў”. Сярод забітых і арыштаваных былі 57 “верхаводаў бандаў”. Трафеі МГБ БССР: 24 кулямёты, 83 аўтаматы, 216 стрэльбаў, 166 пісталетаў, 77 гранатаў і звыш 13 тысяч набояў.[8]

Алег Мазохін прыводзіць і шэраг канкрэтных фактаў з наступнай крыніцы: ЦА ФСБ РФ, ф. 4ос, воп. 8, спр. 1, арк. 310-315. У 1949 годзе ўпраўленьнем МГБ Баранавіцкай вобласьці “агентурным шляхам” была выяўленая і ліквідаваная нацыяналістычная арганізацыя, якую ачольваў “польскі нацыяналіст” **Мялешка**. Па справе былі арыштаваныя 15 чалавек. Мялешка быў забіты, а яго намесьнік, 26-гадовы **Масюкевіч**, працаўнік калгасу, арыштаваны. У арыштаваных была забраная зброя і самаробныя шрыфты, якімі можна было вырабляць улёткі на польскай і рускай мовах. Арганізацыя Мялешкі ставіла сваёй задачай “зьдзяйсьненьне тэрарыстычных актаў над мясцовым партыйным і савецкім актывам і зрыў мерапрыемстваў, якія праводзіліся партыяй і ўрадам на вёсцы”.[9]

Зь іншых крыніцаў вядома, што Васіль Мялешка зьбег зь мінскай турмы. Падпольную “Арганізацыю польскіх легіянэраў” пачаў ствараць вясной 1949-га, аб’яднаў у яе каля 20 сялянаў з Баранавіцкага раёну. У яго групу быў укаранёны агент МГБ Марухін (“Ваня-Сібірак”), які і забіў Мялешку, а пасьля здаў дзяржбясьпецы ўдзельнікаў арганізацыі.[10]

На тэрыторыі Маладэчанскага раёну ліквідавалі “банду нацыяналістаў” у складзе 6 чалавек, якая ў 1949 годзе была створаная **Венцслаўскім**. У Валожынскім раёне Маладэчанскай вобласьці была ліквідаваная “бандгрупа “Арміі Краёвай”, камандзірам якой быў “былы нямецкі паліцыянт” **Радзюк**. Трафеі МГБ: 2 аўтаматы, 2 стрэльбы, 6 пісталетаў, 3 гранаты, набоі. Вось што піша пра гэта Алег Мазохін: *“Ад агента МГБ былі атрыманыя дадзеныя пра тое, што яго сусед Шастак зьяўляецца бандпасобнікам, дом якога пэрыядычна наведваюць удзельнікі банды Радзюка. З мэтай затрыманьня бандытаў, у агента быў устаноўлены сігнальны радыёапарат і абумоўлена, што са зьяўленьнем бандытаў у Шастака агент павінен будзе яго ўключыць. Праз некалькі дзён па сігнале агента да месца жыхарс-*

*тва Шастака была выкінутая апэратыўна-вайсковая група, якая, акружыла дом і прапанавала бандытам здацца. У адказ на гэта бандыты адкрылі аўтаматны агонь. Ва ўзьніклай перастрэлцы былі забітыя верхавод банды Радзюк, тры бандыты і бандпасобнік Шастак. Праз агентуру МГБ былі ўстаноўленыя і арыштаваныя яшчэ 9 актыўных пасобнікаў банды Радзюка".*[11]

Зь іншых крыніц вядома, што атрад Радзюка дзейнічаў ад 1946 году, складаўся з мясцовых жыхароў, якія былі на нелегальным становішчы. Пра яго прыналежнасьць да польскай АК апытаныя сьведкі тых падзеяў не паведамляюць.[12] Пасьля гібелі Радзюка ў 1949 годзе яго атрад ня быў ліквідаваны цалкам, камандзірам стаў **Шыдлоўскі**. У 1950 годзе партызаны Шыдлоўскага аб'ядналіся з групай **братоў Мятліцкіх**, што дзеяла ў Радашковіцкім раёне. Гэты атрад быў ліквідаваны ворганамі дзяржбясьпекі.[13]

У 1949 годзе на тэрыторыі Мёрскага раёну Полацкай вобласьці была ліквідаваная "банда", якую ачольваў дэзэртыр савецкага войска **Хахлоў**. Ім і яго людзьмі былі зьдзейсьненыя забойствы некалькіх мясцовых партыйных, савецкіх работнікаў, вясковых актывістаў, а таксама абрабаваньні крамаў. У жніўні-сьнежні 1949 году было забіта 6 і арыштавана 30 "бандытаў" Хахлова і "бандпасобнікаў". Трафеі МГБ: кулямёт, 6 аўтаматаў і стрэльбаў, 3 пісталеты, 2 гранаты і набоі. У ноч на 4 кастрычніка 1949 году ў Лунінецкім раёне Пінскай вобласьці "лясны брат" Калянковіч забіў трох іншых партызанаў падчас іх адпачынку. Перад гэтым у кантакт зь ім і яго маці ўвайшоў апэратыўны супрацоўнік МГБ БССР, які даў яму такое заданьне. Група рыхтавала шэраг тэрактаў супраць мясцовых савецкіх і партыйных работнікаў да 7 лістапада.[14]

Паводле зьвестак ФСБ, **у 1948-1950 гадах** у заходніх абласьцях Беларусі былі выяўленыя і "пераважна" ліквідаваныя **"79 бандыцкіх групаў** польскіх, украінскіх і беларускіх нацыяналістаў з агульнай колькасьцю ўдзельнікаў 700 чалавек". Прычым адзначалася, што большасьць зь іх не былі "на апэратыўным уліку, як бандыты". Алег Мазохін зьвяртае ўвагу на важны факт: **"нягледзячы на значную ліквідацыю ворганамі МГБ БССР бандыцка-нацыяналістычнага элементу, колькасьць бандгрупаў падтрымлівалася на адным узроўні"**! Расейскі дасьледчык тлумачыць, чаму склалася такая дзіўная сытуацыя: "Ліквідацыя бандгрупаў ішла за кошт бандаў, якія зноў выяўляліся і не былі на апэратыўным уліку".[15] Г. зн., што ў 1948-1950 гадах стабільна ствараліся новыя лясныя атрады і групы, якія пераважна і гінулі. А вось многія атрады, якія існавалі з 1945-1946 гг. і мелі дасьведчаных камандзіраў, падрыхтаваныя базы, сувязь, МГБ былі "не па зубах".

У 1950 годзе ў заходніх абласьцях БССР былі на ўліку 250 чалавек,

якія папоўнілі шэрагі “лясных братоў”. Гэта былі тыя, хто перайшоў на нелегальнае становішча з-за страху перад арыштам за сувязь з “бандытамі”, былыя байцы Беларускай Краёвай Абароны, паліцыі, іншыя “актыўныя пасобнікі немцаў”, кулакі, дэзэртыры з савецкага войска.[16] У 1950 годзе ліквідавалі “бандгрупу” **Ханцэвіча**, якая арганізавалася ў канцы 1949-га і складалася “са злачынцаў, якія хаваліся ад рэпрэсій за мінулыя крымінальныя злачынствы”. Ханцэвіч называецца “растратчыкам”, Багданаў — “былым нямецкім старастам”, Чабатар — былым паліцыянтам і дэзэртырам з савецкага войска, Санчук — былым удзельнікам БКА, Сямернік быў ухілістам ад службы ў савецкім войску.[17]

“Бандгрупа” **Тасьмінскага** складалася з “кулакоў” і дэзэртыраў савецкага войска. Яны перайшлі на нелегальнае становішча, перакананыя ў тым, што хутка пачнецца вайна паміж ЗША і Англіяй супраць СССР.

У Пінскай вобласьці верхаводам адной з групаў “лясных братоў” быў **Салавей**, які знаходзіўся на нелегальным становішчы з 1949 году. У яго было 5 байцоў-мясцовых жыхароў. Адзін зь іх — Філанчук — перайшоў на нелегальнае становішча, бо баяўся адказнасьці за сувязь з Салаўём. Група рабавала крамы. Падчас затрыманьня Салаўя, верагодна ў 1950 г., ён забіў супрацоўніка МГБ.

У Маладэчанскай вобласьці адной з “бандгрупаў” кіраваў **Юхноўскі**, у мінулым — удзельнік Беларускай Краёвай Абароны. У 1949 годзе ён “дэзэртыраваў са школы ФЗО[18]”. “Тэрарыстычную бандгрупу” Юхноўскі стварыў “з такіх жа асобаў, як і сам”.

У Полацкай вобласьці дзесьці ў 1950 годзе была ліквідаваная “бандгрупа” нелегала **Бондара**. У яго было 11 чалавек: дэзэртыры з савецкага войска Аляксееў і Малатавік, “рабаўнік” Пачобка і іншыя. Усе яны знаходзіліся на нелегальным становішчы ад 1949 году “пасьля зьдзяйсьненьня розных злачынстваў”.[19]

У 1950 годзе ў Полацкай вобласьці была ліквідаваная “бандгрупа” Ляскоўскага.[20] Алег Мазохін піша пра яго, як пра “рабаўніка”, называе ўдзельніка яго “банды” Маляўку “растратчыкам”, а іншага “ляснога брата” — Танкавіда — дэзэртырам са школы ФЗО.[21]

Вядома, што ў 1950 годзе МГБ БССР ліквідаваў больш за 50 “бандытаў”-адзінцоў.[22] У Маладэчанскай вобласьці забілі Макаранку, які ў чэрвені 1949-га дэзэртыраваў з вайсковай часткі ў Берасьці, калі знаходзіўся на варце і найхутчэй са зброяй. Ён дзейнічаў у Юрацішкаўскім раёне, займаўся рабункамі, забіў дырэктара МТС[23] і працаўніка пошты.[24] У Баранавіцкай вобласьці затрымалі нелегала Белага, таксама дэзэртыра з савецкага войска. 17 студзеня 1950-га ён забіў участковага міліцыянта, які спрабаваў яго затрымаць.

Паводле дадзеных архіўных матэрыялаў ФСБ, **у 1951 годзе** ў

заходніх абласьцях БССР на ўліку былі **16 “бандгрупаў”**, у якіх налічвалася **66 чалавек.** На нелегальным становішчы заставаліся **32 “бандыты”-адзінцы.** У “нацыяналістычных бандгрупах” звычайна налічвалася ад 2 да 5 чалавек.

Як адзначае А. Мазохін, “асноўным недахопам ворганаў МГБ Беларускай ССР па лініі барацьбы з рэшткамі ўзброеных бандгрупаў зьяўлялася тое, **што амаль ва ўсіх без выключэньня дзейных бандыцкіх групах адсутнічала агентура**”.[25]

У пэрыяд ад 1 жніўня 1951 году да 15 красавіка 1952-га МГБ БССР захапіў у заходніх абласьцях **75** і забіў **46 “бандытаў”**, арыштаваў **575** “удзельнікаў нацыяналістычнага падпольля і іх пасобнікаў”. За акрэсьлены пэрыяд “бандыты” забілі 11 “савецкіх грамадзян”. Там працягвалі дзейнічаць **7 “дробных бандыцкіх групаў”**, у якіх налічвалася **22 чалавекі і 17 “бандытаў”-адзінцоў.** У другім паўгодзьдзі 1953 году ў БССР, Украіне і рэспубліках Прыбалтыкі “некалькі ўзрасла колькасьць тэрарыстычных праяваў”. Алег Мазохін адзначае, што гэта была апошняя актывізацыя антысавецкага падпольля і да 1955-1956 гг. сытуацыя там стабілізавалася.[26]

**Алег Падгайчык**

[1] Мозохин О. Террористические организации националистов в западных областях Украины, Белоруссии и Прибалтики [глава з манаграфіі “Борьба советских органов государственной безопасности с терроризмом”] // http://mozohin.ru/article/a-194.html

[2] http://mozohin.ru/article/a-194-6.html

[3] Падгайчык А. Пра перадваеннае “беларускае нацыяналістычнае падпольле ў Савецкім Саюзе” // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2(7), б. 141.

[4] http://mozohin.ru/article/a-194-6.html

[5] http://mozohin.ru/article/a-194-7.html

[6] Тамсама.

[7] У студзені-сьнежні 1947-га ў заходніх абласьцях БССР былі цалкам ліквідаваныя 36 “актыўна дзеючых узброеных тэрарыстычных бандаў”, створаных і кіраваных беларускім, польскім і ўкраінскім нацыяналістычным падпольлем. Часткова была разьбітая 41 “банда”, таксама працягвалі дзейнічаць яшчэ “дробныя групы і бандыты-адзінцы”. Былі ліквідаваныя 15 беларускіх, польскіх і ўкраінскіх нацыяналістычных арганізацый. Гл.: Бюро ЦК КП(б)Б і барацьба з антысавецкім падпольлем // Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1(3), б. 85. — “БР”.

[8] Тамсама.

[9] Тамсама.

[10] Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944 — 1956 / Даведнік. — Менск: Архіў Найноўшае Гісторыі, 1999, б. 71.

[11] http://mozohin.ru/article/a-194-7.html

[12] Была вайна... З гісторыі антысавецкага ўзброенага супраціву. — Менск: Беларускі Рэзыстанс”, 2003, б. 5-7, 9, 10.

[13] Ермолович В., Жумарь С. Огнём и мечом. Хроника польского националистического подполья в Беларуси (1939 — 1953 гг.). — Минск, 1993, б. 93.
[14] http://mozohin.ru/article/a-194-7.html
[15] Тамсама.
[16] Тамсама.
[17] http://mozohin.ru/article/a-194-12.html
[18] ФЗО — школа фабрычна-завадзкога навучаньня. Да 1953 году моладзь адпраўлялі ў яе ў прымусовым парадку. Там рыхтавалі рабочых масавых прафэсій для вугальнай, металургічнай, нафтавай ды іншых галінаў прамысловасьці.
[19] http://mozohin.ru/article/a-194-12.html
[20] Пра атрад Міхала Ляскоўскага "БР" ужо распавядаў. Гэта быў маладзёжны атрад, у некаторых удзельнікаў бацькі змагаліся за савецкую ўладу, а дзеці пайшлі супраць яе. Актыўных дзеяньняў атрад ня вёў, спадзяваліся на хуткі пачатак вайны Захаду з СССР. Ляскоўскага ўзялі параненым і закатавалі ў Шаркоўшчыне. Гл.: Ляскоўскі У. Антысавецкі рух у Шаркоўшчынскім раёне пасьля вайны // Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1, б. 90-92. — "БР".
[21] http://mozohin.ru/article/a-194-12.html
[22] http://mozohin.ru/article/a-194-7.html
[23] МТС — машынна-трактарная станцыя, выконвала разнастайныя працы для калгасаў.
[24] http://mozohin.ru/article/a-194-12.html
[25] http://mozohin.ru/article/a-194-7.html
[26] http://mozohin.ru/article/a-194-11.html

# СТАТЫСТЫКА САВЕЦКІХ КАРНЫХ ВОРГАНАЎ ПА АРЫШТАВАНЫХ У БЕЛАРУСІ “АНТЫСАВЕТЧЫКАХ” У 1939-1953 ГГ.

Расейскі дасьледчык Алег Мазохін апублікаваў важныя статыстычныя зьвесткі пра арыштаваных у СССР за антысавецкую дзейнасьць.[1] Яны грунтуюцца пераважна на матэрыялах з Цэнтральнага архіву ФСБ Расеі. На жаль, гэтыя дадзеныя агульныя — па ўсім Савецкім Саюзе, таму мы маем мінімальныя зьвесткі па арыштаваных у БССР. Але і яны вельмі каштоўныя. У публікацыі А. Мазохіна ёсьць лічбы арыштаваных МГБ БССР за антысавецкую дзейнасьць па гадах у пэрыяд ад 1939-га да 1953 году ўключна. Таксама яна зьмяшчае лічбы арыштаваных беларусаў у СССР г. зн. і ў Беларусі, і за яе межамі, у іншых рэспубліках. Амаль па кожным годзе ёсьць зьвесткі пра колькасьць арыштаваных, якія зьяўляліся ўдзельнікамі беларускіх “нацыяналістычных буржуазных” ці “контррэвалюцыйных” партый, арганізацый ці групаў.

Атрымліваецца, што ў 1939-1940 і 1943-1953 гадах у БССР за антысавецкую дзейнасьць былі арыштаваныя **91312** чалавек. Па 1941 годзе ёсьць зьвесткі не па БССР, а па арыштаваных у СССР беларусах — 3318 чалавек. Таму можна дапусьціць, што ў акрэсьлены пэрыяд у БССР арыштавалі **да 95 тысяч** “антысаветчыкаў”. Але гэта далёка няпоўная лічба. Важна не забываць, што ў 1941-1944 гг. на тэрыторыі Беларусі “антысавецкія элементы” арыштоўвалі, забівалі і толькі зрэдку перапраўлялі за лінію фронту ў Маскву савецкія партызаны і разнастайныя спэцгрупы савецкіх карных органаў і вайсковай выведкі. Таксама, як адзначае А. Мазохін, у статыстыцы няма зьвестак пра арыштаваных у 1945 годзе “Сьмершам”, а гэта былі 111156 чалавек.[2] Нават калі беларусаў сярод іх было толькі некалькі адсоткаў, гэта — тысячы чалавек.

Адзначым, што сярод арыштаваных у БССР, асабліва ў 1939-1940 і ў 1944-1945 гг., было шмат палякаў, габрэяў, украінцаў, расейцаў. Лічба арыштаваных у СССР у 1939-1953 гг. за антысавецкую дзейнасьць беларусаў складае **62995** чалавек.

Падаючы зьвесткі па кожным годзе, мы, для параўнаньня, падаем лічбы і па арыштаваных у суседніх Украіне, Летуве, Латвіі. Цікава, што ў 1944-1945 гг. за антысавецкую дзейнасьць больш, чым у БССР, арыштоўвалі толькі ва Ўкраіне. У 1946-1947 гг. другое месца займала Летува, але ў 1948 годзе яго зноў заняла БССР і трымала да 1951 году ўключна. І толькі ў 1952 годзе ў Беларусі адзначалася значнае скарачэньне арыштаў “антысаветчыкаў”. Гэтая статыстыка сьведчыць пра дзьве ўспышкі супраціўленьня: першая прыпадала

на час вяртаньня савецкай улады ў 1944 годзе, а другая — у канцы 1940-х, калі актывізавалася прымусовае калгаснае будаўніцтва. Супраціўляліся звычайныя людзі, якія ня былі ў нейкіх беларускіх партыях ці арганізацыях. Удзельнікаў апошніх сярод арыштаваных за акрэсьлены пэрыяд налічваецца толькі некалькі тысяч чалавек (найбольш у 1949-м — амаль 800).

Адзначым таксама, што ў паваенны час арыштоўвалі за “шпіянаж на карысьць замежных дзяржаваў” (ад Нямеччыны, Англіі і ЗША да Ватыкана, Аргентыны, Японіі), за тэрор, дывэрсіі, паўстанцтва і “палітбандытызм”, бандытызм, сабатаж, шкодніцтва, антысавецкую агітацыю, спробы ўцёкаў за мяжу, выраб і распаўсюд антысавецкіх улётак, антысавецкія выказваньні, здраду і пасобніцтва нямецкім акупантам.

**1939 год**

У БССР за гэты год былі арыштаваныя за антысавецкую дзейнасьць **1378** чалавек (для параўнаньня: ва Ўкраінскай ССР — 2458), у Заходняй Беларусі — **8818** (у Зах. Украіне — 9286). Сярод арыштаваных былі толькі **6** удзельнікаў беларускіх “нацыяналістычных контр-рэвалюцыйных арганізацый” (украінцаў такіх было 1172). У СССР у 1939 годзе арыштавалі **3422** беларуса (украінцаў — 6197). Агульны лік арыштаваных у Савецкім Саюзе “антысаветчыкаў” — амаль 45 тысяч чалавек.[3]

**1940 год**

У БССР былі арыштаваныя за антысавецкую дзейнасьць **1094** чалавекі (для параўнаньня: ва Ўкраінскай ССР — 4337), у Заходняй Беларусі — **27758** (у Зах. Украіне — 45365, у Летуве — 2663). Сярод арыштаваных былі толькі **4** удзельнікі беларускіх “нацыяналістычных контр-рэвалюцыйных арганізацый” (украінцаў — 4828). У СССР у 1940 годзе арыштавалі **5888** беларусаў (украінцаў — 21856). Агульны лік арыштаваных у Савецкім Саюзе “антысаветчыкаў” — амаль 133 тысячы чалавек.[4]

**1941 год**

У гэтым годзе ў СССР былі арыштаваныя за антысавецкую дзейнасьць **3318** беларусаў (за першае паўгодзьдзе — 1712, за другое — 1606). Для параўнаньня: украінцаў — 8382, летувісаў — 1085, латышоў — 1083, эстонцаў — 944. Агулам у СССР за антысавецкую дзейнасьць арыштавалі амаль 133 тысячы чалавек. Сярод арыштаваных былі выяўленыя **15** удзельнікаў беларускіх антысавецкіх “буржуазна-нацыяналістычных партый, арганізацый і групаў” (11 — у першым паўгодзьдзі). Для параўнаньня: украінцаў — 3998, латышоў — 691, летувісаў — 517, эстонцаў — 439.[5]

**1942 год**

За антысавецкую дзейнасьць на тэрыторыі СССР (па-за межамі БССР, акупаванай нацыстамі) былі арыштаваныя **2364** беларусы (менш за 2% ад агульнай колькасьці арыштаваных у Савецкім Саюзе “антысаветчыкаў”, якіх было амаль 191 тысяча чалавек). Сярод іх выявілі **2** удзельнікаў беларускіх “буржуазна-нацыяналістычных партый, арганізацыяў і групаў”.[6]

**1943 год**

У гэтым годзе за антысавецкую дзейнасьць у БССР былі арыштаваныя **1041** чалавек (для параўнаньня: ва Ўкраіне — 22736, Смаленскай вобл. РСФСР — 3061). Сярод іх удзельнікаў беларускіх “буржуазна-нацыяналістычных партый, арганізацый і групаў” выяўлена не было. Сярод арыштаваных за антысавецкую дзейнасьць ня толькі ў БССР, але і па ўсім СССР (а такіх было больш за 141 тысячу) колькасьць беларусаў складала **1826** чалавек.[7]

**1944 год**

За антысавецкую дзейнасьць у БССР былі арыштаваныя **13045** чалавек (для параўнаньня: ва Ўкраіне — 30954, Летуве — 2584, Латвіі — 1513, Эстоніі — 2962, Малдавіі — 2105, Бранскай вобл. РСФСР — 457, Смаленскай вобл. РСФСР — 709). Сярод арыштаваных за антысавецкую дзейнасьць ня толькі ў БССР, але і па ўсім СССР (а такіх было больш за 103 тысячы) беларусаў было **10383** чалавекі.[8]

**1945 год**

У гэтым годзе за антысавецкую дзейнасьць у БССР былі арыштаваныя **8906** чалавек (для параўнаньня: ва Ўкраіне — 30495, Летуве — 6958, Латвіі — 7120, Эстоніі — 6569, Малдавіі — 2546, Бранскай вобл. РСФСР — 1082, Смаленскай вобл. РСФСР — 1067). Сярод іх былі **165** удзельнікаў беларускіх “буржуазна-нацыяналістычных партый, арганізацый і групаў”. Сярод арыштаваных за антысавецкую дзейнасьць ня толькі ў БССР, але і па ўсім СССР (а такіх было больш за 112 тысяч) беларусы складалі **7826** чалавек.[9] Нагадаем, што ў статыстыцы няма людзей, арыштаваных у 1945 г. “Сьмершам”.

**1946 год**

За антысавецкую дзейнасьць у БССР былі арыштаваныя **4373** чалавекі (для параўнаньня: ва Ўкраіне — 22025, Летуве — 4919, Латвіі — 1651, Эстоніі — 690, Малдавіі — 876, Бранскай вобл. РСФСР — 450, Смаленскай вобл. РСФСР — 423). Сярод арыштаваных за антысавецкую дзейнасьць ня толькі ў БССР, але і па ўсім СССР (а такіх было больш за 91 тысячу) беларусы складалі **5724** чалавекі.[10]

**1947 год**

У гэтым годзе за антысавецкую дзейнасьць у БССР былі арыштаваныя **2742** чалавекі (для параўнаньня: ва Ўкраіне — 22450, Летуве — 4939, Латвіі — 1620, Эстоніі — 527, Малдавіі — 534, Бранскай вобл. РСФСР — 603, Смаленскай вобл. РСФСР — 420). Сярод іх былі **227** удзельнікаў беларускіх "буржуазна-нацыяналістычных партый, арганізацый і групаў". Сярод арыштаваных за антысавецкую дзейнасьць ня толькі ў БССР, але і па ўсім СССР (а такіх было больш за 67 тысяч) беларусы складалі **3034** чалавекі.[11]

**1948 год**

За антысавецкую дзейнасьць у БССР былі арыштаваныя **5084** чалавекі (для параўнаньня: ва Ўкраіне — 21783, Летуве — 4109, Латвіі — 2562, Эстоніі — 1478, Малдавіі — 361, Бранскай вобл. РСФСР — 530, Смаленскай вобл. РСФСР — 703). Сярод іх былі **576** удзельнікаў беларускіх "буржуазна-нацыяналістычных партый, арганізацый і групаў". Сярод арыштаваных за антысавецкую дзейнасьць ня толькі ў БССР, але і па ўсім СССР (а такіх было больш за 70 тысяч) беларусы складалі **4937** чалавек.[12]

**1949 год**

У гэтым годзе за антысавецкую дзейнасьць у БССР былі арыштаваныя **7032** чалавекі (для параўнаньня: ва Ўкраіне — 16106, Летуве — 4279, Латвіі — 3052, Эстоніі — 1447, Малдавіі — 349, Бранскай вобл. РСФСР — 621, Смаленскай вобл. РСФСР — 520). Сярод іх былі **797** удзельнікаў беларускіх "буржуазна-нацыяналістычных партый, арганізацый і групаў". Сярод арыштаваных за антысавецкую дзейнасьць ня толькі ў БССР, але і па ўсім СССР (а такіх было больш за 70 тысяч) беларусы складалі **6162** чалавекі.[13]

**1950 год**

За антысавецкую дзейнасьць у БССР былі арыштаваныя **4800** чалавек (для параўнаньня: ва Ўкраіне — 17144, Летуве — 2930, Латвіі — 2694, Эстоніі — 2213, Малдавіі — 356, Бранскай вобл. РСФСР — 439, Смаленскай вобл. РСФСР — 199). Сярод іх былі **250** удзельнікаў беларускіх "буржуазна-нацыяналістычных партый, арганізацый і групаў". Сярод арыштаваных за антысавецкую дзейнасьць ня толькі ў БССР, але і па ўсім СССР (а такіх было больш за 57 тысяч) беларусы складалі **4318** чалавекі.[14]

**1951 год**

У гэтым годзе за антысавецкую дзейнасьць у БССР быў арыштаваны **4391** чалавек (для параўнаньня: ва Ўкраіне — 8905, Летуве — 3287, Латвіі — 2270, Эстоніі — 1766, Малдавіі — 401, Бранскай вобл. РСФСР — 328, Смаленскай вобл. РСФСР — 231). Сярод іх былі **246** удзельнікаў беларускіх "буржуазна-нацыяналістычных партый,

арганізацый і групаў”. Сярод арыштаваных за антысавецкую дзейнасьць ня толькі ў БССР, але і па ўсім СССР (а такіх было больш за 45 тысяч) беларусы складалі **3751** чалавек.[15]

**1952 год**

За антысавецкую дзейнасьць у БССР былі арыштаваныя **569** чалавек (для параўнаньня: ва Ўкраіне — 3764, Летуве — 1072, Латвіі — 820, Эстоніі — 462, Малдавіі — 327, Бранскай вобл. РСФСР — 104, Смаленскай вобл. РСФСР — 104). Сярод іх былі **46** удзельнікаў беларускіх “буржуазна-нацыяналістычных партый, арганізацый і групаў”. Сярод арыштаваных за антысавецкую дзейнасьць ня толькі ў БССР, але і па ўсім СССР (а такіх было больш за 16 тысяч) беларусы складалі **652** чалавекі.[16]

**1953 год**

У гэтым годзе за антысавецкую дзейнасьць у БССР былі арыштаваныя **281** чалавек (для параўнаньня: ва Ўкраіне — 2479, Летуве — 1029, Латвіі — 554, Эстоніі — 380, Малдавіі — 275, Бранскай вобл. РСФСР — 95, Смаленскай вобл. РСФСР — 80). Сярод іх былі **20** удзельнікаў беларускіх “буржуазна-нацыяналістычных партый, арганізацый і групаў”. Сярод арыштаваных за антысавецкую дзейнасьць ня толькі ў БССР, але і па ўсім СССР (а такіх было больш за 10 тысяч) беларусы складалі **344** чалавекі.[17]

**Публікацыя Алега Падгайчыка**

[1]Мозохин О. Статистические сведения о деятельности органов ВЧК — ОГПУ — НКВД — МГБ // http://mozohin.ru/article/r-9.html
[2] Тамсама.
[3] http://mozohin.ru/article/a-50.html
[4] http://mozohin.ru/article/a-51.html
[5] http://mozohin.ru/article/a-52.html
[6] http://mozohin.ru/article/a-53.html
[7] http://mozohin.ru/article/a-54.html
[8] http://mozohin.ru/article/a-55.html
[9] http://mozohin.ru/article/a-56.html
[10] http://mozohin.ru/article/a-57.html
[11] http://mozohin.ru/article/a-58.html
[12] http://mozohin.ru/article/a-59.html
[13] http://mozohin.ru/article/a-60.html
[14] http://mozohin.ru/article/a-61.html
[15] http://mozohin.ru/article/a-62.html
[16] http://mozohin.ru/article/a-63.html
[17] http://mozohin.ru/article/a-64.html

# ЗНОЎ ПРА АТАМАНА ЯКАВА (ЯКУБА) ТРУХАНА І ЯГО АДНАВЯСКОЎЦАЎ

*“У паняволенай Крамлём частцы Беларусі Случчына пацярпела больш за іншыя землі нашай Айчыны”.*[1]

У адным з першых нумароў часопіса друкаваўся артыкул пра беларускага **атамана Трухана**, які на Случчыне вельмі доўга супраціўляўся савецкім уладам — аж да 1938 году.[2] На жаль, у наступныя гады нідзе нічога новага пра гэтага чалавека не зьявілася.

У базе рэпрэсаваных, якая даступная ў інтэрнэце, ёсьць інфармацыя пра некалькіх Труханаў са Случчыны. Нагадаем, што ў згаданай публікацыі ў “БР” адзначалася: **“Партызанскі асяродак** [атрада Трухана] **знаходзіцца недалёка вёскі Працавічы”.**[3] Дык вось адзін з Труханаў дакладна адтуль ды яшчэ і імя яго... Якаў!

**Трухан Якаў Яўсеевіч**. Нарадзіўся ў 1895 г., в. Працэвічы (так у даведцы — **МШ**) Слуцкага раёну БССР; беларус; адукацыя пачатковая; селянін, адзінаасобная гаспадарка. Жыў у Мінскай вобл., Слуцкім раёне, в. Працэвічы. Арыштаваны 5 чэрвеня 1931 г. Прыгавораны Калегіяй АГПУ 14 студзеня 1932 г., абвінавачаны па ар. 58/2, 17 КК РСФСР — антысавецкая дзейнасьць. Прысуд: 10 гадоў Папраўча-працоўных лягераў, тэрмін адбываў у Вішэрскім АГПУ і Сіблагу АГПУ. Рэабілітаваны 27 сьнежня 1989 г. пракуратурай Мінскай вобл.[4]

Яшчэ два чалавекі зь вёскі Замошша Слуцкага раёну. Першы — **Лука Трухан**, 1884 г. н., інкасатар, жыў у Слуцку, арыштаваны ў 1937 г., асуджаны на 10 гадоў зьняволеньня за “антысавецкую агітацыю”, вызвалены ў 1943 годзе, рэабілітаваны ў 1957-м. Другі — **Яўхім Трухан**, 1881 г. н., селянін, арыштаваны ў 1932 г., асуджаны на 5 гадоў канцлягераў за “антысавецкую



агітацыю" і як удзельнік "контррэвалюцыйнай групоўкі", далейшы лёс невядомы, рэабілітаваны ў 1989 годзе. Ёсьць яшчэ трое Труханаў (Андрэй, Феадосій і Сава) зь вёскі Сяльцо Старобінскага раёну, арыштаваных у 1937-1938 гг. за "антысавецкую агітацыю" (у т. л. сярод моладзі), дваіх зь іх расстралялі.

У той жа базе рэпрэсаваных ёсьць згадкі пра сваякоў-аднавяскоўцаў **Люцко (Люцька)**, які рыхтаваў паўстаньне ў аддзелах Чырвонай Арміі на Случчыне. Ён жа з той жа вёскі, што і Трухан — Працавічы. У сьпісе аж шэсьць Люцько з Працавічаў, рэпрэсаваных у 1930-х. Усе яны — беларусы.

**Акім Філіпавіч Люцко**, 1897 г. н., калгасьнік, арыштаваны 18 сакавіка 1933 г. і асуджаны за "антыкалгасную агітацыю" на 3 гады высылкі ў Казахстан, рэабілітаваны ў 1959 г.

**Арцём Філіпавіч Люцко**, 1889 г. н., селянін-адзінаасобнік, арыштаваны 3 чэрвеня 1931 г., асуджаны за "антысавецкую дзейнасьць" на 3 гады "паражэньня ў правах", рэабілітаваны ў 1989 годзе.

**Аляксандар Люцко**, 1893 г. н., калгасьнік, арыштаваны 25 сакавіка 1933 г. і асуджаны за "антыкалгасную агітацыю" на 3 гады высылкі ў Казахстан, рэабілітаваны ў 1959 г.

**Аляксей Люцко**, 1904 г. н., селянін-адзінаасобнік, арыштаваны 30 чэрвеня 1930 г. "Тройкай" 14 кастрычніка 1930 г. асуджаны як "агент польскай выведкі" на 5 гадоў канцлягераў. Рэабілітаваны ў 1989 годзе.

**Міхаіл Люцко**, 1903 г. н., калгасьнік, арыштаваны 18 сакавіка 1933 г., асуджаны за "антыкалгасную агітацыю" на тры гады высылкі ў Казахстан, рэабілітаваны ў 1959 годзе.

**Фёдар Люцко**, 1879 г. н., конюх, арыштаваны ў 1937 г., асуджаны на 10 гадоў канцлягераў за "антысавецкую агітацыю", рэабілітаваны ў 1989-м.

Ёсьць у сьпісе і **Павел Люцко**, 1881 г. н., з хутара Паўстынь Урэцкага сельсавета са Случчыны. Яго арыштавалі ў чэрвені 1938-га, як "агента польскай выведкі" і ўдзельніка "антысавецкай групы".[5]

10 чэрвеня 1931 году ў палявым лягеры 11 пяхотнага палка ў в. Грыцэвічы на Случчыне быў арыштаваны чырвонаармеец **Анісім Дабралет**, 1901 г. н., ураджэнец в. Працавічы. 14 студзеня 1932 г. калегія АГПУ асудзіла яго на 3 гады паражэньня ў правах за *"сокрытие сведений о котрреволюционных намерениях двоих граждан"*. Рэабілітаваны ў 1989 годзе.[6]

Побач зь ім у сьпісе рэпрэсаваных — **Герасім Дабралет**, 1904 г. н., жыхар в. Працавічы Слуцкага раёну, селянін-адзінаасобнік. Яго арыштавалі 5 чэрвеня 1931 году. 14 студзеня 1932 г. калегія АГПУ асудзіла на 3 гады паражэньня ў правах за "антысавецкую дзейнасьць". Рэабілітаваны ў 1989 годзе.[7]

У студзені 1931-га ў Слуцку арыштавалі ўраджэнку Працавіч 28-гадовую **Соф'ю Маркевіч** ("сувязь з контрэвалюцыйнай арганізацыяй"). У красавіку 1931-га ў Працавічах арыштавалі 37-гадовую **Ганну Бараноўскую** (як "польскую шпіёнку") і **Надзею Вечар** ("антысавецкая дзейнасьць"). У чэрвені 1931-га арыштавалі 19-гадовага **Яўхіма Прыму** ("антысавецкая дзейнасьць")

Магчыма, згаданыя асобы маюць нейкае дачыненьне да Трухана і Люцька ды іх арганізацый? Калісьці трэба будзе спраўдзіць у архівах.

І яшчэ. Былы партызан Якуба Трухана Алесь Яцэвіч (Змагар) успамінаў, што атаман адправіў яго вучыцца ў Менск разам з Ільлём Коберам.[8] Біяграфічныя зьвесткі пра Кобера адшукаў у даведніку Леаніда Маракова.

**Кобер Ільля Сямёнавіч**, 1907 г. н., вёска Працавічы Слуцкага пав., з сялянскай сям'і. Працаваў настаўнікам у Гомелі. Арыштаваны 10 сьнежня 1936 году. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 25 траўня 1937 г. да трох гадоў пазбаўленьня волі. Быў этапаваны ў Казахстан. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 26 студзеня 1962 году.[9]

Чытаеш пра гэтых людзей і думаеш: нейкая сапраўдная партызанская вёска, гэтыя Працавічы (Працэвічы).

**Мікалай Шыбіцкі**

[1] Яўген Гучок. Неабходна ўдакладніць адрасы // Наша слова, 2012, 19 сьнежня, № 51.

[2] Дзеравенскі П. Аддзел атамана Трухана і паўстаўшая вайсковая арганізацыя Люцька // Беларускі Рэзыстанс, 2005, № 1(2), б. 94-97. Передрук з эміграцыйнага выданьня "Дакуманты і факты" (1955, № 8, ліпень-жнівень).

[3] Тамсама, б. 94.

[4] Жертвы политического террора в СССР // http://lists.memo.ru/index19.htm

[5] Жертвы политического террора в СССР // http://lists.memo.ru/index12.htm

[6] http://lists.memo.ru/d11/f181.htm

[7] Тамсама.

[8] Беларускі Рэзыстанс, 2005, № 1(2), б. 96.

[9] http://www.marakou.org/en/davedniki/repres_nastaunik/tom-iv-kniga-i/index_24106.html

# СПРАВА НАЧАЛЬНІКА ШТАБУ БАТАЛЬЁНУ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ ІВАНА ЛЮЦКО

## ЗНОЎ ПРА СПРОБУ ЎЗЬНЯЦЬ УЗБРОЕНАЕ ПАЎСТАНЬНЕ НА СЛУЧЧЫНЕ Ў 1931 ГОДЗЕ

У рубрыцы "Паведамленьні" ў гэтым нумары зьмешчаны матэрыял пра партызанскую вёску Працавічы на Случчыне і пра тое, як савецкія карныя органы вынішчалі яе жыхароў.[1] Гэта працяг публікацыі ў "БР", у якой мы калісьці распавялі пра атамана Трухана і пра спробу паўстаньня ў аддзеле Чырвонай Арміі, якую зрабіў Люцко.[2] Дагэтуль дакладна не былі вядомыя ні імя **Люцко**, ні нават год, калі ён загінуў. І вось нядаўна высьветлілася, што яшчэ ў 2001 годзе ў Расеі публікаваўся дакумэнт савецкіх спэцслужбаў з інфармацыяй пра Івана Люцко.[3] Цыркуляр ОГПУ СССР ад 1931 году прысьвечаны ўплыву гвалтоўнай калектывізацыі сялянства на настроі байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі. У Беларусі ён не перадрукоўваўся і, верагодна, быў незаўважаны беларускімі дасьледчыкамі. Гісторыя Івана Люцко вельмі каротка згадвалася ў публікацыі Кірыла Аляксандрава.[4] І ўсё.

Публікатары дакумэнта зьмясьцілі і біяграму: **ЛЮЦКО Іван Філіпавіч** (1902 — 1931), ураджэнец вёскі Працэвічы Слуцкага раёну, беларус, з сялян. Скончыў пачатковую вучэльню (1915 г.), 27-ю Іванава-Вазьнясенскую пяхотную школу камандуючага складу (1924 г.). У 1924-1931 гадах быў ва Ўсесаюзнай камуністычнай партыі (бальшавікоў). З 1920 году служыў у Чырвонай Арміі, шараговец 1-й асобнай брыгады 17-й кавалерыйскай дывізіі 4-й арміі Заходняга фронту,

[1] Шыбіцкі М. Зноў пра атамана Якава (Якуба) Трухана і яго аднавяскоўцаў // Беларускі Рэзыстанс, 2012, № 2 (13), б. 49-51.

[2] Дзеравенскі П. Аддзел атамана Трухана і паўстаўшая вайсковая арганізацыя Люцька // Беларускі Рэзыстанс, 2005, № 1(2), б. 94-97. Перадрук з эміграцыйнага выданьня "Дакуманты і факты" (1955, № 8, ліпень-жнівень).

[3] ОГПУ и общество в период коллективизации: неизвестные страницы // Новый часовой. Русский военно-исторический журнал (Санкт-Петербург), 2001, № 11-12, б. 273-278; http://volganews24.ru/%D0%BE%D0%B3%D0%BF%D1%83-%D0%B8-%D0%BE%D0%B1%D1%89%D0%B5%D1%81%D1%82%D0%B2%D0%BE-%D0%B2-%D0%BF%D0%B5%D1%80%D0%B8%D0%BE%D0%B4-%D0%BA%D0%BE%D0%BB%D0%BB%D0%B5%D0%BA%D1%82%D0%B8%D0%B2%D0%B8%D0%B7%D0%B0/

[4] Александров К. Вторая гражданская война // Новая газета, 2012, 13 красавіка, № 41; http://www.novayagazeta.ru/comments/52118.html

удзельнік савецка-польскай вайны 1920 г. Пасьля дэмабілізацыі быў курсантам, камандзірам зьвяна 27-й пяхотнай школы (ліпень 1921 — кастрычнік 1923-га), камандзір 3-га зьвязу, 9-й роты палкавой школы 120-га стралковага палка (кастрычнік 1924 — верасень 1925-га), інструктар тэрытарыяльнага ўпраўленьня 5-га стралковага корпуса Мазырскага акруговага ваеннага камісарыяту (верасень 1925 — травень 1926-га), камандзір зьвязу, памочнік камандзіра роты (травень 1926 — красавік 1929 гг.), камандзір роты 12-га стралковага палка (красавік 1929 — красавік 1931-га). З красавіка 1931 году — начальнік штабу батальёну 12-га стралковага полка. Загінуў у перастрэлцы з чэкістамі 2 чэрвеня 1931 году каля савецка-польскай мяжы.

Дакумэнт передрукоўваецца ў перакладзе на беларускую мову.

“Цыркуляр Асобага Аддзела АГПУ

№ 225/00 — 21 чэрвеня 1931 г.
Масква.



***Кулямёт Дзегцярова быў прыняты на ўзбраеньне Чырвонай Арміі ў 1927 годзе. Фота — http://www.krivoshein-a-g.narod.ru/pulemety.html***

Зьмест: Аб узмацненьні інфармацыйнага асьвятленьня і агентурна-апэратыўнай працы Асобых Аддзелаў сярод усіх катэгорый начскладу РСЧА.[1]

У канцы траўня г[этага] г[оду] ў Беларусі мелі месца ўцёкі з часткі Нач[альніка] Штабу 2 батальёну 12 стр[алковага] палка 4 дывізіі ЛЮЦКО І. Ф. і старшыны 3 роты таго ж батальёну ДЗЁМІНА А. І., з намерам узьняць узброенае паўстаньне ў раёне і сысці ў Польшчу. Уцёкам папярэднічала к[онтр]р[эвалюцыйная] паўстанцкая праца, якую вёў ЛЮЦКО і яго саўдзельнікі сярод к[онтр]р[эвалюцыйнага] кулацкага элемента.

Уцекачы захапілі з сабой два лёгкіх кулямёта тыпу "Дзегцярова", 4 вінтоўкі, 5 зараджаных дыскаў і 2.000 патронаў да іх.

2 чэрвеня ў выніку інтэнсіўнай агентурна-апэратыўнай працы ЛЮЦКО і ДЗЁМІН былі выяўленыя ў 5-ці км ад польскай мяжы. Пры затрыманні абодва аказалі ўзброены супраціў: ЛЮЦКО быў забіты, ДЗЁМІН арыштаваны.

Праведзеным сьледствам ўстаноўлены наступныя акалічнасьці: ЛЮЦКО б[ылы] чырвоны партызан, у РСЧА добраахвотнік з 1921 году, селянін, серадняк, які падтрымлівае сувязь з сям'ёй, якая займаецца с[ельскай] г[аспадаркай] (аднаасобнікі).

Па агентурных зьвестках, ужо за некалькі месяцаў да ўцёкаў ЛЮЦКО пры прыездзе на радзіму усталяваў асобныя сувязі з кулацтвам.

З часу заканчэньня нармальнай[2] школы ЛЮЦКО бесперапынна знаходзіўся ў 12 стр[алковым] палку, дзе лічыўся адным з узорных камандзіраў, меў добрыя атэстацыі і вылучэннІ ў пазачарговым парадку.

Нягледзячы на гэта, пры адсутнасці мераў заахвочваньня, ЛЮЦКО неаднаразова атрымліваў дысцыплінарныя спагнаньні (за дробныя правіны чырвонаармейцаў яго роты, не заўсёды дастаткова абгрунтаваныя).

Ва ЎКП(б)[3] ЛЮЦКО ўступіў у [19]21 годзе, з 1924 году ён зьяўляецца сябрам партыі. Пры апошняй чыстцы партыі ЛЮЦКО была абвешчана строгая вымова з папярэджаньнем, а ў сакавіку гэтага году [1931-га] ён быў выключаны з УКП(б).

Пасьля выключэньня з партыі ЛЮЦКО стаў нядбайна ставіцца да сваіх абавязкаў, п'янстваваць і да т. п. Прыблізна за месяц да ўцёкаў ЛЮЦКО пачаў весьці к[онтр]р[эвалюцыйную] працу і распачаў стварэньне паўстанцкай арганізацыі.

У гэтых мэтах ён пачаў намацваць для вярбоўкі незадаволеных сав[ецкай] уладай і службовым становішчам сярэдніх і малодшых камандзіраў. У якасьці метадаў вярбоўкі ён прыцягваў паведамленьне правакацыйных чутак аб раскулачваньні сямействаў камандзіраў, аб маючай адбыцца іх дэмабілізацыі і інш.

За некалькі дзён да ўцёкаў, ЛЮЦКО зьвязаўся з асобнымі кулакамі, якія жылі паблізу лягеру і павёў вярбоўку іх у паўстанцкую арганізацыю. Першачарговы плян ЛЮЦКО зводзіўся да ўзняцця паўстаньня ў лягеры "Урэчча"[4], узбраеньню сялян, захопу г. Слуцка і арганізаванаму сыходу ў Польшчу.

Аднак, з прычыны таго, што дастатковай колькасьці ўдзельнікаў ЛЮЦКО сабраць не ўдалося, ён вырашыў зьбегчы ў Польшчу з групай камандзіраў, падымаючы паўстаньні па шляху руху да мяжы.

Некалькі завербаваных ім сярэдніх і малодшых камандзіраў ад уцёкаў адмовіліся, альбо загадзя, альбо непасрэдна перад сыходам ЛЮЦКО. Таму ЛЮЦКО ўцёк з адным ДЗЁМІНЫМ, з моманту ўцёкаў, прасоўваючыся да мяжы, ён вёў к[онтр]р[эвалюцыйную] агітацыю і праводзіў вярбоўку ў паўстанцкую арганізацыю.

Пакуль устаноўлена, што ЛЮЦКО было завербавана да 60 чалавек, зь іх 10 вайскоўцаў.

У лютым месяцы 1930 году Асобым Аддзелам БВА[5] ліквідаваная к[онтр]р[эвалюцыйная] паўстанцкая арганізацыя ў складзе 30 чалавек, зь іх пяць вайскоўцаў розных частак БВА, кіраваная кам[андзірам] узвода 192 стр[алковага] палка 64 дывізіі ПОПТУС Ф. С., якая ставіла сабе мэтай узьняцьце на тэрыторыі БССР збройнага паўстаньня для зьвяржэньня сав[ецкай] улады. Дзейнасьць арганізацыі паводле выпрацаванага пляну павінна была працякаць у наступных кірунках:

1. Арганізацыя к[онтр]р[эвалюцыйных] паўстанцкіх ячэяк, як у вайсковых частках, так і сярод грамадзянскага насельніцтва.
2. Рабаваньне ўзброенага склада 192 стралковага палка.
3. Узброены напад на г. Оршу, з мэтай рабавання банкаў і інш. крэдытных установаў, і разгрому сав[ецкіх] установаў.
4. Забойства савецкіх работнікаў.
5. Зьнішчэньне тэлефоннай і тэлеграфнай сувязі.
6. Выбухі чыгуначных шляхоў, вайсковых складоў і мастоў.
7. Пераход на бок Польшчы.

Практычна арганізаваная дзейнасьць "актыву" арганізацыі была накіравана па лініі насаджэння к[онтр]р[эвалюцыйных] паўстанцкіх ячэяк, на тэрыторыях Аршанскага, Мінскага і Бабруйскага раёнаў, з задачай падрыхтоўкі "сялянскіх кадраў" для ўдзелу ў паўстаньнях.

Сьледствам выяўлена сувязь дадзенай арганізацыі з агентамі 2 аддзела Польскага Генэральнага Штабу.

Гэтая справа разам з іншымі па малодшым і сярэднім кір[уючым] складзе і курсантах нармальных школ (напрыклад, справа к[онтр]р[эвалюцыйнай] паўстанцкай групоўкі ва Ўладзікаўказскай пяхотнай школе) выключна сур'ёзна сігналізуюць аб неабходнасці ўзмацненьня ўвагі Асобых Аддзелаў да наступных праяваў:

1. Кулацкая к[онтр]р[эвалюцыйная] актыўнасьць пранікае ў войска

акрамя чырвонаармейскіх сувязяў, а таксама і па сувязях кір[уючага] складу, зьвязанага з сельскай гаспадаркай, асабліва лёгка прыцягваючы ў арбіту свайго ўплыву сацыяльна-чужыя элементы, у прыватнасьці сем'і, чальцы якіх рэпрэсаваныя, а таксама асабіста ўшчамлёныя, незадаволеныя, малаўстойлівыя элементы.

2. Кулацкі агентурай, у цэлым шэрагу выпадкаў, зьяўляюцца правыя элементы сярод камандзіраў, выключаныя з УКП(б) камандзіры, асабліва тыя зь іх, якія выключаныя, як сацыяльна-чужыя, або за ўхілы ад генэральнай лініі партыі.

3. Па шэрагу А[собых] А[дзьдзелаў] Акругаў адзначаюцца факты незадаволенасьці кір[уючага] складу службова-бытавымі ўмовамі. Гэтыя настроі нярэдка зьяўляюцца прыкрыцьцём — шырмай для кулацкіх і апартуністычных настрояў (незадаволенасьць тэмпамі баявой вучобы, сац[ыялістычнымі] спаборніцтвамі, ударніцтвам і інш.) і глебай для выкарыстаньня кір[уючага] складу кулацкімі к[онтр]р[эвалюцыйнымі] элементамі (так напрыклад, у БВА існавала групоўка кам[андзіраў] узводаў, якая выпускала адозвы, накіраваныя супраць камандаваньня палка, якая склалася на глебе дапушчаных камандаваньнем скажэньняў дысцыплінарнай практыкі).

4. У памежных акругах замежныя выведкі намацваюць і спрабуюць выкарыстаць праз сваю агентуру нават найменшыя ваганьні ў настроях ня толькі начальніцкага, але і шараговага складу ў Чырвонай Арміі.

Беручы пад увагу ўзрастаньне арганізаванай актыўнасьці к[онтр]р[эвалюцыйных] элементаў у войску, якая базуецца на ўзмацненьні кулацкіх і правых настрояў, што перарастаюць у паўстанцкія, А[собы] А[дзьдзел] ОГПУ прапануе ўсім А[собым] А[дзьдзелам] Акругаў і П[аўнамоцным] П[радстаўніцтвам]:

1. У агентурна-аператыўнай працы па войску зьвярнуць асабліва сур'ёзную ўвагу на ўзмацненьне інфармацыйнага асьвятленьня і агентурнай працы сярод усіх катэгорый кір[уючага] складу, асабліва малодшага і сярэдняга. Увесь сярэдні кір[уючы] склад і асноўная постаць — камандзір узвода — павінны быць цэнтрам увагі ў гэтай працы.

2. Пад сыстэматычнае ўзмоцненае назіраньне ўзяць усіх камандзіраў (у тым ліку і малодшых), сем'і якіх рэпрэсаваныя ў той ці іншай форме, або вядуць аднаасобную сельскую гаспадарку.

3. Уважліва вывучаць дысцыплінарную практыку ў дачыненьні да ўсіх катэгорый кір[уючага] складу, сігналізуючы А[собаму] А[дзьдзелу] ОГПУ аб істотных скрыўленьнях і перагібах.

4. Усе наяўныя матэрыялы аб к[онтр]р[эвалюцыйных] паўстанцкіх настроях кір[уючага] складу падвяргаць самай стараннай распрацоў-

цы, фіксуючы яе ва ўсіх сур’ёзных выпадках, у мэтах папярэджаньня пашырэньня к[онтр]р[эвалюцыйнай] працы, магчымых актыўных дзеяньняў.

Звычайна, усялякае паўстанцкага характару выказваньне камандзіра павінна пацягнуць за сабой неадкладную яго распрацоўку.

5. Праверыць агентурную і асьведамляльную сетку па кір[уючаму] складу ўсіх катэгорый, ачысьціць яе ад сумніўнага элемента і баласта, і ўзмацніць яе колькасна і якасна, давёўшы яе да ўзроўню неабходнага для поўнага і ўсебаковага асьвятленьня ўсіх катэгорый кір[уючага] складу.

6. У двухдэкадны тэрмін ўзяць на ўлік і паведаміць у А[собы] А[дзьдзел] ОГПУ статыстычныя дадзеныя аб колькасьці выключаных з УКП(б) камандзіраў, палітработнікаў і чырвонаармейцаў, з дадаткам дакладу аб ліквідаваных справах і тых, што распрацоўваюцца, па якіх праходзяць выключэнцы, а таксама характарызуючага настроі выключэнцаў.

Пам[очнік] Нач[альніка]
С[акрэтна]-А[пэратыўнага]У[праўленьня]
і Нач[альнік] А[собага] А[дзьдзелу] ОГПУ **Ольскі**[6]”.

*Адзьдзяленьне спэцыяльных фондаў Інфармацыйнага Цэнтру ГУ МУС па Самарскай вобласьці РФ, ф. 5, воп. 1, спр. 14, арк. 92-95. Апублікавана: ОГПУ и общество в период коллективизации: неизвестные страницы // Новый часовой. Русский военно-исторический журнал (Санкт-Петербург), 2001, № 11-12, б. 273-278; http://volganews24.ru/%D0%BE%D0%B3%D0%BF%D1%83-%D0%B8-%D0%BE%D0%B1%D1%89%D0%B5%D1%81%D1%82%D0%B2%D0%BE-%D0%B2-%D0%BF%D0%B5%D1%80%D0%B8%D0%BE%D0%B4-%D0%BA%D0%BE%D0%BB%D0%BB%D0%B5%D0%BA%D1%82%D0%B8%D0%B2%D0%B8%D0%B7%D0%B0/*

[1] Рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі (РСЧА). — “БР”.

[2] Верагодна, маецца на ўвазе вайсковая школа (вучэльня) каманднага складу — “БР”.

[3] Усесаюзная камуністычная партыя (бальшавікоў), скарочана — УКП(б).

[4] Урэчча — мястэчка на паўднёвы-ўсход ад Слуцка, цяпер знаходзіцца ў Любанскім раёне. У пачатку 1930-х каля Ўрэчча і чыгуначнай станцыі знаходзіліся вайсковыя лягеры.

[5] Беларускай вайсковай акругі, скарочана — БВА.

# АРХІЎНАЯ СПРАВА ЯНКІ ГІНЬКО

## ДА 100-Х УГОДКАЎ З ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ СЯБРА ЦК БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНІЦКАЙ ПАРТЫІ



Ян, Янка, Іван Гінько. Пра гэтага беларускага дзеяча нярэдка згадваюць у публікацыях, прысьвечаных Беларусі пад нямецкай акупацыяй 1941-1944 гадоў. Аднак біяграфія яго не распрацаваная, яна поўная “белых плямаў”. Нават дакладная дата сьмерці невядомая.

У адным з эміграцыйных выданьняў пра Янку Гінька пісалі такое: *“Гінько — інжынер; працаўнік Беларускай Народнай Самапомачы; згінуў ад тэрору МВД у 1945 г.”*.* Гэтая згадка пра яго гібель патрапіла і ў адну публікацыю на Бацькаўшчыне.** Але ўжо ў кнізе “Вяртаньне БНП” памылка была выпраўленая.***

Тады, у сярэдзіне 1990-х, не было біяграмаў дзеячоў ні Беларускай Народнай Самапомачы, ні Беларускай Незалежніцкай Партыі. Эміграцыя гэтым проста не займалася, пісаліся толькі нэкралёгі па памерлых на чужыне і зрэдку — за “жалезнай заслонай”. Давялося пачынаць з нуля. Звычайна на кожную асобу заводзіўся асобны аркуш паперы, на які запісваліся вядомыя пра яе зьвесткі, якія з часам дапаўняліся, удакладняліся. Падобны аркуш “Янка Гінько” захаваўся, ён быў заведзены 23 жніўня 1995 году. А ў 1996-м я пазнаёміўся з Пятром Рашэтнікам з Баранавічаў, які ведаў Гінька па Інце, сустракаўся, стэлефаноўваўся зь ім і пасьля вызваленьня. У апублікаваных у

---

*Другі Усебеларускі Кангрэс. Матар’ялы сабраныя і апрацаваныя на падставе пратакольных запісаў камісіяй Беларускай Цэнтральнай Рады пад рэдакцыяй праф. Р. Астроўскага. — [Мюнхэн]: Выданьне Беларускай Цэнтральнай Рады, 1954, б. 72.

** Ёрш С. Пасьляваенны супраціў бальшавіцкім акупантам на Беларусі // Пагоня, 1995, № 23, 16-22 чэрвеня.

***Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы й дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск-Слонім: БГКАЦ, 1998, б. 90.

2006 годзе ўспамінах Рашэтніка нямала месца адведзена расповеду пра Янку Гінько.* Дзякуючы спадару Пятру адшукаліся здымкі Гінька і іншых беларусаў-палітвязьняў з Інты.**

Цікавыя факты пра Янку Гінька падае ў сваіх успамінах Кастусь Шышэя: "[У 1957 годзе] *Гінько... аб'ездзіў сваіх некаторых сваякоў і сустрэўся з Максімам Танкам... З паэтам Янка быў знаёмы яшчэ са школы. А пазней, у канцы трыццатых гадоў, Янка нават фінансаваў выданне кнігі М. Танка "На этапах". Таму адмовіцца ад сустрэчы з Гінько Танк ніяк не мог. Ён прыняў былога сябра ў сябе на дачы, падарыў яму свае кнігі, але без подпісу. А на развітанне сказаў: "Янка, у цябе свой шлях, а ў мяне свой. Мы з табой больш не сябры"*.***

Згадкі пра Гінька прысутнічаюць у некаторых выданьнях савецкіх часоў, у якіх выкрывалася "падрыўная" і "злачынная" дзейнасьць "беларускіх буржуазных нацыяналістаў". Напрыклад, Васіль Раманоўскі пісаў пра яго ўдзел у заснаваньні Беларускай Незалежніцкай Партыі.**** У яшчэ адным выданьні яго таксама называюць у ліку кіраўнікоў БНП (Гадлеўскага, Родзькі, Сянькевіча), але скажаюць прозьвішча — Грынько.*****

У 1990-я зьявіўся шэраг публікацый, закліканых распавесьці пра "злачынную", "здрадніцкую" дзейнасьць беларускіх нацыяналістаў у гады Другой сусьветнай вайны, прысьвечаных Міхалу Вітушку і батальёну "Дальвіц". У іх згадваўся і Іван Гінько. Найбольш цікавая для нас публікацыя зьявілася на бачынах газэты *"Знамя юности"* ў 1997 годзе.****** Яна была праілюстраваная некалькімі аркушамі паказаньняў Янкі Гінько ў турме НКГБ БССР. Яны датычылі дэсанту "Дальвіца", яго складу, узбраеньнямі, мэтаў. Таксама падаваліся біяграфічныя дадзеныя Гінька.

---

* Рашэтнік П. Сустрэчы на жыцьцёвым шляху // Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1(3), б. 132-135.

** Яны віселі ў рамцы ў апусьцелай вясковай хаце. Рашэтнік мяне паслухаў і дзесьці ў 1997-м зьезьдзіў за імі. Здымкі хоць і пашкоджаныя, але вельмі для нас каштоўныя. Некаторыя зь іх ужо друкаваліся, некалькі ўпершыню зьяўляюцца ў гэтым нумары "БР".

*** Шарэцкі С. Іх лёсы звязаныя з Вільняй. — Вільня: Jusida, 2001, б. 264.

**** Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. — Мінск: "Беларусь", 1964, б. 187-189.

***** Война в тылу врага. О некоторых проблемах истории советского партизанского движения в годы Великой Отечественной войны. — Москва: Политиздат, 1974, б. 429.

****** Ивановский И. Каратель. Отпетого мерзавца пытаются представить национальным героем // Знамя юности, 1997, 14 жніўня.

***



Аднак зьвернемся да ўласна біяграфіі Янкі Гінько. Ён нарадзіўся 3 студзеня 1912 году ў вёсцы Загор’е Залескай гміны Дзісенскага павету Віленскага ваяводзтва (цяпер вёска ў Залескім сельсавеце Глыбоцкага раёну Віцебскай вобласьці). Сям’я была праваслаўная. Бацькі — Філіп і Настасься Гінько — працавалі на зямлі. Былі заможнымі, бо мелі магчымасьць вучыць свайго сына нават у далёкай Варшаве. На 1931 год яны ўжо не жылі ў Загор’і, а ў нейкім засьценку (аднадворным пасяленьні, хутары). На жаль, у заяве на імя рэктара Варшаўскай палітэхнікі Я. Гінько напісаў яго назву неразборліва.

Вучыцца Янку адправілі ў Глыбокае. Спачатку ён скончыў сямікласную агульную школу (у 1927-м), а пасьля — прыватную гімназію імя

Wydział geodezyjny Nr. alb ............

KWESTJONARJUSZ

Nazwisko Ginko
Imię Jan
Imiona rodziców Filip i Anastazja

Miejsce urodzenia (wieś, miasto, powiat, (województwo)) wieś Zagorje gm. Zaleskiej pow. Dziśnieńskiego woj. Wileńsk.
Data urodzenia (dzień, miesiąc, rok) 3 stycznia 1912 r.
Narodowość Polska
Wyznanie prawosławne
Przynależność państwowa Polska
Język ojczysty polski

Podpis: Jan Ginko

Adres miejscowy Warszawa Polna 50-15

Warszawa, d. 26 sierpnia 1931 r.

Drukarnia Państwowa Nr. 51575 11.VI.30. 1.500.

***Уліковая картка Я. Гінька, запоўненая пры паступленьні ў Варшаўскую палітэхніку***

Люблінскай Уніі (у 1931-м). Далей яго чакала навучаньне ў польскай сталіцы.

Нам цікава, калі ў Янкі Гінько зьявіліся парасткі беларускага патры-



На просьбу „Шлях Моладзі" высылаем: Я. Ключміку, Ю. Сергіевічу, К. Гунько, Лідзе Буднік, Радкевічу Я., Багдановічу Н., Лістапацкаму, Я. Гіньку, Я. Парафяновічу, Андрэявічу Т., Ул. Локотку, В. Чаплінскаму, Шпоніку Міх. Чакаем абяцанае падпіскі.

Атрымалі як падпіску на „Шлях Моладзі" ад: Кс. В. Шутовіча 8 зл., Я. Гапановіча 4 зл., Тарасэвіча 3 зл., Цікоты М., Я. Гінько, К. М., Федаровіча, Альхімовіча па 2 зл.; Добрыяна Самсона, Стэпулёнка П. па 1 зл. 50 гр.; Савэрца В. 1 зл., Парпеновіча 50 гр. Усім шчыра дзякуем, „Шлях Моладзі" высылаем.

ятызму, хто на яго паўплываў? Вядома, што, паступаючы ў палітэхніку, у жніўні 1931-га ён назваў польскай ня толькі дзяржаўную прыналежнасьць, але і нацыянальнасьць. Роднай мовай была пазначаная польская. У архіве той жа Варшаўскай палітэхнікі захавалася ўліковая картка Міхала Вітушкі, які паступаў у 1934 годзе. І нацыянальнасьць і родная мова там пазначаныя беларускія. Але наўрад ці на Гінька хтосьці паўплываў ужо ў Варшаве. Верагодна, яшчэ жывучы на Глыбоччыне, ён сутыкнуўся з беларускім рухам. Але афіцыйна пра сваю беларускасьць не заяўляў. У той час так рабілі многія — не хацелі мець праблемаў з польскімі ўладамі.




Вядома, што вясной 1930 году падпішчыкам беларускага віленскага часопісу “Шлях моладзі” быў нехта “Я. Гінько”. Ён даслаў у рэдакцыю 2 злотых.* Ён працягнуў падпіску і ў канцы году.** У той час гэтае беларускамоўнае выданьне гуртавала вакол сябе маладыя нацыянальныя сілы Заходняй Беларусі. Яго актыўна чыталі і на Глыбоччыне, дасылалі допісы ў рэдакцыю, расказвалі пра жыцьцё моладзі.

Канстанцін Казак успамінаў пра сваю маладосьць на Шаркаўшчыне: *“Я ж выхоўваўся як паляк, у польскім духу. Быў у іх скаўтах. Я ў польскую школу хадзіў, пасьля — у гімназію. Адзін мой сябра на мяне добра паўплываў, у беларускім духу. Ён на хутар наш прыход-*

---

*Шлях моладзі, 1930, № 3, сакавік.

**Шлях моладзі, 1930, № 12, лістапад, б. 24.




***Ваенны білет Янкі Гінька, 1940 г. Фота — дакумэнтальны фільм “Супрацьстаяньне”.***

*зіў, беларускія газэты, кніжкі прыносіў, вочы мне адкрыў на беларушчыну”.** Верагодна, хтосьці аказаў падобны ўплыў і на Янку Гінько.

Дакумэнты ў Варшаўскую палітэхніку Янка Гінько падаў 26 жніўня 1931 году. Яго залічылі на геадэзічны факультэт, пасьля ён перавёўся на інжынерны факультэт (аддзел вымярэньня). Вучыўся ён аж да пачатку Другой сусьветнай вайны ў верасьні 1939-га. Верагодна, былі перапынкі, у тым ліку выкліканыя службай у польскім войску.

У Варшаве Янка Гінько далучыўся да беларускага руху, прычым у другой палове 1930-х быў вельмі актыўным. Ён уваходзіў у кіраўніцтва Асьветнага таварыства беларусаў у Варшаве. У лютым 1937 году на першым агульным сходзе зарэгістраванай арганізацыі Гінько абралі скарбнікам. Адзначым, што ў рэвізійную камісію ўваходзіў Міхал Вітушка, які таксама вучыўся ў палітэхніцы. Пятро Ластаўка на бачынах часопіса “Шлях моладзі”, сярод іншых, адзначаў актыўнасьць Гінька і Вітушкі.** Пра гэта ж пісаў і Ўладзімер Брылеўскі.***

Увосень 1939 году Янка Гінько вяртаецца ў родныя мясьціны (з Варшавы ён ішоў пешшу разам зь іншымі студэнтамі-беларусамі), працуе землямерам ва Ўсходняй Беларусі**** (дзесьці ў раёне Бягомля).

На пачатку нямецкай акупацыі вяртаецца ў родныя месцы, становіцца старшынём Беларускай Народнай Самапомачы ў Глыбоцкай акрузе. Пра гэты пэрыяд яго дзейнасьці згадвае ў сваёй аўтабіяграфіі Міхась Зуй.*****

Янка Гінько браў актыўны ўдзел у дзейнасьці канспірацыйнай

---

* Паведамленьне К. Казака С. Яршу ад 28 жніўня 2004 г.

**Ластаўка П. Беларусы ў Варшаве // Шлях моладзі, 1938, 25 сакавіка, № 8.

***Брылеўскі Ўл. Беларусы ў даваеннай Варшаве (жменя ўспамінаў) // Беларус (Нью-Ёрк), 1978, № 250, люты.

****Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1(3), б. 132.

****Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск-Слонім: БГАКЦ, 1998, б. 73.



***Кіраўніцтва Беларускай Народнай Самапомачы. Менск, 1942 г. Гінько стаіць крайні справа. Зьлева ад яго — Барыс Рагуля***

Беларускай Незалежніцкай Партыі, уваходзіў у ЦК БНП.* А Пятро Рашэтнік, са слоў Гінька, сьведчыць, што ён кіраваў палітычнай рэферэнтурай партыі.** Ёсьць зьвесткі, што ён пісаў артыкулы ў канспірацыйны "Бюлетэнь БНП".*** У БНС Янка Гінько працаваў амаль увесь час нямецкай акупацыі.

У ліпені 1942 году яго прызначаюць камандантам акруговага аддзелу Беларускай Самааховы****, якая аднак праіснавала нядоўга і была амаль цалкам распушчаная немцамі. Прызначэньне гэтае было ўдалым толькі з таго гледзішча, што Гінько быў беларускім патрыётам і гарантаваў добрую нацыянальна-ўзгадаваўчую працу сярод самаахоўцаў. Бо Кастусь Шышэя ўспамінаў: *"Гінько неваенны чалавек... Ня ведаў, як стрэльбу ўзяць"*.*****

29 лютага 1944 году Беларуская Цэнтральная Рада выдала пастанову "Аб прызначэньні Намесьнікаў Беларускай Цэнтральнай Рады на акругі". Іван Гінько быў прызначаны на становішча намесьніка на Слуцкую акругу.****** Аднак ужо 1 сакавіка 1944 году Беларуская Цэнтральная Рада прыняла пастанову "Аб адкліканьні Намесьніка Б.Ц.Р. па Слуцкай Акрузе сп. Гінько Івана". Ён паступіў "у распараджэньне Б.Ц.Р.".*******

Пра тое, што ж там здарылася, Гінько распавядаў Пятру Рашэтніку. Вось што той успамінае: "Нейк Янка расказваў мне, што ў 1944 г. ён

---

* Хацкевич А. Преступления без срока давности // Фемида, 1993, № 2, 11-17 студзеня.

** Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1(3), б. 133.

*** Каваль Я. Янка Гінько — нацыяналіст з Дзісьненшчыны // Голас Краю, 2002, № 1(16).

**** Данясеньні савецкай выведкі пра Беларускую Самаахову // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 1(10), б. 79.

*****Вяртаньне БНП..., б. 66.

******За Дзяржаўную Незалежнасьць Беларусі. Дакуманты і матар'ялы сабраныя і падрыхтаваныя для публікацыі І. Касяком, прагледжаныя і апрабаваныя для друку камісіяй Беларускай Цэнтральнай Рады пад кіраўніцтвам праф. Р. Астроўскага. — Лёндан: Выданьне Беларускай Цэнтральнай Рады, 1960, б. 88.

*******Тамсама, б. 89.

быў прызначаны намесьнікам прэзыдэнта Беларускае Цэнтральнае Рады на Слуцкую акругу. Але калі ён туды паехаў прымаць пасаду і пагаварыў зь мясцовым гэбіцкамісарам, зразумеў, што няма там чаго рабіць. Гэбіцкамісар яго не прызнаваў. На Случчыне ўжо была прыфрантавая паласа...".*

16 траўня 1944 году прэзыдыюм БЦР прыняў пастанову аб вызваленьні Гінька ад працы ў Радзе ад 20 траўня. Віцэ-прэзыдэнту Юрыю Сабалеўскаму было даручана "падшукаць для сп. Гінько адпаведную працу".** Але справа ўжо ішла да эвакуацыі зь Беларусі. У чэрвені 1944-га Гінько цесна супрацоўнічае з Усеваладам Родзькам, бярэ ўдзел у нарадах кіраўніцтва БНП у Менску.

Пасьля былі некалькі месяцаў знаходжаньня ў Дальвіцы і Вальбушы. Дэсант у ноч з 17 на 18 лістапада 1944 году на тэрыторыю цяперашняй Гарадзенскай вобласьці. Гінько меў заданьне "разгарнуць антысавецкую прапаганду і працу па аб'яднаньні антысавецкіх элементаў".*** Аднак дэсант адбыўся ня ў тым месцы. Група, зь якой апынуўся Я. Гінько, знаходзілася ў Воранаўскім раёне, дзе ня мела сувязяў. Былі наладжныя кантакты з мясцовым атрадам польскай Арміі Краёвай. А пасьля, падчас "зачысткі" савецкімі вайскоўцамі адной з вёсак, Янка Гінько патрапіў у палон.**** Ігар Валахановіч падае дакладную дату: Гінько (псеўданім "Круглы") быў затрыманы ў Іўеўскім раёне Маладзечанскай вобласьці 29 лістапада 1944 году.*****

З публікацыі Аляксея Салаўёва вынікае, што Ўс. Родзька на адным з допытаў упарта называў Янку Гінька "Ганько".****** Калі, вядома, не памыліўся публікатар вытрымак з дакумэнта. Гінько расказваў Рашэтніку, што аднойчы ў турме НКГБ БССР у кабінэт, дзе яго дапытвалі, прывялі Родзьку. Той сказаў: "Расказвай усё, я ўсё расказаў". І яго адразу ж вывелі.******* Судзілі Янку Гінька, разам зь іншымі кіраўнікамі БНП, у траўні 1946 году.

У першай палове 1950-х Янка Гінько адбываў пакараньне на Інце. Там ён зноў спаткаўся з Кастусём Шышэям, яны сябравалі. А вось адносіны з паэткай Ларысай Геніюш у яго ня склаліся. У яе "Споведзі"

* Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1(3), б. 135.
** За Дзяржаўную Незалежнасьць Беларусі..., б. 109.
*** Соловьев А. Еще раз о послевоенном бандитизме в Беларуси // Беларуская думка, 1997, № 1, б. 148.
**** Падрабязныя ўспаміны пра гэтыя падзеі пакінуў Кастусь Шышэя. Гл.: Вяртаньне БНП..., б. 66-69; Іх лёсы звязаны з Вільняй, б. 132-139.
***** Валаханович И. Специальный батальон "Дальвитц": история и деятельность // Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: Масавыя забойствы нацыстаў. Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канфэрэнцыі. 2 ліпеня 2004 г., Мінск. — Мінск, 2005, б. 112, 114.
******Беларуская думка, 1997, № 1, б. 147, 148.
*******Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1(3), б. 133.



***Група беларусаў і іх сяброў зь іншых нацыянальнасьцяў. Інта, сярэдзіна 1950-х. Я. Гінько стаіць у апошнім шэрагу ў цэнтры. Зьлева ад яго — Пятро Рашэтнік***



***На пікніку. Інта, сярэдзіна 1950-х. Гінько пяты зьлева, каля яго зьлева — жонка, Ганна Аляксандраўна***



***Інта, сярэдзіна 1950-х. Крайні справа — Янка Гінько, зьлева ад яго — Пятро Рашэтнік***

чытаем: “Дайшло да таго, што я пачала атрымоўваць запіскі пад уплывам нейкага Гінька, што беларусам не патрэбныя арыстакраты, памешчыкі, як я...”.*

А вось што ўспамінае Пятро Рашэтнік: *”У лягеры Я. Гінько толькі адзін раз бачыўся з Ларысай Геніюш. Было гэта так. Ларыса прыйшла да мяне на завод і мы пайшлі на другую шахту. Паклікалі Гінька, які працаваў на першай шахце маркшэйдэрам. Я іх пакінуў удвох і яны нейкі час пра штосьці гаварылі. Яны адзін аднаму не спадабаліся, і я ня ведаю чаму. Штосьці ідэалягічнае там было ў іх”.***

Пасьля вызваленьня Янка Гінько застаўся ў Інце, дзе добра зарабляў. Падчас адпачынку на адным з курортаў на Балтыйскім моры ён пазнаёміўся з масквічкай. Неўзабаве яны ўзялі шлюб, жылі на Інце. А ў 1960-х яна дамаглася, каб Гіньку дазволілі жыць у Маскве.*** У той час ён падтрымліваў сувязь з сябрамі, прыяжджаў у Беларусь, у Вільню. Пазьней, калі пачалі наступаць хваробы, толькі стэлефаноўваўся. Жыў Янка Гінько ў Маскве на вуліцы Камарова. П. Рашэтнік апошні раз тэлефанаваў яму ў пачатку 1980-х, але Гінько ўжо нічога ня чуў.**** Устанавіць дакладную дату яго сьмерці пакуль не ўдалося.

***

Безумоўна, для нас вельмі цікавая крымінальная справа Янкі Гінько, якая захоўваецца ў архіве КДБ. Аднак пакуль доступу да яе ня маем. Тым ня менш, зьмяшчаем выявы некаторых дакумэнтаў, якія былі прадэманстраваныя ў дакумэнтальным фільме “Супрацьстаяньне”. Яшчэ ў студзені 1999 году ў архіве Варшаўскай палітэхнікі намі была адшуканая асабістая справа Гінька. Ад таго часу дакумэнты тыя намі амаль не выкарыстоўваліся.***** У гэтай кніжцы “БР” мы перадрукоўваем некаторыя зь іх, зьмяшчаем таксама пераказ/апісаньне іншых.

Аказваецца, Янка Гінько спрабаваў атрымаць з Польшчы пацьверджаньне аб заканчэньні ім Варшаўскай палітэхнікі. Яшчэ на допыце

---

* Геніюш Л. Споведзь. — Мінск: “Мастацкая літаратура”, 1993, б. 213.
** Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1(3), б. 135.
*** Тамсама.
**** Тамсама.
***** Пра яе мы пісалі ў наступнай публікацыі: Ёрш С. Варшаўскае дасье генэрала Вітушкі // Наша Ніва, 1999, № 6 (127), 29 сакавіка.

ў НКГБ БССР у канцы 1944 году са слоў Гінька было запісана сьледчым: *“ГИНЬКО И. Ф. …белорус, гр-н СССР, образование высшее — окончил Варшавский институт в 1939 году, по специальности инженер геодезии”*.*

Янка Гінько, жывучы ў Інце, відаць, спадзяваўся, што здолее хутка вырашыць праблему з атрыманьнем пасьведчаньня. Аднак перапіска цягнулася некалькі гадоў.

У лютым 1961-га ён падпісаў даверанасьць на імя нейкага польскага грамадзяніна Грахульскага:

“**ДАВЕРАНАСЬЦЬ**

Горад Інта, Комі АССР. Дваццаць першае лютага тысяча дзевяцьсот шэсьцьдзесят першага году.

Я, ніжэйпадпісаны, Гінько Іван Філіпавіч, пражываючы горад Інта, вуліца Школьная дом № 3”а” кв. 2, гэтай даверанасьцю ўпаўнаважваю гр. Грахульскага Януша, які жыве ў Польскай Народнай Рэспубліцы гор. Варшава, вуліца Сьвентакшыска, дом № 12, атрымаць у “Варшаўскай палітэхніцы” пасьведчаньне аб заканчэньні мною дадзенай навучальнай установы. У атрыманьні распісацца і зьдзейсьніць усе дзеяньні, зьвязаныя з выкананьнем гэтага даручэньня.

Подпіс: Гінько Іван Філіпавіч.

[…]”.

Адначасова Я. Гінько даслаў ліст на імя рэктара Варшаўскай палітэхнікі прафэсара Букоўскага:

“[…] Ласкава прашу выдаць мне пасьведчаньне, якое пацьвярджае маё навучаньне ў Варшаўскай Палітэхніцы.

У В[аршаўскую] П[алітэхніку] я паступіў у навуч[альным] г[одзе] 1931/32, у навуч[альным] г[одзе] 1938/39 быў выпускніком. Дыплёмную працу выканаў у праф[эсара] Пятроўскага.

Пасьведчаньне прашу выдаць інж. Грахульскаму Янушу

/ — / Ян Гінько

СССР г. Інта 21/II 1961 г.”.

23 сакавіка 1961-га рэктар Вашаўскай палітэхнікі падпісаў пасьведчаньне для Гінька, у якім пацьвярджаў, што ён у 1931-1939 гг. навучаўся на геадэзічным, а пасьля інжынерным факультэце. “У далейшым [Гінько] выканаў дыплёмную працу, аднак не здаваў дыплёмны іспыт і не атрымаў ступень інжынера”. Пераслалі Янку Гіньку гэты дакумэнт праз замежны аддзел Міністэрства вышэйшай адукацыі Польшчы.

Януш Грахульскі аднак працягваў клапаціцца справай Янкі Гінь-

* Знамя юности, 1997, 14 жніўня.

ка. У архіве Варшаўскай палітэхнікі захаваўся яго ліст ад 2 траўня 1961 году, напісаны на афіцыйным бланку старшыні Цэнтральнага Упраўлення воднай гаспадаркі. Верагодна ён ачольваў гэтую ўстанову. Грахульскі прасіў рэктара надаць Янку Гіньку "тытула інжынера геадэзіі". Ён нагадаў, што Гінько ў 1939 годзе выканаў дыплёмную працу, прысьвечаную "вымярэньню гарадзкіх раёнаў". Яна мела назву "Выкарыстаньне тэлескопа "Лодзі" метадам полюса".

"З-за ваенных дзеяньняў у 1939 г. узьнікла перашкода ў атрыманьні дыплёму інжынера, а лёсы вайны закінулі яго далёка за межы дзяржавы...", — піша Януш Грахульскі. Ён просіць выканаць просьбу Янкі Гінька і выдаць яму дыплём.

І зноў няўдала. Рэктар Ежы Букоўскі патлумачыў, што Янка Гінько мог атрымаць дыплём, каб да 1951 году прыехаў у Польшчу і ўлагодзіў некаторыя фармальнасьці ў Варшаўскай палітэхніцы. Гэтага патрабавала распараджэньне міністра асьветы Польшчы ад траўня 1946 году.

Янка Гінько, атрымаўшы гэтую сумную вестку, не складае рукі. Ён піша ліст амбасадару Польшчы ў Маскве Б. Яшчуку і выкладае сутнасьць справы, просіць дапамогі ў атрыманьні дыплёма інжынера. У сваім лісьце ад 1 чэрвеня 1962 году да рэктара Варшаўскай палітэхнікі амбасадар нагадвае, што Гінько да 1956 году знаходзіўся ў зьняволеньні ў СССР і *"ня мог выканаць патрэбных фармальнасьцяў"*. Яшчук выказаўся за тое, каб разгледзець справу Гінька, зважаючы на згаданыя абставіны, *"калі гэта толькі магчыма"*.

Пасьля гэтага рэктар зьвяртаецца па інструкцыі ў Міністэрства вышэйшай адукацыі. У лісьце ад 15 чэрвеня 1962 году выкладаецца справа і адзначаецца, што Гінько ў 1939 годзе выканаў дыплёмную працу, але ня здаў дыплёмнага іспыту. Ежы Букоўскі выказваў сваё меркаваньне: трэба пазытыўна вырашыць пытаньне з выдачай дыплёму магістра інжынера геадэзіі *"ў парадку выключэньня"*. Але прасіў на гэта згоды Міністэрства вышэйшай адукацыі.

У архіўнай справе ёсьць адказ з міністэрства, але прыйшоў ён у Варшаўскую палітэхніку толькі ў траўні 1963 году! Рэктару параілі самастойна прыняць рашэньне па справе Янкі Гінька.

3 чэрвеня 1963 году Ежы Букоўскі піша ліст да польскага амбасадара ў Маскве, у якім прапануе варыянт, якім чынам Янка Гінько мог бы атрымаць дыплём інжынера. Гінько мусіў напісаць у Раду факультэта геадэзіі і картаграфіі ды папрасіць даць яму магчымасьць здаць дыплёмны іспыт. Пасьля гэтага яму прызначылі б, у зручны для яго час, іспыт, для здачы якога давялося б прыехаць у Варшаву.

Восеньню 1963-га рэктару стала вядома, што Янка Гінько па-ранейшаму спрабуе даведацца, якім чынам ён можа атрымаць дыплём. Так высьветлілася, што польская амбасада ў Маскве яму не перадала інфармацыю ад чэрвеня 1963-га. Тым часам там ужо зьмяніўся амбасадар, ім стаў Эдмунд Пшчулкоўскі. У лісьце да яго ад 13 лістапада

Życiorys.
Urodziłem się w dniu 3-go stycznia 1912 roku, we wsi Zagórze powiatu Dziśnieńskiego województwa Wileńskiego w pobliżu granicy rosyjskiej. W roku 1927 ukończyłem 7-mio klasową szkołę powszechną w m. Głębokiem, tegoż powiatu. W roku szkolnym 1927/28 wstąpiłem do gimnazjum prywatnego im. „Unji Lubelskiej" w Głębokiem, gdzie uzyskałem świadectwo dojrzałości w r. b. 1931.
Jan Ginko.

1963 году Ежы Букоўскі папрасіў пераказаць Гіньку інфармацыю пра тое, якім чынам можна ўлагодзіць справу з дыплёмам.

На гэтым дакумэнты ў тэчцы Янкі Гінька ў архіве Варшаўскай палітэхнікі скончаюцца. Падаецца малаверагодным, што Гінько атрымаў дыплём. Наўрад ці яго выпусьцілі б з СССР у Польшчу. Шкада, што рэктар палітэхнікі вырашыў выканаць усе фармальнасьці і не дапамог былому палітвязьню вырашыць справу хутка і бяз лішніх клопатаў.

***

**Аўтабіяграфія**

Я нарадзіўся 3-га студзеня 1912 году ў вёсцы Загор’е Дзісьненскага павету Віленскага ваяводзтва недалёка ад расейскай мяжы.* У 1927 годзе скончыў 7-класную паўшэхную** школу ў г. Глыбокае, таго ж павету. У школьным годзе 1927/28 паступіў у прыватную гімназію імя “Люблінскай Уніі” ў Глыбокім, дзе атрымаў атэстат сьпеласьці ў бягучым 1931 годзе.

**Ян Гінько.**

*Архіў Варшаўскай палітэхнікі. Асабістая справа Яна Гінько. Пераклад з польскай мовы.*

---

*Насамрэч, мяжы з БССР.

**Г. зн. агульная для ўсіх, абавязковая школа, дзе дзеці атрымлівалі пачатковую адукацыю.

№ aktu 5
Rok 1912

ŚWIADECTWO URODZENIA

WYDANE NA ZASADZIE KSIĄG METRYCZNYCH.

Zaświadcza się, iż Jan Ginko
urodził się ~~przy ulicy~~ w wsi Zagorje Zaleskiej gmine
dnia trzejciego
miesiąca Stycznia
tysiąc dziewięcset dwanastego 1912 r.
z ojca Fillipa
z matki Anastasja

Za zgodność świadczę.
dnia 9 m-ca października 1925 r.

Urzędnik Stanu Cywilnego
N 238.

Ks. ... Proboszcza cerkwi prawo... w Głębokiem

Drukarnia Synodalna. Warszawa, Zygmuntowska 13.

13164

*Пасьведчаньне аб нараджэньні Я. Гінька*

Ginko Jan

POLITECHNIKA WARSZAWSKA
OTRZYMANO

Do
Jego Magnificencji Pana Rektora
Politechniki Warszawskiej

Ginki Jana zamieszkałego
w zaś. Ostrowce powiatu
Dziśnieńskiego województwa
Wileńskiego.

Podanie.

Proszę Waszą Magnificencję o przyjęcie
mnie w poczet studentów wydziału Geodezyjnego

Przy niniejszem załączam
1. metrykę w oryginale
2. świadectwo dojrzałości
3. zaświadczenie wojskowe
4. 5 fotografij
5. życiorys.

Jan Ginko

Warszawa dn. 26 sierpnia 1931.

***Заява Гінька з просьбай залічыць яго ў Варшаўскую палітэхніку на геадэзічны факультэт***

KURATORJUM OKRĘGU SZKOLNEGO Wileńskiego

PAŃSTWOWA KOMISJA EGZAMINACYJNA

# ŚWIADECTWO DOJRZAŁOŚCI

Ginko Jan

urodzony dnia 3 miesiąca stycznia roku 1912 w Zagorje województwa Wileńskiego wyznania prawosławnego po ukończeniu nauki w Polskiem Gimnazjum Humanist.-Koeduk. im. Unji Lubelskiej, w Głębokiem T-wa Popierania Szkoły Śred., do którego był przyjęty dnia 1-go września roku 1927, zdawał w maju–czerwcu roku 1931 gimnazjalny zwyczajny egzamin dojrzałości typu humanistycznego wobec Państwowej Komisji Egzaminacyjnej, powołanej przez Kuratorjum Okręgu Szkolnego Wileńskiego pismem z dnia 22 kwietnia 1931 r. Nr. II-12147/31 i otrzymał następujące oceny ostateczne z przedmiotów egzaminacyjnych:

z religji . . . . . . . . . . bardzo dobrze

z języka polskiego . . . . . . . . dostatecznie

z języka łacińskiego . . . . . . . . ———

z języka niemieckiego . . . . dostatecznie

z historji wraz z nauką o Polsce współczesnej . . . . . . . . . dostatecznie

z fizyki wraz z chemją . . . . . ———

z matematyki . . . . . . . . . dobrze

***Пасьведчаньне аб заканчэньні гімназіі ў Глыбокім, 1931 г.***

Poza tem uzyskał ostatnie oceny roczne w klasach VI — VIII (lub odpowiednie oceny na egzaminie wstępnym do wymienionego gimnazjum) z przedmiotów następujących:

z j. łacińskiego dostatecznie | ze śpiewu i muzyki ——
z fizyki dostatecznie | z ćwiczeń cielesnych dostatecznie
z propedeutyki filozofji dostatecznie | z geografji dostatecznie
z rysunku dobrze | z przyrodzn. bardzo dobrze

Państwowa Komisja Egzaminacyjna uznała Ginkę Jana za dojrzałego do studjów wyższych i wydaje mu niniejsze świadectwo.

w Głębokiem, dnia 1 czerwca roku 1931.

Nr. 3

KURATORJUM OKRĘGU SZKOLNEGO WILEŃSKIEGO

PRZEWODNICZĄCY
PAŃSTWOWEJ KOMISJI EGZAMINACYJNEJ

CZŁONKOWIE
PAŃSTWOWEJ KOMISJI EGZAMINACYJNEJ

Ks. Jan Olechnowicz

Д О В Е Р Е Н Н О С Т Ь

Город Инта, Коми АССР. Двадцать первого февраля тысяча девятьсот шестьдесят первого года.

Я, нижеподписавшийся, Гинько Иван Филиппович, проживающий город Инта, улица Школьная дом № 3"а" кв. 2, настоящей доверенностью уполномачиваю гр. Грохульского Януша, проживающего в Польской Народной Республике гор. Варшава, улица Свентокшиска, дом № 12, получить в "Варшавской политехнике" свидетельство об окончании мною данного учебного заведения. В получении расписаться и совершать все действия, связанные с выполнением этого поручения.

Подпись: Гинько Иван Филиппович.

22 февраля 1961 года. Я, Юркевич В.А., нотариус Интинской государственной нотариальной конторы, удостоверяю, что приведенная выше доверенность совершена гр. Гинько Иваном Филипповичем, проживающим в городе Инта, Коми АССР, улица Школьная дом № 3"а", кв. 2. Подписана им собственноручно и что самоличность и дееспособность его проверены.

Взыскано госпошлины один рубль. По реестру № 855.

Экземпляр: второй.

Нотариус Юркевич /Юркевич/




***Даверанасьць для Я. Грахульскага, 1961 г.***

Odpis

Do Jego Magnificencji Rektora

prof. Bukowskiego

od b. studenta
Politechniki Warszawskiej
Wydz. Geodezji

Gińko Jan

PODANIE

Uprzejmie proszę o wydanie mi zaświadczenia stwierdzającego moje zaawansowanie w studiach na Politechnice Warszawskiej. Na P.W. ja stąpiłem w r.akad.1931/32, w r.akade.1938/39 byłem dyplomantem. Pracę dyplomową wykonałem u prof. Piotrowslńego.

Zaświadczenie proszę wydać inż. Grochulskiemu Januszowi.

/-/Jan Gińko

ZSRR m. Inta 21/II 1961r.

za zgodność: (St. Szczdnicka)

*Копія ліста Я. Гінька да рэктара Варшаўскай палітэхнікі, люты 1961 г.*

POLSKA RZECZPOSPOLITA LUDOWA

PREZES
CENTRALNEGO URZĘDU
GOSPODARKI WODNEJ

Nr .................

Warszawa, dn. 2. V. 1961 r.

Jego Magnificencja
Rektor Politechniki Warszawskiej

Obywatel Prof. Dr. J. Bukowski

w miejscu

Uprzejmie proszę Obywatela Profesora o nadanie tytułu inżyniera geodety ob. Gińko Janowi – absolwentowi Politechniki Warszawskiej.

W związku z tym podaję, że pracę dyplomową wykonał ob. Gińko w r. 1939 pod kierunkiem ob. prof. dr. Piotrowskiego z dziedziny pomiarów miejskich p.t. "Zastosowanie lunety "Lodis" metodą biegunową".

Ponieważ działania wojenne w r. 1939 stanęły na przeszkodzie w otrzymaniu dyplomu inżyniera a losy wojny rzuciły go daleko poza granice państwa, wyżej wymieniony nie posiada obecnie żadnego dyplomu i prosi za moim pośrednictwem o przychylne ustosunkowanie się do wydania mu wspomnianego dokumentu.

W załączeniu oświadczenia świadków i upoważnienie ob. Gińko Jana, potwierdzone przez notariusza w m. Inta Republika Komi, Z.S.R.R.

Z upoważnienia
Mgr inż. Janusz Grochulski

***Ліст Януша Грахульскага рэктару Ежы Букоўскаму ад траўня 1961-га.***

POLITECHNIKA WARSZAWSKA
WARSZAWA, PLAC JEDNOŚCI ROBOTNICZEJ

Warszawa, dnia 3.V. 1962 r.

Nr RS-46/82/61/62

Przy odpowiedzi należy powołać się na powyższy nr

Zaświadczenie

W uzupełnieniu zaświadczenia z dnia 23 marca 1961r. Nr. Dz. S/46/85/61 Politechnika Warszawska zaświadcza, że Ob. Jan G i ń k o, urodzony dnia 3 stycznia 1912 roku, studiował na Wydziale Geodezyjnym, a następnie Inżynierii, Oddział Mierniczy Politechniki Warszawskiej w latach 1931-1939.

Politechnika Warszawska stwierdza, że Ob. Jan Gińko, w oparciu o odbyte studia, mógł uzyskać na podstawie Rozporządzenia Ministra Oświaty z dnia 8.V.1946r. o weryfikacji studiów akademickich /Dz.U. Min. Ośw. Nr.6 poz. 166/ stopień inżyniera.

Uzyskanie tego stopnia wymagało w okresie do 1951 roku obecności Ob. Jana Gińko w Polsce i przeprowadzenia wówczas weryfikacji poprzez Radę Wydziału.-

POLITECHNIKA WARSZAWSKA

REKTOR
Politechniki Warszawskiej
(Prof. J. Bukowski)

***Асьведчаньне ў справе Янкі Гінька, падпісанае ў траўні 1962 году рэктарам Варшаўскай палітэхнікі.***

Odpis

AMBASADA
POLSKIEJ RZECZYPOSPOLITEJ LUDOWEJ
w Moskwie

81211/149/62

Moskwa, dnia 1 czerwca 1962 r.

Prof. Jerzy Bukowski
Rektor Politechniki Warszawskiej

Warszawa

Zwrócił się do mnie ob. Jan Gińko, ur. w 1912 r. stale zamieszkały w ZSRR i posiadający obecnie obywatelstwo radzieckie, o pomoc w uzyskaniu z Politechniki Warszawskiej dyplom inżyniera. Podaje on, że w latach 1931–1939 studiował na Wydziale Geodezyjny a następnie na Wydziale Inżynierii Politechniki Warszawskiej / nr immatrykulacyjny – 13164/. Jakoby jego znajomi zwracali się już w tej sprawie do Politechniki i uzyskali odpowiedź, że na podstawie zarządzenia Ministra Oświaty z dn. 8.V.1946 r. /Dz.U.Min Oświaty Nr.6 poz.166/, miał on pełne prawo uzyskać dyplom inżynier z tym, że mógł to załatwić tylko osobiście i przed 1951 r. Ponieważ jednak przebywał on do 1956 r. w więzieniu w ZSRR nie móg dopełnić wwmaganych formalności. Obecnie prosi o rozpatrzenie możliwości wydania mu tego dyplomu, z uwagi na przytoczone wyżej fakty, mimo, że minął termin ich wydawania.

Ambasada uważa, że należałoby uwzględnić prośbę ob.J.Gińko, jeśli to tylko jest możliwe.

Korzystam z okazji, by przesłać Wam serdeczne pozdrowienia

AMBASADOR P.R.L.

/ – / /B.Jaszczuk/

Za zgpdność:

[signature]

15.VI 1962 r.

***Ліст польскага амбасадара ў Маскве рэктару Варшаўскай палітэхнікі ад чэрвеня 1962 г.***

MINISTERSTWO
SZKOLNICTWA WYŻSZEGO
Warszawa, Miodowa 6/8

Departament Studiów
Technicznych

Nr DT-IV-1a/70/63

Przy odpowiedzi powołać się na Nr powyższy

p Snedecki

Warszawa, dn. 15 maja 1963 r.
Tel. 6-00-61
Telex 10-237

Obywatel Rektor
Politechniki Warszawskiej

w miejscu

W odpowiedzi na list Obywatela Rektora Nr RS-46/82/61/62 w sprawie Obywatela Ginko Jana oraz w nawiązaniu do rozmowy przeprowadzonej w tej sprawie z Obywatelem Rektorem przez Kierownictwo Departamentu Studiów Technicznych i dokonanych w trakcie niej ustaleń, prosimy o załatwienie sprawy we własnym zakresie.

v.-D y r e k t o r

18. MAJA 1963

17 MAJA 1963

ZPPN Pol. Sl. z. 1759-62 20 000

***Ліст Міністэрства вышэйшай адукацыі рэктару Варшаўскай палітэхнікі ў справе Я. Гінько ад траўня 1963 году.***

*Янка Філістовіч*

# “МЫ БАЧЫМ, ШТО АГНЁМ КАЛІНОЎСКАГА ЗАПАЛІЛАСЯ ЎСЯ БЕЛАРУСЬ”



*Янка (Іван) Філістовіч (1926 — 1954?) — асоба трагічная ў гісторыі беларускага вызвольнага руху. Да беларускай нацыянальнай сьведамасьці ён прыйшоў ужо на чужыне, у першыя паваенныя гады. Захапіўся, загарэўся, вёў за сабой іншых. Філістовіч быў бы пэрспэктыўным лідарам беларускай палітычнай эміграцыі. На жаль, старэйшыя дзяячы яго не зьбераглі, а, наадварот, адправілі за “жалезную заслону”. Янка ўтрымаўся ў канспірацыі каля году (у 1951-1952 гг.) — тэрмін значны, улічваючы, што ў апошнія месяцы ён ужо дзейнічаў на чале ўзброенай групы, а ў ёй знаходзіўся савецкі агент. Суд адбыўся ў лістападзе 1953-га, Янка Філістовіч быў асуджаны на сьмерць. Магчыма, яго расстралялі ў сакавіку 1954 году. Аднак, сваякі верылі, што яму ўдалося выжыць.* Дарэчы, у афіцыйных публікацыях у Беларусі, прысьвечаных “агенту ЦРУ”, дагэтуль не было згадкі пра тое, калі быў выкананы прысуд і ці быў ён выкананы ўвогуле.*

*Прапануем увазе чытачоў публіцыстычны тэкст Янкі Філістовіча, напісаны ім больш за 60 гадоў таму і апублікаваны ў парыжскім часопісе “Моладзь”.*

**Вялікі дзень**

У жыцьці кожнага з нас ёсьць хвіліны ўздыму, радасьці ды шчасьця, як і хвіліны трагічнага ўпадку ды гора.

Калі прыгледземся да нашае гісторыі — убачым тое самае. Вялікі

*Гл. публікацыі ў “БР”: Галіна Філістовіч: За кожнай хвояй я бачыла брата // Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1, б. 22-36; Вера Філістовіч: Янка сказаў, што змагаецца за сваіх людзей // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 1(10), б. 105-112.

ўздым ды культурны росквіт Беларускага Народу ў 18-ым ст[агодзьдзі] сілай гамуецца ды занепадае, а на ягонае мейсца прыйходзіць цёмная, нялюдзкая сіла чужынцаў, якая ў працягу паўтара веку вырывае з карэньнем усё культурнае насеньне, пасаджанае і дагляданае ў працягу Х-ці вякоў Беларускім Народам. Стан, да якога была даведзена нашая Бацькаўшчына маскоўскай няволяй, хіба найлепш схарактарызуем, падаўшы словы беларускага нашаніўца — Уласа, які сказаў: "памёр бы спакойна, калі б пабачыў, што беларус з беларусам перапісваецца ў роднай мове". Вось гэтыя глыбока патрыятычныя словы, сказаныя ў пачатку ХХ-га стагодзьдзя, жыва прадстаўляюць нам становішча, у якім апынулася нашая, калісьці стоячая на шчыце культуры, Краіна.




***Паштоўка "25 сакавіка 1918 — 1948". Выдадзеная Згуртаваньнем беларускіх скаўтаў ў Нямеччыне ў 1948 г. Фота — hardzin.livejournal.com***

Толькі зьнішчыўшы вольнае жыцьцё нашага народу, чужацкая сіла была ня ў стане зламаць ягоны дух. Глыбака захаваны ў сэрцах беларусаў ён выяўляўся ў рашучых пратэстах супраць няволі. Адным зь якіх і зьяўляецца паўстаньне 1863-64 году. Дарма, што пераважаючая сіла здушыла гэты ўздым. Волі да незалежнасьці яна не перамагла. Дарма трыўмфаваў вораг, думаючы, што пасьля сьмерці на шыбеніцы дыктатара паўстання Кастуся Каліноўскага назаўсёды паняволіць душу беларуса. Сталася наадварот. Чын Каліноўскага, як і ягоная ахвяра, запалілі ў сэрцах народу агонь, які і выявіўся ў Акце 25-га Сакавіка 1918 года, прагалошваючы Вольную і Незалежную Беларусь, за што змагаўся і згінуў 85 год таму Каліноўскі і ягоныя пасьлядоўнікі. Як бачым дзень 25-га Сакавіка, якому прысьвячаем гэты наш скромны артыкул, не зьяўляецца прыпадковым ды малым у гісторыі беларускага народу, гэта дзень праяўленьня яго адвечных жаданьняў, у імя якіх цярпеў Наш Край, змагаліся і геройска паміралі на шыбеніцах ды ў далёкай Сібіры ягоныя сыны. Гэта дзень, у якім Беларус, парваўшы путы няволі, заманіфэставаў перад сьветам сваё нязломнае жаданьне — быць гаспадаром на ўласнай зямлі.

Нічога, што і гэтаму сьветламу Акту не далі закрасаваць тыя-ж самыя суседзі-ворагі, ён сваё зрабіў, бо паказаў як пуцяводная, нез-

гасаючая зорка, дарогу Нашаму Народу, канчаткова збудзіўшы тых, якія ‘шчэ спалі.

Сяньня, у 31-шыя ўгодкі вялікага Сакавікова Акту, мы бачым тое, да чаго клікаў Каліноўскі ды яго несьмяротныя праз свае творы прадаўжальнікі: Багушэвіч, Цётка, Багдановіч, Гарун, Купала, Колас і рад другіх паэтаў, мы бачым, што агнём Каліноўскага запалілася ўся Беларусь. Нашыя лясы, якія заўсёды ў цяжкія хвіліны давалі прытулак свайму гаспадару, напоўненыя беларусамі, якія з надыходам адпаведнае хвіліны зробяць усё, каб канчаткова ажыцьцявіць Акт 25-га сакавіка.

Мы, беларуская моладзь, у вялікі дзень 25-га Сакавіка ўшануем памяць усіх братоў-герояў, загінуўшых за гэта сьветлы Акт, і будзьма прыгатаванымі з надыходам часу, за зрэалізаваньне яго, за волю Бацькаўшчыны, не пашкадаваць найбольшых ахвяраў.

**Філістовіч**

*Моладзь, № 9, сакавік 1949.*

Ад рэдакцыі “БР”: Гэты тэкст Янкі Філістовіча патрапіў у кнігу “Месца выданьня — Парыж. Выбраныя старонкі часопіса “Моладзь” (1948 — 1954). — Менск, 2004, б. 13-14. Але там ён чамусьці быў часткова перапісаны. Мы ж яго друкуем паводле арыгіналу зь мінімальнымі зьменамі.

# ЛЕТАПІС ДАНІЛЮКА

*Данілюк Б. Азіраючыся расой выетымі вачыма: Успаміны. — Мінск: Лімарыус, 2012, 524 б.*




Адыходзяць апошнія беларускія дзеячы, якія дзейнічалі ў гады Другой сусьветнай вайны на Бацькаўшчыне, а па вайне жылі на Захадзе. Толькі адзінкі напісалі ўспаміны, і вельмі часта кніжкі выходзілі з друку ўжо пасьля іх сьмерці. Так сталася і з маім земляком Барысам Данілюком (1923 — 2011). Сувязь зь ім падтрымліваў каля дзесяці гадоў, у лістах атрымліваў успаміны (невялікія і большыя памерам), сьведчаньні пра нейкія падзеі, пра дзеячоў нацынальнага руху, але найбольш — пра Слонімшчыну. На бачынах “БР” летась быў яго тэкст, прысьвечаны арганізацыі і дзейнасьці 48-га беларускага паліцыйнага батальёну.*

Барыс Данілюк пісаў, што працуе над успамінамі. Як заўсёды, грунтоўна, не сьпяшаючыся. Шкада, што не пасьпеў закончыць усё задуманае. Тым ня менш, кніга выйшла ў сэрыі “Беларуская мемуарная бібліятэка”. Складалі яе ўжо іншыя людзі.

Кніга Барыса Данілюка зьяўляецца сапраўдным летапісам падзеяў, сьведкам ці ўдзельнікам якіх ён быў. Для дасьледчыкаў яна — сапраўдны скарб. Такім жа скарбам зьяўляецца, напрыклад, кніга ўспамінаў беларускага эмігранта Лявона Галяка.** Безумоўна, найбольш пашанцавала слонімцам, бо большая частка мэмуараў прысьвечаная падзеям, якія адбываліся на Слонімшчыне. Мне пашанцавала, бо Барыс Данілюк пісаў пра вёскі Савічы, Шылавічы, Добры Бор, Гавенавічы (цяпер — Падгорная) — мясьціны, дзе жылі мае сваякі.

Некаторых знаёмых Данілюка, пра якіх ён згадвае, мне пашчасьціла пабачыць, запісаць успаміны. Ня ўсе яны пазытыўна пра яго адгукаліся. Напрыклад, паэт Анатоль Іверс (Іван Міско) яго нена-

---

*Данілюк Б. Як арганізоўваўся ў Слоніме 48-ы беларускі батальён // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 1(10), б. 125-136.

** Галяк Л. Успаміны. — Кн. 1. ЗША: “Летапіс”, 1982; Кн. 2. ЗША: “Летапіс”, 1983; http://old.knihi.com/memuary/halak.html

відзеў, лічыў вінаватым у правале антыфашыстоўскага падпольля ў Слоніме. Неяк паказаў мне ліст з КДБ РБ, падпісаны старшынём камітэту Эдуардам Шыркоўскім. Там было напісана, што ў КДБ няма зьвестак пра супрацоўніцтва Барыса Данілюка з СД і пра падобную яго дзейнасьць. Шкада, што не зрабіў яго копію.

У кнізе Б. Данілюка згадваецца вельмі шмат прозьвішчаў людзей, якіх ён добра ведаў, зь якімі сябраваў, і тых, каго мог выпадкова сустрэць. Але гэтыя згадкі надзвычай каштоўныя. Зь даведваемся дэталі, што дагэтуль нам былі невядомыя. Як прыклад, камандзір Беларускай Самаахowы ў Быцені Мікола Бондар (пра яго мы згадвалі ў адным з мінулых нумароў "БР"). Аказваецца, ён — былы капітан пятлюраўскага войска. Ці што жонка Станіслава Грынкевіча (малодшага) была слонімскай СБМаўкай. Яна паехала ў Нямеччыну на экскурсію і там спаткала Стася. Атрымліваецца, у 1943-м яна не ехала адмыслова з Бэрліна ў Слонім да С. Хмары "з заданьнем ад Абрамчыка", а наведала сваякоў, ну і не забылася выканаць даручэньне.

Данілюк згадвае, як ў Бэрліне трапіў на нараду афіцэраў-сябраў БНП: Гелды, Зыбайлы, Барыса Рагулі, Сажыча, Дакіневіча. Аднак піша, што не памятае, пра што гаварылі на той нарадзе.* А вельмі шкада. На жаль, часам самыя важныя і цікавыя падзеі сьціраюцца ў памяці...

Здаецца, самае важнае ва ўспамінах Барыса Данілюка — гэта тое, як ён, сын слуцкага паўстанца, даходзіў на беларускай нацыянальнай сьведамасьці. Безумоўна, тэма паўстаньня ў міжваенны час у Заходняй Беларусі кадраў нацыянальнай інтэлігенцыі, сталеньня яе патрабуе асобнага дасьледаваньня. На жаль, сотні гэтых людзей былі зьнішчаныя нацыстамі і бальшавікамі, альбо, як і Данілюк, павандравалі на чужыну.

**Сяргей Ёрш**

# БАРЫС КАВЭРДА ПАДЧАС ВАЙНЫ БЫЎ У РУСКАЙ ВЫВЕДЧАЙ АРГАНІЗАЦЫІ

*Грибков И., Жуков Д., Ковтун И. Особый штаб "Россия". — Москва: "Вече", 2011. — 464 б.*

Пра дзейнасьць спэцыяльнага вайскова-выведчага воргану "Зондэрштаб Р" і яго кіраўніка генэрал-маёра вэрмахта Барыса Смыслоўскага

*Азіраючыся расой выетымі вачыма, б. 344.




(“фон Рэнегаў”, “Артур Хольмстан”) напісана ўжо нямала, у тым ліку і беларускімі дасьледчыкамі. Апошнія зьвяртаюцца да гэтай тэмы невыпадкова: згаданая структура дзейнічала і на тэрыторыі Беларусі. Нядаўна ў Маскве зьявілася новая кніга, прысьвечаная Смыслоўскаму і яго арганізацыі. Яна падаецца найбольш удалай спробай дасьледаваньня. Аўтары вывучылі ды перапрацавалі вялізную колькасьць даступных ім крыніц. Адзначым, што сярод іх зусім няма архіўных матэрыялаў. Барыс Смыслоўскі — выведнік такога маштабу, што дакумэнты пра яго дзейнасьць дагэтуль надзейна прыхаваныя.

“Зондэрштаб Р” займаўся барацьбой з партызанскімі і падпольнымі рухамі розных афарбовак, засылаючы ў іх шэрагі агентаў, альбо вярбуючы іх з ліку ўдзельнікаў. Таксама ён займаўся каардынацыяй выведча-дывэрсійнай дзейнасьці ў савецкім тыле. Сваю арганізацыю Барыс Смыслоўскі камплектаваў найперш эмігрантамі і былымі савецкімі вайскоўцамі (рускімі, украінцамі, беларусамі). Яна мела моцны касьцяк, дамаглася немалых посьпехаў, а ў канцы вайны пасьпела перайсьці мяжу княства Ліхтэнштайн, якое людзей Смыслоўскага ў СССР не выдавала. У паваенны час Б. Смыслоўскі стварыў на Захадзе вэтэранскую арганізацыю “Сувораўскі саюз”, супрацоўнічаў з амэрыканскімі, заходненямецкімі спэцслужбамі, стаў вядомы, як вайсковы тэарэтык.

У кнізе зьмешчаныя цікавыя зьвесткі пра дзейнасьць падчас нямецкай акупацыі на тэрыторыі Беларусі сяброў расейскай эміграцкай арганізацыі НТС. Яны спрабавалі стварыць свае канспірацыйныя суполкі ў Барысаве, Смалявічах, Бабруйску, іншых гарадах, але справы гэтыя ішлі ня вельмі ўдала. Раней невядомы факт — да пачатку чэрвеня 1944 году НТСаўцы масава зьехаліся ў Менск, разам з сем’ямі іх там налічвалася 150 чалавек.* Безумоўна, варта пашукаць зьвестак, ці мелі яны кантакты зь беларускім нацыянальным падпольлем, якое магло спадзявацца выкарыстаць расейскіх канспіратараў у сваіх праектах. Але ўсё магло быць і наадварот. У сьнежні 1943

*Особый штаб “Россия”, б. 249.



году кіраўнік РСХА Г. Гімлер санкцыянаваў стварэньне выведча-дывэрсійнай арганізацыі “Інгвар”, якая дзейнічала пераважна на тэрыторыі Беларусі ды, між іншым, мусіла зьбіраць інфармацыю пра нацыяналістаў. У “Інгвары” было нямала сябраў НТС, у тым ліку і яе кіраўнік — Ігар Юнг.*

Як нам падаецца, дагэтуль зусім невядомы факт, што **Барыс Кавэрда** (1907 — 1987) уваходзіў у арганізацыю Барыса Смыслоўскага. Беларус Кавэрда стаў знакаміты ў 1927 годзе, калі ў Варшаве застрэліў савецкага дыплямата Войкава, помсьцячы за чырвоны тэрор. У яго афіцыйнай біяграфіі паведамляецца, што Барыс Кавэрда выйшаў па амністыі з польскай турмы ў 1937 годзе. Ён жыў у Югаславіі, але пасьля яе акупацыі немцамі ў 1941 годзе вярнуўся да сям’і ў Варшаву. І там, нібыта, знаходзіўся да лета 1944-га. Цяпер жа мы ведаем, што Кавэрда працаваў у асьведамляльным сэктары 2-га аддзела (контрвыведка) Зондэрштаба “Р”. Ён меў мянушкі “Сяргееў”, “Васіленка” і “Сафонаў”.**





***Б. Кавэрда ў Пскове, восень 1943-га.***

* Тамсама, б. 244-245.
** Тамсама, б. 152, 305.




Арганізацыя Б. Смыслоўскага зімой-вясной 1945-га неаднаразова зьмяняла назву. Яна была "Зялёнай арміяй асаблівага прызначэньня", пасьля — "1-й Рускай Нацыянальнай Арміяй" (але зьяўлялася найперш шыльдай для вываду на Захад каштоўных кадраў выведнікаў). Сярод інтэрнаваных у Ліхтэнштайне салдат і афіцэраў Б. Смыслоўскага (дарэчы, у канцы вайны ён атрымаў ад немцаў рангу генэрала) былі і 4 беларусы.*** Ці праходзіў у дакумэнтах як беларус Б. Кавэрда, невядома. Ён выехаў з княства ў Францыю 8 ліпеня 1946 году.****

Пасьля Барыс Кавэрда з жонкай і дачкой апынуўся ў Заходняй Нямеччыне, адкуль у 1952 годзе здолелі патрапіць у ЗША.

**Васіль Сушко**

# ПРАКУРАТУРА Ў 1945 ГОДЗЕ СТВАРАЛА СВАЮ СЕТКУ АСЬВЕДАМЛЯЛЬНІКАЎ

*Послевоенное развитие Глубокского района: 1944 — 1950 гг.: документы и материалы. — Минск: Медисонт, 2010. — 424 с.*




Гэтае выданьне своеасаблівае. Нібыта, і пэрыяд яго складальнікі — глыбоцкія архівісты — ўзялі праблемны, але многія тыя праблемы ў адабраных для кнігі дакумэнтах не праглядаюцца.

Зусім няма нічога ні пра паваенны маладзёжны антысавецкі супраціў у Глыбокім, ні пра мірны супраціў мерапрыемствам савецкай улады ў вёсцы (гэта калі сяляне арганізавана сабатавалі сходы, акцыі). Без дакумэнтаў пра гэта зборнік выглядае занадта "паліткарэктным". У вёсцы ў азначаны пэрыяд ішла зацятая барацьба — ўлады спрабавалі загнаць сялянаў у калгасы, але вяскоўцы гэтаму

* Тамсама, б. 350.
** Тамсама, б. 366.

супраціўляліся. Адгалоскі гэтых працэсаў усё ж можна адшукаць у некаторых дакумэнтах (праўда, даводзіцца чытаць "між радкоў"). Напрыклад, у сьнежні 1949-га з Полацка (абласнога цэнтру) ў Глыбокае прыйшло патрабаваньне актывізацыі ў справе *"взыскания недоимок с кулацких хозяйств"*. Прапаноўвалася хутчэй апісваць маёмасьць і распачынаць справы ў судзе.*

У "Кароткай характарыстыцы палітычнага і гаспадарчага стану Глыбоцкага раёну на 20 траўня 1948 году" адзначаецца "рэлігійнасьць большасьці насельніцтва", што сакратаром раённага камітэта КП(б)Б Пархімовічам лічылася адмоўным фактарам. Да таго ж ён адзначаў у дакумэнце, што "не ліквідаваныя дробныя бандыцкія групы" на тэрыторыі Дзеркаўшчынскага, Тумашоўскага і Верхнянскага сельсаветаў. Паводле Пархімовіча, дзейнасьць іх "заключаецца ў рабунку крамаў, зьнішчэньні дакумэнтацыі ў с[ельскіх] Саветах, а таксама ў **запалохваньні насельніцтва ў перамене ўлады"**. У дакумэнце адзначаецца, што згаданыя "бандыцкія групы" тэрарыстычных акцыяў не праводзілі.**

Цікава прааналізаваць зьвесткі па калектывізацыі ў раёне на кастрычнік 1949 году. У адных сельсаветах калектывізавана толькі каля 60% гаспадарак, у іншых — болей за 90%. Прычым, у ліку "перадавікоў" апынуліся сельсаветы, у якіх яшчэ ў 1948-м дзейнічалі "бандыцкія групы" — Тумашоўскі і Дзеркаўшчынскі.*** Атрымліваецца, што іх добра "зачысьцілі".

Безумоўна, ёсьць дакумэнты цікавыя, праўда, для вузкага кола спэцыялістаў. Зь іх можна даведацца пра стан пажарнай бясьпекі ў раёне, пра які піша ў лістападзе 1949-га начальнік Глыбоцкага раённага аддзела МВД з прозьвішчам *Шаляпин*. Ёсьць справаздачы пра нарыхтоўку дроваў, пра ачышчэньне калгасных лясоў (не падумайце, што ад лесавікоў — ад "захламленасці"), пра неабходнасьць зьнішчэньня ваўкоў, пра стан гандлю, пра "*избы-читальни*", пра адабраньне калгасам імя Сталіна 10 гектараў зямлі ў Канстанцінаўскай касьцельнай рады. У зборніку дакумэнтаў можна пабачыць сьпіс падатковых агентаў на 1948 год, іх біяграфічныя зьвесткі, нацыянальнасьць і характарыстыкі (адзін зь іх нават праводзіў "антыдзяржаўную, варожую працу").

У красавіку 1948 году райвыканкам вымушаны быў вярнуць старую назву Абрубскаму сельсавету, які пасьля вайны пачалі называць "*Ластовическим*". А прэзідыюм Вярхоўнага Савета БССР

*Послевоенное развитие Глубокского района: 1944 — 1950 гг.: документы и материалы, б. 321.
** Тамсама, б. 218.
*** Тамсама, б. 306.

на гэта згоды не даваў. Затое поўным ходам ішло наданьне новых назваў вёскам. Яшчэ ў лістападзе 1946 году Глыбоцкі райвыканкам зацьвердзіў перайменаваньне шэрагу населеных пунктаў, якія мелі "*устарелые и неподходящие названия*". Напрыклад, вёска Блышкі стала *Трудом*, Прыпернае — *Красноармейским*, Храмыя — *Высоким*, Сапліва — *Содовой*.

У зборніку можна адшукаць дырэктывы, якія прыходзілі ў Глыбокае ня толькі з вобласьці але і з цэнтру — зь Мінску. Напрыклад, дакумэнты пракурора БССР Вятрова ад 1945-га аб стварэньні "групаў садзеяньня пракуратуры". Вось што паведамлялася пра іх мэты:

*"Группы содействия… создаются с целью сигнализации органам прокуратуры обо всех фактах нарушения социалистической законности. Группы содействия являются главами и ушами прокуратуры в промышленных предприятиях, промартелях, крупных совхозах и колхозах, базах, складах и торговых организациях".**

Мала было агентуры НКВД і НКГБ, сваю сетку "стукачоў" захацела мець і пракуратура... А яшчэ летам-восеньню 1944 году на Глыбоччыне ствараўся ня толькі зьнішчальны батальён, але і *"группы самозащиты в помощь НКВД численностью 10-15 человек",* прычым, у кожным калгасе, саўгасе, МТС і сельсавеце.**

**Барыс Самсонік**

# ПЕРШАЯ СПРОБА

*ОУН-УПА в Беларуси. 1939-1953 гг.: Документы и материалы. — Минск: Высшая школа, 2011, 528 б.; Другое выданьне — Минск: Высшая школа, 2012.*




Сапраўднай падзеяй 2011 году стаў выхад у Менску зборніка дакумэнтаў, прысьвечанага дзейнасьці АУН-УПА ў БССР. Яго падрыхтавалі беларускія архівісты. Безумоўна, лепш позна, чым ніколі. Такая кніга была вельмі патрэбная яшчэ ў 1990-х.

На жаль, прадмова да зборніка дакумэнтаў аказалася слабаватая. Яе аўтары — вядомыя навукоўцы Ігар Валахановіч і Анатоль Шаркоў. Дзіўна, як яны не заўважылі ў сваёй кароткай прадмове фантастычную дату — нібы, абвяш-

*Тамсама, б. 108.
**Тамсама, б. 44.

чэньне незалежнасьці ўкраінскай дзяржавы адбылося ў Львове... 20 чэрвеня 1941-га (б. 4). Гэта яшчэ да нападу Нямеччыны на СССР! (памылка гэтая засталася і ў другім выданьні)...

На наш погляд, аўтары не абгрунтавалі, чаму ж быў зроблены гэты зборнік дакумэнтаў, у чым яго актуальнасьць. Яны не патлумачылі, адкуль і чаму на беларускім Палесьсі зьявіліся структуры АУН і УПА. А варта было б прыгадаць падзеі 1920-30-х гадоў і ранейшыя, праналізаваць публікацыі на гэтую тэму. Трэба было распавесьці пра ўзаемаадносіны ўкраінцаў зь беларускім вызвольным рухам, пра спрэчкі з-за Палесься. Ня быў дадзены поўны расклад украінскіх палітычных і вайсковых сілаў на Палесьсі і Валыні. Валахановіч і Шаркоў чамусьці не напісалі, што УНРА Бульбы-Бараўца ў 1943 годзе пераважна была падначаленая "бандэраўскай" УПА, але асобныя аддзелы працягвалі дзейнічаць незалежна.

Безумоўна, пералічэньне разнастайных "провадаў" і іх кіраўнікоў важнае. Але яно нічога ня значыць, калі не зроблена тое, пра што мы згадалі вышэй. Таму пра кнігу можна сказаць коратка: **першая спроба.**

Слабую прадмову мусілі б ратаваць дакумэнты. Сапраўды, сярод іх ёсьць цікавыя матэрыялы, у тым ліку надрукаваныя ўпершыню. Аднак малавата іх паходзіць з архіваў КДБ. Бо дакумэнты спэцслужбаў у многіх выпадках больш цікавыя, чым дакумэнты партыйных органаў. Да таго ж, матэрыялы з архіваў КДБ менш даступныя для дасьледчыкаў і іх публікацыя заўсёды падарунак.

Аднак нават ня ўсе даступныя дакумэнты з таго ж НАРБ на тэму барацьбы з АУН-УПА патрапілі ў кнігу. Калісьці "БР" публікаваў дакумэнты пра стварэньне ў пачатку 1945-га на Дзівіншчыне "групаў самаабароны".* На жаль, гэтых матэрыялаў у зборніку чамусьці няма.

У зборніку няма дакумэнтаў, у якіх асьвятляліся б дачыненьні ўкраінскага і беларускага вызвольных рухаў. У тым, што нямала такіх аналітычных матэрыялаў было падрыхтавана ў НКГБ/МГБ БССР, сумнявацца не даводзіцца. У "БР" зьмяшчаўся архіўны дакумэнт пра ўкраінскіх кур'ераў з Захаду (сябраў АУН Мельніка), якія ў 1947 годзе езьдзілі з Украіны ў БССР на сувязь з беларускай канспірацыяй.** Маглі б укладальнікі зьвярнуць увагу і на інтэрв'ю з апошнім камандзірам УПА Васілём Кукам, якое друкавалася ў нашым часопісе.***

---

*Групы самаабароны на Дзівіншчыне, 1945 год // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2(7), б. 71-85.

**Клявец Р. Украінскія кур'еры для сувязі з беларускай канспірацыяй у Баранавічах, 1947 год // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2(7), б. 117-121.

***Васіль Кук: я вёў перамовы з прадстаўнікамі беларускай нелегальнай арганізацыі // Беларусі Рэзыстанс, 2006, № 1(3), б. 72-76.

Бо інфармацыі ў адным з дакумэнтаў БШПР ад ліпеня 1943-га пра кантакты бандэраўцаў і “беларускіх нацдэмаў” ды пра дасягнутыя дамоўленасьці малавата (б. 50). Да таго ж яна не была аўтарамі-складальнікамі пракамэнтаваная.

Дарэчы, камэнтароў у кнізе мала — толькі 20 на кнігу, у якой больш за 500 бачын.

У кнізе зьмешчаныя і дакумэнты з украінскіх зборнікаў сэрый “Летапіс УПА”. Дасьледчыкам гэтыя матэрыялы вядомыя, цяпер жа зручна будзе імі карыстацца — ўсе пад адной вокладкай. Між іншым, у справаздачы вайсковай акругі УПА “Заграва” ад жніўня 1943 году можна прачытаць, што насельніцтва Бярозаўскага раёну настроенае варожа да “бандэраўцаў”. “Давыд-Гарадоцкі раён, — чытаем далей. — Насельніцтва лічыць сябе беларусамі. Украінцамі прызнаюць сябе толькі адзінкі” (б. 58).

Варта адзначыць паведамленьне пра выяўлены ў лістападзе 1944-га ў Клецкім раёне Баранавіцкай вобласьці “бандыцкі лягер бульбаўцаў” (б. 211). У некаторых дакумэнтах ад 1946 году згадваюцца акцыі, праведзеныя сумесна беларускімі і ўкраінскімі нацыяналістамі (“беларуска-ўкраінскімі нацыяналістамі”). Цікава, што датычаць яны Дзівінскага раёну (б. 341-344). Дзіўна, але ў зборніку няма дакумэнтаў пра рэйд украінскіх падпольнікаў у Прыбалтыку, які ішоў праз БССР і быў спынены аддзеламі МГБ. Пра яго ёсьць апублікаваныя і ўспаміны, і артыкулы. У бліжэйшых нумарах “БР” мы вернемся да гэтай тэмы.

Некалькі дакумэнтаў у зборніку прысьвечаныя справе партызанскага камандзіра Барыса Лукашука. Яны выкарыстоўваліся ў публікацыі, якая зьявілася на бачынах “БР”.*

У 2012 годзе выйшла другое выданьне кнігі. Дзіўна, але ў ім няма абсалютна ніякіх зьменаў у параўнаньні з 1-м выданьнем. Нават у сьпісе складальнікаў і сябраў рэдкалегіі не пазначана рамкай, як звычайна робіцца, што Віталя Скалабана ўжо няма сярод жывых...

Зразумелае жаданьне выдаўцоў зарабіць на выданьні, якое карыстаецца попытам і сярод гісторыкаў, і сярод аматараў гісторыі (першы наклад складаў 560 асобнікаў, другі — 1000, кніга каштуе больш за 10 даляраў). Але ж хаця б памылкі і хібы першага выданьня можна было б выправіць. Каб не было сорамна перад тымі ж украінскімі гісторыкамі.

**Сяргей Ёрш**

---

*Дашкевіч Р. Заблытаная справа партызанскага камандзіра Барыса Лукашука // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 2 (11), б. 62-87.

# КНІГА ПРА БЕЛАРУСКІХ КАМАНДАС

Вясной 2012 году ў Сеціве ў вольным доступе зьявілася кніга, прысьвечаная аддзелу беларускіх дэсантнікаў, які ствараўся пры ўдзеле нямецкіх спэцслужбаў і існаваў у 1944-1945 гг.

*Ёрш С. Дэсант у няпэўнасць. Беларускі парашутны батальён “Дальвіц”. 1944-1945 гг. — Мінск, 2012, 311 б., іл.*
http://kamunikat.org/halounaja.html?pubid=21276




Манаграфія пакуль існуе выключна ў электронным варыянце. На дадзены момант яна дапаўняецца і ўдакладняецца ды, магчыма, у будучыні пабачыць сьвет і на паперы.

# ЯК БЫЛЫ БАЕЦ СПЭЦБАТАЛЬЁНУ “ДАЛЬВІЦ” ТРАПІЎ У КАБІНЕТ СТАРШЫНІ КДБ РБ



***Эдуард Шыркоўскі***

Пасьля аднаўленьня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі і развалу СССР у 1991 годзе пачаўся кароткі пэрыяд “лібэралізацыі” ў справе доступу дасьледчыкаў да архіваў КДБ. Калі раней публікаваліся пераважна выцягнутыя адтуль дакумэнты пра рэпрэсіі НКВД/НКГБ супраць пісьменьнікаў і дзяржаўных/партыйных дзеячоў савецкай Беларусі, дык у 1992 годзе ўвага была зьвернутая на справы беларускіх дзеячоў, якія супрацоўнічалі зь немцамі. І найперш публікаваліся паказаньні/успаміны Кастуся Езавітава. Здавалася, што гэта толькі пачатак. Але ўжо тады пачалі зьяўляцца шматлікія публікацыі ў афіцыйным друку, у якіх выкрываліся “саўдзельнікі ў злачынствах”.



***Кастусь Мерляк***

І вось у гэты час, у пачатку восені 1992-га, у Менск прыехаў Кастусь Мерляк*, беларускі дзеяч з ЗША. У 1943-1944 гадах ён служыў у беларускім эскадроне/батальёне Барыса Рагулі ў Наваградку, пасьля на кароткі час трапіў у школу абвера ў Дальвіцы, выконваў нямецкае заданьне ў Італіі, трапіў у амэрыканскі палон, уцёк... І вось чалавек з такой біяграфіяй апынуўся ў кабінеце старшыні КДБ Рэспублікі Беларусь Эдуарда Шыркоўскага.** І яны паразмаўлялі на тэмы, якія хвалявалі Мерляка. Расшыфроўка дыктафоннага запісу гутаркі ў тым

---

*Кастусь Мерляк (1919 — 2007), ураджэнец Наваградзкага раёну. Памёр і пахаваны ў ЗША.

**Эдуард Шыркоўскі (1932 — 2002), ураджэнец Стаўбцоўскага раёну. Кіраваў КДБ БССР/РБ з лістапада 1990-га да студзеня 1994 году. Памёр і пахаваны ў Маскве (Тачоны А. Лёс генэрала Шыркоўскага // Наша ніва, 2003, 5 сьнежня; http://nn.by/?c=ar&i=97886). Адзначым, што на сайце КДБ у яго біяграфіі дагэтуль не зрабілі праўку пра сьмерць, пішуць, што ён “на пенсіі” (Гл.: http://www.kgb.by/history/biography/)...

жа годзе была апублікаваная ў ЗША.* Цяпер, праз 20 гадоў, мала хто пра гэта памятае. Таму мы вырашылі зьмясьціць на бачынах "БР" гэты тэкст.

# "АРХІВЫ КДБ АДКРЫТЫЯ ДЛЯ ЎСІХ"

23 верасьня 1992 г. у кабінэце старшыні КДБ Рэспублікі Беларусь адбылася сустрэча Кастуся Мерляка, Валянтыны Трыгубовіч з старшынёй камітэту КДБ Эдуардам Шыркоўскім і яго намесьнікам Віктарам Дзьмітрыевым. Гутарка, якая адбывалася ў час гэтага спатканьня, была запісана сп. В. Трыгубовіч на дыктафон. У рэдакцыю часопіса "Полацак" была даслана транскрыпцыя запісу гутаркі, якую мы пасьля скарачэньня і некаторых зьменаў стылістычнага характару, але, захоўваючы асаблівасьці мовы ўдзельнікаў, прапануем чытачу.

**Мерляк**: Безумоўна, сёньня я прысутнічаю на гэтай сустрэчы не як беларускі грамадзянін, а як амэрыканскі. Але ў душы я застаюся беларусам, і мне вельмі прыемна спаткацца з Вамі, каб абмяняцца агульнымі думкамі, каб на эміграцыі людзі зразумелі, што вы, старшыня камітэту КДБ, маеце выконваць усе даручэньні, згодна закону і з пашанай да чалавека.

**Шыркоўскі**: Я вельмі ўдзячны Вам за гэтыя добрыя словы. Я заўсёды перадаваў сваім землякам, якія апынуліся на эміграцыі, што ня трэба нічога баяцца, трэба прыязджаць на радзіму. Я думаю, што ўсё нашае грамадзтва павінна помніць, што да ўсіх вас у нас былі адносіны ня вельмі добрыя. Мы ня помнілі аб тым, што вы нашыя землякі, што дзяржава заўсёды павінна клапаціцца аб сваіх грамадзянах, браць іх пад сваю ахову, дзе-б яны не былі. Я заўсёды прытрымліваўся такіх поглядаў, і, мусіць, таму я сёньня зьяўляюся міністрам.

**Мерляк**: На жаль, за мяжой гэтага не разумеюць. Ёсьць сумнівы й недавер. У тутэйшай прэсе вельмі мала пішацца аб дачыненьнях з Вамі. Успамінаюцца імёны іншых міністраў, вашае-ж, вельмі рэдка. Ведама, што думаецца пры такім інфармацыйным голадзе. Меркавалася, што вы трымаецеся ад народу адгароджана, як раней трымаліся супрацоўнікі гэтай установы. І сёньняшні мой візіт — гэта першая спроба зламаць гэты стэрэатып.

**Шыркоўскі**: Я тады хачу, каб Вы сказалі сваім землякам, што сёньняшні камітэт КДБ ёсьць зусім іншым. Ад ранейшага застаўся толькі назоў. Працуюць тут беларусы. Па-першае, што яны робяць,

*"Архівы КДБ адкрытыя для ўсіх" // Полацак (ЗША), 1992, № 8 (18), б. 50-52.

гэта абараняюць сваю сувэрэнную дзяржаву Рэспубліку Беларусь. Служаць яны для людзей, а не супраць іх, як было раней. Я ведаю, што да нашай службы ёсьць недавер. Але ўсё пройдзе. Наступіць другі час, паўстануць іншыя пытаньні. Будзе цяжка. Я першы беларус на гэтай пасадзе ў КДБ беларускай дзяржавы.* Раней роля камітэту ў былом Саюзе была фармальнай, бо і сувэрэннасьці беларускай ніхто не перасьцярагаў. **Гандлявалі землямі й людзьмі, прадавалі беларускія землі без патрэбы...**

А як жыцьцё ў Вас на эміграцыі? Я думаю, прыйдзе час, і я прыеду да Вас.

**Мерляк**: То будзе вельмі прыемнае спатканьне. Калі яно адбудзецца?

**Шыркоўскі**: Можа, у канцы гэтага году, можа, у пачатку наступнага. Я хачу сустрэцца зь землякамі, выступіць перад імі, адказаць на ўсе пытаньні, якія іх хвалююць.

**Мерляк**: Я думаю, што гэта будзе вельмі цікавае спатканьне, як былі цікавымі сустрэчы з міністрам замежных справаў П. Краўчанкам, дэпутатамі Вярхоўнага Савету й іншымі гасьцямі з Бацькаўшчыны.

**Шыркоўскі**: Ну а бліжэй да Вашых каранёў. Адкуль Вы? Ці ўжо наведалі сваякоў?

**Мерляк**: Так, я гасьціў у сваіх цэлы тыдзень. Я там маю брата, які малодшы за мяне на 2 гады, і сястру, малодшую на 4 гады. Брат жыве на тым самым месцы, дзе я нарадзіўся. Немцы падчас вайны ў час акцыі спалілі нашую вёску. Пасьля вайны вёска адбудавалася. Брат паставіў хату на ранейшым месцы. Спаткаўся я і з сваімі равесьнікамі, але распазнаць іх ня мог, бо яны моцна пастарэлі. Усе, з кім прыходзілася гаварыць, выказвалі трывогу за будучыню. Я разумею, што ў цяперашнім эканамічным становішчы вельмі цяжка стаць на ногі. Мы, а таксама й амэрыканскія дзейнікі, лічым, што трэба ўсё рабіць пастунова, пасьлядоўна, не выклікаць канфліктаў ні інтэрнацыянальных, ні нутраных, бо гэта да дабра не давядзе.

**Шыркоўскі**: Мы, беларусы, ведаем, што мусім добра працаваць,

---

*Сярод 20 папярэднікаў Э. Шыркоўскага ў кіраўніцтве ворганамі дзяржбясьпекі БССР быў толькі адзін беларус — Філіп Мядзьведзь, ураджэнец Пружаншчыны, старшыня ГПУ БССР у 1924-1925 гг. Астатнія — рускія, габрэі, палякі, латышы і адзін грузін. Ад 1952 году і да прызначэньня Шыркоўскага старшынямі КГБ БССР былі толькі ўраджэнцы Расеі, рускія паводле нацыянальнасьці. Зь іх толькі Васіль Пятроў (старшыня КГБ БССР у 1959-1970 гг.) нарадзіўся на беларускай этнаграфічнай тэрыторыі — пад Вяліжам у Віцебскай губэрні (цяпер — Смаленская вобласьць Расеі), але і ён запісаны рускім. Гл.: История органов госбезопасности. Краткая биография руководителей // http://www.kgb.by/history/biography/ — Заўвага “БР”.

бо ніхто нам не паможа. Мы ўдзячны вам за вашую пасільную дапамогу. Я ведаю, што вы ўсе там ня вельмі багатыя. Мы ведаем, як цяжка вам было, як вы сумавалі па сваёй Бацькаўшчыне. Мы таксама ведаем, што вы як можаце дапамагаеце нам. За гэта мы ўдзячныя вам. Я думаю, што мы будзем самі станавіцца на ногі. Наш народ працаўнік. Ён зробіць усё. **І прыйдзе час, што мы ня будзем залежаць ні ад кога. Ні ад расейцаў, ні ад амэрыканцаў, ні ад французаў. Беларусь павінна быць самастойнай, і яна стане такой дзяржавай.** І яшчэ адно я Вам скажу. Ніколі ніякага павароту назад ня будзе. **Ніякай фэдэрацыі, ніякай канфэдэрацыі. Беларуская дзяржава будзе сувэрэннай дзяржавай.** І кола гісторыі назад ня пойдзе, як ты яго не круці. У гісторыі ёсьць аб’ектыўныя і суб’ектыўныя прычыны, якія трымаюцца ўва ўсіх умовах. Так вось, аб’ектыўна дэмакратычныя працэсы ня могуць быць прыпыненыя. Як у нашай дзяржаве, так і ва ўсім сьвеце. Пагэтаму можа яшчэ будзе палітычная барацьба, некаторыя выступленьні супраць дэмакратычнага разьвіцьця. **Але тое, што пачалося, ніхто астанавіць ня зможа. К таталітарызму няма ходу. Людзі не дадуць гэтага зрабіць.**

**Трыгубовіч**: Ці можна і мне задаць адно пытаньне? Нам, калі мы былі ў Нью-Ёрку на XX Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, вельмі шмат пытаньняў задавалі, на якія мы не маглі адказаць. **Пытньні былі ў дачыненьні да той кампаніі, якая паднялася ў прэсе на Бацькаўшчыне, якая ачарняе былых вайскоўцаў: Кушаля, Езавітава й іншых. Ці ведама вам што-небудзь пра гэта?** Ці не было гэта вашай нейкай праграмай?

**Шыркоўскі**: Мне нічога невядома, ніхто мяне не пытаўся. І, паверце, самому непрыемна, што я нічога ня ведаю аб гэтым, і нават не чытаў. **Скажу вам, што гэтая ўся пісаніна — камарыная мітусьня.** І я ня вельмі пільна за ёй сачу.

**Трыгубовіч**: Але людзі на эміграцыі маюць зьвесткі пра нашае жыцьцё фактычна толькі з прэсы. І калі яны чытаюць ў газэце партыі народнай згоды “Згода” нешта нядобрае пра Езавітава, яны разьлічваюць, што гэта ёсьць пазыцыя дзяржавы, гэта ёсьць пазыцыя вашага ведамства.

**Шыркоўскі**: **Мы па-другому глядзім на гэта цяпер.**

**Дзьмітрыеў**: Зараз доступ да нашых архіваў маюць вельмі многія вучоныя і іншыя асобы. Вось кожны з сваіх пазыцыяў і інфармуе.

**Шыркоўскі**: Мне прыйшлося многа працаваць, каб адбіць вялікую ўвагу да КДБ з боку ўсіх, хто ёсьць супраць прыезду Надсана. Некаторыя прама пыталіся: “Дайце дакумэнты, гэта ў вас, гэта КДБ”. Я слухаў, слухаў, цярпеў, а потым гавару: “Вы вядзіце палітычную барацьбу, ня путайце сюды БНФ, КДБ. **Няма ў мяне нічога на Надсана”.** Нават у друку прыйшлося мне сказаць. **“Пакіньце ў спакоі а. Надсана**, які

прыязджае і моліцца, КДБ гэтае не датычыцца”.

Таксама і вайскоўцы. Ужо будзе 50 гадоў, як няма вайны. Трэба думаць аб сёньняшнім дні. Аб’яднаць усё і ўсіх, кансалідацыя — вось што трэба. Я не кажу, што ня стаўлю востра пытаньня да тых, хто страляў, хто быў забойцам. Я ніколі ня буду на баку гэтых людзей. **Але трэба адносіцца па-другому адносна тых, хто служыў або працаваў пры немцах. Жыць было трэба.** А потым трэба ўлічваць яшчэ адно, якія былі адносіны да яго ў былым СССР. **Што ён павінен быў рабіць? У далоні пляскаць: “Вельмі добра, што вы бацьку ды ўсіх родных пасадзілі ў таварняк і павезьлі ў Караганду, у Сібір. Слава Сталіну!”.**

**Мерляк**: Немцы на 6 дзень занялі Менск і пачалі наводзіць свае парадкі. Дык што беларус меўся рабіць? Спаліць хату й ісьці пад кулямёт? Трэба было жыць, лавіраваць. Рабілі што маглі, каб спыніць жорсткія расправы нацыстаў над насельніцтвам. Становішча жудаснае, выжыць было цяжка. Трэба зразумець стан чалавека. І я ўдзячны за вашае выказваньне. І рады, што вы пачынаеце разумець той час правільна.

**Трыгубовіч**: Я была на канцэрце. Прыязджаў ансамбль з Польскай Рэспублікі. І ведаеце, яны на гэтым канцэрце актыўна ўключылі праграму пра сваіх акаўцаў. На поўным сур’ёзе. Гэта нацыянальныя героі.

**Шыркоўскі**: Я бы тут не пагадзіўся. **Я лічу, што акаўцы — Армія Краёва — не абаранялі беларускі народ. Я ведаю, як яны на Беласточчыне распраўляліся зь беларусамі, колькі яны выбілі сялянаў, дзяцей нашых нявінных.** І пагэтаму ў мяне адносіны да акаўцаў зусім другія.

**Мерляк**: Спадар міністр. Такія-ж былі і “нашыя”. Немцы ім давалі зброю, каб яны ваявалі супраць партызанаў і савецкае арміі. **Яны ж змагаліся супраць беларусаў, забівалі беларусаў-нацыяналістаў.** Калі яны самі не маглі справіцца, то даказвалі немцам, што гэта камуністы або сябры КПЗБ.

Яны пісалі сваю гісторыю і думалі, што гэтай акцыяй зьберагуць для сябе Заходнюю Беларусь. Мала таго, што ў выніку вайны атрымалі нашую Беласточчыну, яны хацелі дабрацца аж да былой польскай мяжы, а можа й далей. Я чытаў кніжку, у якой апісваюць зьдзекі над беларусамі. Друкавалі і не баяліся...

**Шыркоўскі**: Яны забівалі дзяцей, а як немцы пайшлі, то па лясох хадзілі. Не, гэта ня тое. Якія яшчэ ёсьць пытаньні?

**Мерляк**: Я хачу сказаць, што было вельмі прыемна пагутарыць з Вамі і можа ў прышласьці яшчэ спаткаемся. Вы казалі, што менскія дасьледчыкі маюць доступ да архіваў. **Але каб прыехаў з Амэрыкі адзін з нас і хацеў бы праглядзець архівы, ці можна было б гэта зрабіць?**

**Шыркоўскі**: **Калі ласка.** Архівы КДБ адкрытыя для ўсіх.

**Мерляк**: Шчыра дзякую. Я думаю, калі прыйдзе патрэба, мы выкарыстаем шанс.

**Шыркоўскі**: Для мяне й для нашай службы галоўнае, каб заўсёды быць на старане чалавека, а не супроць. І для нас важнае, каб беларус дзе б ён не пражываў: у Канадзе, ці ў Амэрыцы — калі ён прыйдзе да нас, то мы яго сустрэнем як і любога грамадзяніна нашай рэспублікі. Розьніцы няма. Калі мянчук прыйдзе да нас і гаворыць: “Пакажыце нам, што ў Вас ёсьць”, мы гаворым: “Глядзі”. Калі прыедзе хто з эміграцыі й зойдзе сюды, то на ўсе пытаньні дамо адказ. Ён мае такія ж правы, ён зямляк. Калі хочаце, ён пакрыўджаны чалавек, бо ён жыве на чужыне. І трэба, каб да яго былі лепшыя адносіны, чым яны былі раней.

*Перадрукоўваецца паводле наступнай публікацыі: “Архівы КДБ адкрытыя для ўсіх” // Полацак (ЗША), 1992, № 8 (18), б. 50-52.*

# АТРУТА СУПРАЦЬ “ЛЯСНЫХ БРАТОЎ”

“После войны яд применялся в борьбе с боевиками различных незаконных воинских формирований, выступавших против советской власти”.

*Валерий Надтачаев. Погоня за гауляйтером // Во славу Родины, 2011, 2 лістапада, № 209; http://vsr.mil.by/2011/11/02/pogonya-za-gaulyajterom/*

Ад рэдакцыі “БР”: Валерый Надтачаеў падказаў цікавую тэму, якая вартая асобнага дасьледаваньня. Летась намі друкаваўся дакумэнт з архіву Гарвардзкага унівэрсытэта — апытаньне былога беларускага партызана. Між іншым, ён распавядаў пра атручаныя мэдыкамэнты, якія ў 1945-1946 гг. савецкая дзяржбясьпека падкідала “лясным братам” у раёне Баранавічаў праз “чорны рынак”. Гл.: Беларускія нацыянальныя партызаны насілі спецыяльны сімвал на фуражках бел-чырвона-белага колеру // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 2(11), б. 115.

# СКАЎЦКАЯ ПАШТОЎКА З ПАРТЫЗАНСКІМІ МАТЫВАМІ

“Яшчэ адна даволі распаўсюджаная скаўцкая паштоўка з партызанскімі матывамі з Ватэнштэта. Каля 1947 г. Яе апісанне сустракаецца ў кнізе КГБ СССР як выдання беларускага падполля, якое вымалася (і яўна не ў адным асобніку) на тэрыторіі БССР, ПНР і нават Украіны”.

*Гардзіенка Н. Беларускія калядныя паштоўкі на Захадзе — фотападборка //2012, 24 сьнежня; http://nn.by/?c=ar&i=102360*

Цікава, што ў блогу Натальлі Гардзіенкі, дзе зьмешчаны падобны матэрыял, няма ніякай згадкі пра “кнігу КГБ СССР”. Гл.: Калядныя віншаванні з замежжа // 2012, 24 сьнежня; http://hardzin.livejournal.com/62697.html#cutid1

Як высьвятляецца, “дадатак” зрабіла рэдакцыя “НН” пасьля допісу аднаго з чытачоў.

# ПРА ВЯЧАСЛАВА СТАЎБУНІКА

У першым нумары "Беларускага Рэзыстансу" быў артыкул пра Кацярыну Стаўбунік з Пружаншчыны. Згадваўся ў ім і яе сын Вячаслаў, які памёр у Вільні ў 1938 годзе. Хачу дапоўніць крыху яго біяграфію зацемкай з часопіса "Шлях моладзі".

**"З беларускага жыцьця**

Памёр бел. студ. В. Стаўбунік. 29 красавіка сёл. у Вільні памёр прадчасна малады 19-цігадовы беларускі студэнт права і грамадзкіх навук віл. унівэрсытэту Вячэслаў Стаўбунік, з прычыны камплікацыяў у здарові пасьля моцнае прастуды. — Сьв. п. В. Ст. прыймаў чынны ўдзел ў бел. грам. жыцьці, прадчасная сьмерць яго навеяла сум сярод бел. студ. моладзі. — Вечная памяць!..".

*Шлях моладзі, 1938, 5 траўня, № 11(127), б. 6.*

*Даслаў* **К. М.**

# ЯШЧЭ АДНА ВЕРСІЯ ПРА ДЫВЭРСІЙНА-ТЭРАРЫСТЫЧНУЮ ГРУПУ ЮХНЕВІЧА

Толькі ў мінулым нумары "БР" быў надрукаваны мой ліст пра Юхневіча-Юхнова і падрыў вясной 1962-га будынку міліцыі ў Жыткавічах,* як знайшлася новая публікацыя на гэтую тэму. І новая "версія". На сайце МУС Беларусі ў сакавіку 2012-га быў зьмешчаны нарыс пра аднаго з кіраўнікоў міліцыі БССР (начальніка крымінальнага вышуку рэспублікі) у 1960-х Івана Папова.** Між іншым, там распавядаецца пра ўдзел Папова ў ліквідацыі групы Юхневіча. Праўда, версія вельмі дзіўная, відаць, скажоная ва ўспамінах вэтэрана міліцыі.

Нібыта, выйсьці на "Юхноўскага" (такі варыянт прозьвішча ў гэтай публікацыі) дапамог аператыўны супрацоўнік МУС, пасланы ў Жыткавічы. Далей падазронага пайшоў праверыць участковы міліцыянт, але той кінуўся з сякерай і быў застрэлены. Нібыта, пасьля пахаваньня Юхневіча ў хату ўчастковага нехта кінуў гранату. Пасьля гранату кінулі ў кабінет пракуратуры, які месьціўся ў адным будынку

з міліцыяй, “што выклікала пажар”. І толькі пасьля гэтага затрымалі “бандытаў”.

Дзіўна, што такі выклад, відавочнае перакручваньне падзеяў зьявілася на сайце МУС і, верагодна, у газэце “На страже”.

**Мікалай Шыбіцкі,**
Варшава

*Маецца на ўвазе наступная публікацыя: Шыбіцкі М. Зноў пра дывэрсійна-тэрарыстычную групу Юхневіча-Юхнова // Беларускі Рэзыстанс, 2012, № 1(12), б. 140-141. Раней пра Ўладзімера Юхневіча пісаў Васіль Сушко. Гл.: Сушко В. Дывэрсійна-тэрарыстычная група Юхневіча 1958-1962 гг. // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2 (7), б. 129-132. Яго публікацыя была зьдзейсьненая паводле наступных артыкулаў у афіцыйным друку: Аленченко Е. Террор районного масштаба // Гомельская праўда, 2007, 16 лістапада, № 179, http://gp.by/news_more/news5601.html ; Асташкевіч І. Сакрэтны план выкананы // Звязда, 2008, 23 сьнежня, № 242.
Паводле іх выходзіла, што ў 1930-х Юхневіч быў рэпрэсаваны савецкімі ўладамі, з высылкі ў Расеі вярнуўся ўжо пасьля вайны. Стварыў групу, пачаў тэрарызаваць мясцовых старшыняў калгасаў, міліцыянтаў: падпальвалі, стралялі і нават выкарыстоўвалі выбухоўку. Каб зьнішчыць матэрыялы расьследаваньняў, Юхневіч у ноч на 28 красавіка 1962 году арганізаваў падрыў будынка Жыткавіцкай міліцыі. Тады абышлося бяз ахвяраў. Юхневіча арыштавалі і прысудзілі да расстрэлу, яго памочнікаў — да розных тэрмінаў зьняволеньня.
М. Шыбіцкі ў мінулым нумары спасылаўся на публікацыю савецкіх часоў: Жогин Н., Суконцев А. Обвинение предъявлено. — Москва: “Молодая гвардия”, 1972; http://www.reliefracer.com/obvinenie_predyyavleno/
Зь яе выходзіла, што будынак жыткавіцкай міліцыі ўзарвалі ў ноч на 1 траўня, а Юхневіч, аказваецца, падчас нямецкай акупацыі супрацоўнічаў зь нямецкімі акупантамі, прычым меў іншае прозьвішча — Юхноў. Безумоўна, многія пытаньні магла б зьняць праца гісторыкаў з крымінальнай справай. Спадзяеся, што ў недалёкай будучыні ў іх будзе такая магчымасьць.
**Губский Н. Сибирская закалка // 2012, 2 сакавіка; http://www.mvd.gov.by/ru/main.aspx?guid=72513

# НАШЧАДКІ-РЭКАНСТРУКТАРЫ

У часопісе “*Милиция Беларуси*” (першы нумар за 2011 год, б. 31) пабачыў гэтае фота рэканструктараў уніформы НКВДыстаў. Эмоцыі проста перапаўнялі... [...]

Подпіс там такі (пераклаў на беларускую мову): “Супрацоўнікі Цэнтру культурна-выхаваўчай працы МУС Рэспублікі Беларусь рэканструявалі абмундзіраваньне афіцэраў НКВД, палявую форму лейтэнанта юстыцыі і лейтэнанта пяхоты ўзору 1943 году. Каштоўнасьць гэтых асобнікаў у тым, што пры іх аднаўленьні выкарыстаныя сапраўдныя фарнітура і элементы амуніцыі (гузікі, знакі адрозьненьня, пагоны,



партупеі, паясныя рамні, кабуры і г. д.) таго пэрыяду. Менавіта гэтая форменная вопратка перадае каларыт і атмасферу ваенных гадоў, калі прадстаўнікі ЦКВП удзельнічаюць у мерапрыемствах патрыятычнай скіраванасьці".

На здымку (зьлева направа): галоўны спэцыяліст Цэнтру маёр міліцыі Юрый Гуляка, дырэктар музэю ЦКВП МУС Ілона Сьцяпанава, мастацкая кіраўнічка Цэнтру старэйшы лейтэнант міліцыі Віялета Салодкая, начальнік Цэнтру маёр міліцыі Дзьмітрый Кіслы.

**М. Г.**

# ПРА БЕЛАРУСАЎ-"СПЭЦПАСЯЛЕНЦАЎ"

Па-ранейшаму беларускімі дасьледчыкамі ігнаруецца тэма паваенных дэпартацый насельніцтва БССР у Расею. Нашыя землякі звычайна траплялі на "спэцпасяленьне" (гэты тэрмін існаваў з 1944 году) — без суда і сьледзтва. Многія знаходзіліся на ўліку ў катэгорыі "кулакі" ("былыя кулакі") і "андэрсаўцы" (былыя вайскоўцы польскай арміі Андэрса, якія вярнуліся пасьля вайны на радзіму і былі дэпартаваныя).

Расейскі гісторык Алена Зьбяроўская піша: *“З дапамогай дэпартацыяў улада ня толькі нейтралізавала нядобранадзейны з маральна-палітычнай кропкі гледжаньня кантынгент, але “разраджала” сацыяльную напругу ў месцах высяленьня... З Заходніх Укріаіны і Беларусі, рэспублік Прыбалтыкі на спэцпасяленьне адпраўляліся сем’і тых, хто актыўна супрацьдзейнічаў устанаўленьню новай улады: асуджаных, забітых, нацыяналістаў і бандытаў, якія знаходзіліся на нелегальным становішчы, а таксама кулакоў”.**

На 1 студзеня 1953 году сярод 1 млн 810 тысяч дарослых спэцпасяленцаў быў 6621 беларус. Прычым, у гэтую лічбу ўваходзіў 4431 “кулак”, дэпартаваны з Заходняй Беларусі ў 1952 годзе.** Праз год сярод спэцпасяленцаў на ўліку стаялі 4583 “кулака” з заходніх абласьцей БССР. У дакумэнтах праходзяць таксама 4539 “андэрсаўцаў” (зразумела, што не ўсе яны былі дэпартаваныя зь Беларусі), 5189 чалавек высланых з заходніх абласьцей Беларусі і Ўкраіны ў 1940-1941 гг.***

Вядома, што на 1 студзеня 1957 году сярод 211 тысяч спэцпасяленцаў было 652 чалавекі, высланых у 1952 годзе з Заходняй Беларусі.****

Безумоўна, патрэбны і зборнік дакумэнтаў на гэтую тэму і зборнік успамінаў. Што да апошніх, дык жывых сьведкаў яшчэ можна пазнаходзіць. Успаміны пра дэпартацыі сустракаюцца ў пэрыёдыцы, нешта ёсьць і ў польскіх архівах.

**Барыс Самсонік**

---

* Зберовская Е. Спецпоселения в СССР в 1940-е – начале 1950-х гг. как способ решения социально-политических проблем (на материалах Красноярского края) // http://www.memorial.krsk.ru/Articles/2007Zberovska.htm

** Земсков В. Массовое освобождение спецпоселенцев и ссыльных (1954-1960 гг.) // Социологические исследования (Масква). 1991, № 1, б. 8.

*** Тамсама, б. 5.

**** Тамсама.

# СШЫТАК УЛАДЗІМЕРА ШУНДРЫКА

## БЫЛЫ СЯБРА СБМ ПІСАЎ “АПАВЯДАНЬНІ” Ў ЧАСЫ СТАЛІНШЧЫНЫ



***Уладзімер Шундрык. Слонім, сакавік 1944 г.***

У час самых жорсткіх сталінскіх рэпрэсіяў у Заходняй Беларусі, напрыканцы 1940-х гадоў, патрыятычныя вершы і “апавяданьні” пісаў слонімец Уладзімер Шундрык. І яму пашчасьціла пазьбегнуць “кіпцюроў ГПУ”.

З Уладзімерам Шундрыкам я пазнаёміўся ўвосень 1995 году. Для яго якраз пачыналіся няпростыя часы: ня ладзілася сямейнае жыцьцё, была амаль закінутая грамадзкая дзейнасьць (ён быў сакратаром слонімскага БНФ, а пасьля — шараговым сябрам), ужо ня кажучы пра краязнаўчую (Шундрык зьбіраў зьвесткі пра паэта Гальяша Леўчыка). Вельмі рэдка пісаліся вершы, зусім не было публікацыяў...

І вось у такой сытуацыі Шундрык пачаў піць. Аднойчы зімою 1996-га я з слонімскім паэтам і краязнаўцам Сяргеем Чыгрыном знайшлі яго сьпячым на падлозе ў халоднай хаце... Тады ўдалося яго падтрымаць і разам з наступіўшай вясной зьявілася надзея, што дзядзька Ўладзімер знойдзе сілы адрадзіцца духова і фізычна. Праз колькі месяцаў пасьля таго, падчас чарговай нашай сустрэчы ў ягонай хаце, ён мне прачытаў па памяці свой верш “Мы — вольная моладзь” (я запісаў яго на дыктафон), а пасьля прынёс сшытак з надпісам “Апавяданьні”. Гэта былі “творы з шуфляды”, што цудам захаваліся ў схованцы, дзе ляжалі на працягу дзесяцігодзьдзяў.

Пішу пра ўсё гэта не для таго, каб падкрэсьліць глыбіню падзеньня асобы, якая, фактычна, здалася перад ударамі лёсу. Насамрэч, ён ня здаўся, хутчэй, стаміўся ад бясконцых праблемаў, няўдачаў, здрадаў і расчараваньняў, якія перажываў усё сваё жыцьцё, якія пераадольваў...

Уладзімер Шундрык нарадзіўся ў 1929 годзе ў Слоніме. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў слонімскай прагімназіі, быў дружыновым Саюзу беларускай моладзі. Яшчэ да СБМ Уладзімер усьвядоміў сябе беларусам, бязьмежна пакахаў Бацькаўшчыну-Беларусь. А пасьля разам з сябрамі маршыраваў пад бела-чырвона-белым сьцягам па

слонімскіх вуліцах, сьпяваючы нацыянальныя песьні.

Менавіта тады Ўладзімер Шундрык пачаў пісаць вершы. Першы зь іх надрукаваў у "Баранавіцкай газэце". Вядомы паэт Сяргей Новік-Пяюн, які тады жыў у Слоніме і працаваў дырэктарам мясцовага краязнаўчага музэю, апекаваўся маладым паэтам, даваў яму беларускія кніжкі. У лісьце ад 12 лютага 1943 году Новік-Пяюн пісаў да Шундрыка: "Даражэнькі Уладзік!.. Як прыпомню Тваё апавяданьне "Аб нябожчыку", дык сьмяюся ад шчырага сэрца, бо вельмі яно вясёлае й мне вельмі падабаецца. Пішы больш, будзеш маладзец! Паэтам Ты будзеш напэўна! Толькі вучыся старанна й шмат чытай добрых кніжак".




***Сшытак з тэкстамі, напісанымі Ўладзімерам Шундрыкам у 1949 годзе.***

Летам 1944 году нямала СБМаўцаў, перад пагрозай савецкіх рэпрэсій, выехалі на Захад. Зьбіраўся паехаць і Ўладзімер, але застаўся — бацька зьняў з цягніка.* На яго вачах зьнікалі людзі, арыштаваныя НКВД, а сярод іх і Сяргей Новік-Пяюн. Шундрыка не арыштавалі, але цягалі на допыты, пасьля ён усё жыцьцё адчуваў увагу да сваёй асобы з боку дзяржбясьпекі, меў праблемы з уладкаваньнем на працу настаўніка...

У 1947 годзе Ўладзімер паехаў у Горадню, дзе паступіў у настаўніцкі інстытут, навучаўся беларускай мове і літаратуры. Хаваючыся ў пустых аўдыторыях, пісаў патрыятычныя вершы, якія чытаў некальком сябрам каля Каложскай царквы. Усе рукапісы Ўладзімер пазьней спаліў, а ў ягонай памяці застаўся толькі адзін верш. Захаваўся яшчэ сшытак з "апавяданьнямі", гэтымі шчырымі тэкстамі, якія Шундрык пісаў у 1949 годзе. Гэтыя яго аўтабіяграфічныя творы прасякнутыя бязьмежным патрыятызмам, любоўю да Бацькаўшчыны-Беларусі, настальгіяй па тых часах, калі дзейнічаў Саюз беларускай моладзі.

---

*Любіў сваю Бацькаўшчыну // Чыгрын С. Такі іх лёс: гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы. — Мінск: "Кнігазбор", 2012, б. 180.



***У аўдыторыі Гарадзенскага настаўніцкага інстытуту, 1949 г. Ул. Шундрык сядзіць на пярэднім пляне (сярод дзяўчат)***

Прапануем увазе чытачоў "БР" творы Ўладзімера Шундрыка, напісаныя ў жудасныя сталінскія часы. Яны, за выключэньнем верша "Мы — вольная моладзь", друкуюцца ўпершыню.* Самога аўтара ўжо няма ўжывых — ён памёр на Каляды 2002 году ў Слоніме.**

**Сяргей Ёрш**

***

*Уладзімер Шундрык*

# МЫ — ВОЛЬНАЯ МОЛАДЗЬ

Ніхто нас ніколі ня зможа прымусіць
Пакорна стагнаць пад маскоўскай пятой.
Мы — вольная моладзь, сыны Беларусі,
Усіх узьняла нас нянавісьць на бой.

*Верш быў зьмешчаны ў наступных публікацыях: Слонімшчына антысавецкая. — Слонім: Слонімскі самвыдат, 1999; Ёрш С. Праз 50 гадоў // Наша ніва, 1999, 6 верасьня, № 21.

**Ёрш С. Пісаў у шуфляду [нэкралёг] // Наша ніва, 2003, 28 лютага, № 8.

У грозных атаках крывіцкіх калёнаў,
За працаю дружнай, і ноччу, і днём,
Мы помнім заўсёды, што вораг шалёны
Імкнецца надзець Беларусі ярмо.

І крочачы ў першых радах на змаганьне,
У баях здабываючы вольнасьць і лёс,
Клянёмся адпомсьціць за крыўды і раны,
Што дзікі маскаль Беларусі нанёс.

Ні зьдзекам, ні кроўю злачынцы ня змогуць
Згасіць наш сьвяты і бязьлітасны гнеў.
Гарыць ён, пакуль бальшавіцкую погань
Дачыста са сьвету ўсю не сатрэм!

[канец 1940-х гг.]

# ЗВЯЗ

З радаснай усмешкай сонца з неба ўглядаецца на зямлю. Яно запаўняе сэрцы кожнага юнака і юначкі нейкім асабліва радасным замілаваннем да сваёй краіны. У такі час кожнаму нібы хочацца быць такім карысным для сваёй Бацькаўшчыны, як само сонца для зямлі.



Але незаўсёды гэтае сонца ў аднолькавай ступені можа цешыць сваёй сілай і веліччу, цеплынёй і радасцю ўсё жывое, якое імкнецца палепшыць свой лёс, сваё існаванне. Трэба гэту радасць прыроды перанесці і туды, дзе амаль цалкам не згасла жыццё ад недахопу вось гэткіх сённяшніх праменняў.

Дзесьці ў цэнтры горада рытмічна і мерна разносяцца магутныя крокі. Раптоўна, нібы са старажытнага кургана, паўставалі і згуртаваліся ў адзін звяз легендарныя асілкі, каб паказаць, што ўсё тое, што выклікана прыродай да жыцця, павінна жыць. Усе пачулі вокліч галоўнага кіраўніка гэтага звязу:

— Жыве Беларусь!

Нібы рэха грому раскаціста праляцелі палымяныя юнацкія словы ў адказ: Жыве! Жыве! Жыве! Гэтыя дарагія юнацкаму сэрцу словы, нібы выбух бомбы, глушыць ворагаў краю, юных змагароў, і разрываюць душу радасцю тым, хто жадае гэтай краіне толькі поспехаў. І як бы выкліканыя, каб адказаць на пытанне ўсяму акружаючаму для якой мэты ўзнік гэты звяз, прагучэлі словы роднай беларускай песні:

— Беларусь, Беларусь дарагая, за Цябе, за Цябе мы ідзём…

Па камандзе кіраўніка ўсе разбегліся ў рассыпную. Кастусь падышоў да сваіх сяброў, падняў выцягнутую руку на ўзроўні вачэй і толькі цяпер з ім прывітаўся:

— Жыве Беларусь!

— Жыве!

— Ці не ведаеш, сябра, аб чым сягоння будзе весьці гутарку з намі наш кіраўнік?

— Напэўна аб Кастусю Каліноўскім, — адказаў Віця.

— О, гэта вельмі цікава паслухаць. Я на днях прачытаў у часопісе “Новы шлях” артыкул пра Каліноўскага.

— А я чытаў кніжку “Кастусь Каліноўскі — змагар за незалежнасць Беларусі”. Там вельмі цікава апісана яго жыццё і дзейнасць, — адказаў Віця.

— А на мяне асабліва ўздзейнічала карціна, дзе Каліноўскі ў лесе агітуе беларусаў. Яна знаходзіцца ў музеі. Пра Каліноўскага мне многа расказваў дырэктар музея. Я з ім добра знаёмы. Пры Саветах ён сядзеў у турме, дзе хацелі з яго выбіць усю беларушчыну. Але ён гаворыць, што сумленныя людзі павінны трымацца толькі аднае дарогі. Калі ж хто з гэтае дарогі сыйдзе, дык жыццё таго чалавека ператворыцца ў нейкую пропасць, якая гэтак ці іначай прывядзе да гібелі і яго самога, і яго патомства.

Нечакана для гэтай групкі хлопцаў, якія захапіліся размовай між сабой, прасвістаў свісток правадніка. У адно імгненне ўсе яго акружылі, паселі на зялёнай траве пад старым дубам. Усё замерла. Чутно нават цвірканне свірчкоў у травяным дыване. У гэтакі час хочацца

пачуць словы свайго апякуна, свайго бацькі. І цяпер, нібы дзеці, абселі свайго мілага дзядзьку, каб паслухаць цікавыя казкі ад яго, сядзяць вучні Беларускае прагімназіі і слухаюць прамову свайго дырэктара. Але гэта зусім не прамова. Словы яго нібы праменні яснага сонца паглынаюцца юнымі сэрцамі маладых патрыётаў Бацькаўшчыны. Перад табою з нечуванай хуткасцю праносяцца малюнкі слаўнага мінулага Беларускага народа. А гаворыць гэта нібы не сам праваднік, а гэты векавы дзядуля-дуб. І кожны шэлест ліста гэтага дзядулі ўлівае ў цела кожнага сваю сілу, свой векавы вопыт змагання з ворагамі яго жыцця і жыцця яго маленькіх дзетак. Глыбока, глыбока западаюць гэтыя словы ў юнацкія сэрцы. Іх ужо ніхто не зможа вырваць адтуль. Яны, нібы дар, вечна будуць перадавацца з пакалення ў пакаленне сумленных беларусаў, так як перадаюцца і народныя казкі, легенды і песні. Гэтыя словы не сціхнуць, а з года ў год будуць мацнець і набіраць сілу раскацістага грому, які многіх адшчапенцаў, ворагаў прымусіць прызнаць сваю пошлую дзейнасць супроць неўміручага беларускага народа.

І вось гэтыя словы ўжо сказаны. Гэтак сама сядзяць юнакі, толькі сэрца ў кожнага б’ецца значна мацней. Хочацца ўраз знішчыць усіх ворагаў. Але і гэтыя думкі раптам сціхаюць, нібы зліваюцца са словамі песні Максіма Багдановіча “Пагоня”, якую падхапіла гэтая дружына:

“Беце, беце іх сэрца мячамі,
Не давайце чужынцамі быць.
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Па радзімай старонцы баліць!
… Старадаўняй кр[ывіцкай] Пагоні
Не разбіць, не спын[іць], не стрымаць”.

Зноў усе ў шарэнгах. Над іх галовамі ў свежым паветры палошчацца бел-чырвона-белы сцяг. Зноў чутны гоман родных песень. Кожны нібы падрос за гэты час і гэты рост так выразна цяпер адчуваецца. А сонца ўсё ж стала нібы значна весялейшым і цяплейшым для кожнага з гэтай дружыны. Здалёку даносяцца словы поўныя сілы і адвагі:
— Жыве! Жыве! Жыве!

[1949 г.]

*****

# [ВАЖНАЕ ПЫТАННЕ]

4.XII.1949.

Усё мацней і мацней ружавее на захадзе неба. Асабліва звяртаюць увагу на сябе пазалочаныя сонечнымі праменнямі беражкі хмарак. Выразна вырысоўваюцца коміны і стрэхі гарадскіх дамоў. Углядаешся на ўсё гэта і здаецца, што перад табою прамільгаюць цветныя карціны



Па камандзе кіраўніка
усе разбегліся ў рассыпную.
Костусь падчакаў [illegible] свайго
сябра ~~таварыша~~, падняў ~~руку~~
выцягнутую руку на ўзровень
вачэй і толькі цяпер з ім
прывітаўся.
— Жыве Беларусь!
— Жыве!
— Ці не ведаеш аб чым
сёньня будзе весьці гу-
тарку з намі наш кіраў-
нік? — ~~спытаў~~
— Гутарка аб Кастусю
Каліноўскім — адказаў
Віця.
— О, гэта вельмі цікава
паслухаць. Я на днях прачытаў
у часопісе „Новы шлях" арты-
[illegible]

ў кіно. Колькі красак і розных аздоб дорыць прырода нашай роднай Краіне! За ўсё гэта, здаецца, аддаў бы ўсё, усё на свеце, абы толькі вечна бачыць перад сабою вось гэткія малюнкі жывое прыроды.

Доўгія цені ад ліп і дубоў усё растуць і растуць з кожнай хвілінай. Гэткія-ж цені адбіліся на зямлі і ад нібы скамянеўшага звязу юнакоў. Нейкае важнае пытанне рашаецца між гэтымі хлапцамі Саюза Беларускай Моладзі. Перад моладзю стаіць праваднік у шарсцяным касцюме сіняга колеру. На рукаве левай рукі ў яго пераліваюцца белая, чырвоная і белая палоскі павязкі. Усе выразна чуюць яго задушэўныя словы:

*Сяргей Новік-Пяюн, слонімскі паэт, у 1941—1943 гг. быў дырэктарам мясцовага краязнаўчага музэю.

— Сябры! Нашая арганізацыя з кожным днём папаўняецца ўсё новымі і новымі юнакамі і юначкамі. Аднаму мне працаваць з вамі вельмі цяжка. Як вы ўжо ведаеце, у Альб[ерціне] адкрыўся спецыяльны лагер, які будзе рыхтаваць дружыновых. Туды з'яжджаецца беларуская моладзь з Мінска, Баранавіч, Наваградка і наогул з усёй нашай Краіны. Жадана было бы, каб і з нашай арганізацыі нашліся ахвотнікі пабыць у гэтым лагеры. Юнакі, жадаючыя прайсці там курсы, павінны цяпер добравольна выказаць сваё жаданне падняццем рукі. Прашу, сябры!

Але перш, чым асмеліцца ступіць гэты крок, вы павінны цвёрда і дэталёва прадумаць аб тым, ці зможаце выконваць усе тыя загады, якія будуць вам паручацца нашым кіраўніцтвам арганізацыі. Пачэсная праца чакае тых юнакоў, якія згодзяцца сягоння быць дружыновымі.

Рады юнакоў у зялёных мундырах нібы закамянелі. Гледзячы на іх здалёк, можна падумаць, што гэта ўсё адбіта на малюнку. Кожны паасобку абдумвае свой далейшы лёс. Раптоўна над звязам пачалі ўзнімацца ў гару рукі. У лесе гэтых рук цяжка было заўважыць маю маленькую руку, якая ўжо даўно ўзнялася над звязам. Праваднік хутка запісвае маладых дабравольцаў. На твары ў іх не цяжка заўважыць асаблівы юнацкі задор. Іх чакае паў месяца часу, на працягу якога яны зробяцца самыя кіраўнікамі моладзі. Але гэты час патрабуе ад кожнага не мала волі, энергіі і цярпення, каб прайсці такую школу.

На гэтым і было дазволена ўсім юнакам разыйсціся. Запісаўшыяся хлапцы акружылі свайго "бацьку" і наперабой задавалі яму пытанні аб лагеры і рабоце ў ім. Там іх на складах ужо чакалі новыя мундзіры, прывезеныя з Нямеччыны.

На захадзе відны толькі беражок заходзячага сонца. Яго праменні ўжо не сцелюцца па зямлі, а губляюць свае канцы недзе ў бясконцай далі неба. Усё як быццам збіраецца сустрэць надыходзячую чэрвеньскую ноч. Толькі юнакі яшчэ ўсё ходзяць групкамі і заўзята размаўляюць аб цікавым жыцці ў лагеры, якое пачнецца з заўтрашняга дня.

*****

# ["ХАЙ УЗМАЦНЯЮЦЦА РАДЫ БАРАЦЬБІТОЎ ЗА БЕЛАРУСЬ"]

— Добры дзень, Сяргей Міх[айлавіч]!*

— Добры дзень, Уладзік!

І ў момант рука Уладзіка апынулася ў шчырых цісках абоіх рук дзіцячага пісьменніка "Маладога Дзядка".

— А я ўжо на цябе нават разлаваўся, што ты гэдык доўга не прыходзіў наведаць мяне, — з мінаю штучна захаванай злосці на твары пачаў гутарку Сяргей Міх[айлавіч]. — У мяне на століку адложаныя для цябе беларускія кніжкі ўжо з цэбар слёзаў пралілі, што ты іх так доўга прымушаеш ляжаць у мяне. Ну ідзі, ідзі хутчэй, віноўнік, і выкладзі перад імі віну, бо ў іншым выпадку яны з цябе як мурашкі льва атакуюць і... праглынуць. Вось што я думаю, а ты?

— А ў мяне з імі ёсць асобая мова, якую яны як толькі пачуюць з маіх вуснаў, дык адразу выбачаць нават самую страшную віну чалавека. А вы, Сярг[ей] Міх[айлавіч], напэўна, яшчэ не авалодалі такой мовай? Ды куды ж вам, Дзядку, да мяне. Гэтая мова, нібы дар, прыносіцца асобным хлапцам за тое, што яны з самага маленства зліліся з матухнай прыродай і праз усё сваё жыццё авалодваюць яе тайнамі, яе прошлым і будучым.

Вось у чым справа, Сяр[гей] Міх[айлавіч], — сказаў Уладзік тонам мужчыны, якім размаўляюць як роўны з роўным. І з боку на гэты малюнак паглядзеўшы, сапраўды, можна было падумаць, што гэта асобага роду сябры. Невядома, што ён яшчэ гаварыў бы, але цела гэтага хлапчука аказалася ў руках С[яргея] М[іхайлавіча], якія высока паднялі сваю ахвяру над галавой. Гэдык ён яго паднёс да самых дзвярэй музея.

— Ну вось, Уладзік, сядайце, калі ласка, пасядзіце ў мяне крыху, а то вы з дарогі і хіба ўпарыліся — з іранічным адценнем ў голасе выпаліў у адзін залп мой “Дзядок”. — Але выбачце, у мяне тут вельмі холадна, бо як ведаеце, сонца ў маё вакно амаль зусім не заглядае, а муры гэтыя вельмі ж ахаладжаюць паветра ў пакоі.

— Нічога, нічога, Сяргей Міх[айлавіч], не клапаціцеся вельмі аб сваім кампаньёне, ён прывык ужо да ўсякае тэмпературы. Калі холадна, ён паставіць каўнер і завяжа навушнікі, калі горача — ён будзе хадзіць у адной толькі рубашцы. Моцная натура ў яго.

— Ну добра, добра, маё золатка! Бліжэй справы, а то мы гэтак прагутарым да самага вечару. А мне ёсць вельмі многае табе расказаць. Але пакуль ты пасядзі тут сам, а каб не было сумна, дак паглядзі апошнія нумары часопісу “Новы шлях” і “Бел[арускі] Кал[яндар]”, а я прынясу табе зараз кніжкі. Добра?

---

*Падрабязна пра сястру С. Новіка-Пяюна Кацярыну Новік (Пышко) і вышытую ёй “Слонімскую Пагоню” гл. у мінулым нумары “БР”: Ёрш С. Пра “Слонімскую Пагоню” і сьцягі слуцкіх паўстанцаў // Беларускі Рэзыстанс, 2012, № 1 (12), б. 55-58.

**Язэп Стаброўскі, палкоўнік расейскай царскай арміі, навуковец, археоляг, краязнаўца. Заснаваў у Слоніме краязнаўчы музэй, які ў цяперашні час носіць яго імя. Падчас нямецкай акупацыі быў намесьнікам дырэктара музэю С. Новіка-Пяюна.

— Вельмі добра. Час мне прабяжыць як у казцы, бо я яшчэ не бачыў гэтых часопісаў і “Беларускага календара”. Я вам дазваляю заняцца тымі справамі — падкрэслена сказаў Уладзік — выкананне якіх вы лічыце сваім святым абавязкам.

— Так, так, пачакайце крыху, Уладзімір Ів[анавіч], — гэтакім жа тонам адк[азаў] Пяюн і, адкрыўшы дзверы, нырнуў у плынь розных гістарычных і розных кніг архіва, які знаходзіўся побач з гэтым пакоікам, дзе я пачаў праглядаць часопісы.

У пакоіку і сапраўды праз хвіліну я адчуў незвычайны холад і ў мыслі цюкнула раптам, як гэта С[яргей] М[іхайлавіч] тут праводзіць цэлыя суткі, але гэтая думка была ўміг паглынутая цікавымі артыкуламі і вершамі, змешчанымі ў “Беларускім Календары”. Кожны радок верша і артыкула вызываў часцейшае біццё сэрца ў маладых юнацкіх грудзях і прымушаў аб нечым хвалявацца.

На сцяне пакойчыка вісеў старанна вышыты каляровымі ніткамі герб Беларусі. Яго вышывала яшчэ пры паляках сястра С[яргея] М[іхайлавіча], калі ён сядзеў у сырым падвале цюрмы. У той час, калі Новік праз зоркі перадаваў паклон і ёй, і ўсім сваім родным і дарагім сябрам (уставіць верш “На выгнанні”. — **Так у тэксьце — С. Ё**.). У той час яна з вялікім майстэрствам і талентам рабіла такую адказную працу, марачы пры гэтым аб шчаслівым будучым свайго Беларускага народа, сімвалам якога з’яўляецца Крывіцкая Пагоня.*

На процілеглай сценцы вісеў партрэт К. Кал[іноўскага], які намаляваў мастак з в[ёскі] Рыш[чыцы] Карніцкі. На паліцы стаялі ў шарэнгах, нібы салдаты ў страі, розныя кнігі Віленскага выдання, якія паэт прыдбаў будучы ў Вільні. Тут былі часопісы “Заранка”, “Калоссе”, “Іскрачка”, кнігі “Арлянё”, “Chіаріес”, “Беларусь сяньня й учора”, “Геаграфія Беларусі” і многія другія.

— Ну як, жэўжык, я казаў, што змерзнеш. А-я-яй, дык ты аж пасінеў. Вось дык навіна. А ну ўставай, займемся з табою боксам.

І між С[яргеем] М[іхайлавічам] і мною пачалася бойка ў бокс, пасля якой я аж пачырванеў з твару.

— А ўсё ж я вам лоўка заехаў пад бараду, ну прызнайцеся, ці не праўда, га? — пытаюся ў яго я, цяжка дыхаючы ад такой фіззарадкі.

— Ну, я не знаў, што ты такі асілак, а так бы я расказваў бы сваім наведвальнікам музея пра такую сілішчу, — з усмешкай вымавіў Новік. Ну вось гэтыя кнігі ты сабе і прачытаеш. Але гэта яшчэ не ўсё. Ты, напэўна, за гэты час напісаў многа вершаў. Я рады вас цяпер паслухаць.

— Спадар Стаброўскі**, калі ласка на мінутку. Перад вамі ў натуральнай велічыні беларускі паэт Ул. Зорка прачытае свой твор, прасякнуты любоўю да цудоўнай прыроды свайго Краю.

— Калі ласка, пачынайце! — сказаў С[таброўскі], і абое яны пахлопалі ў рукі. Паліліся радкі майго верша:

Эх, цікава выйсці з хаты

Паглядзець, як месяц ззяе
Як марозка барадаты
Узор на вокны накладае
і г. д.

— О, дык я дарэмна тут з табою гэтак жартаваў. Я сапраўды маю гонар мець дачыненне з бел[арускім] паэтам. Ці не праўда, Язэп?

— Моцна, моцна. Вельмі добра, ні да чаго не прыцэпішся ў вершы. Вітаю Ул[адзіміра] Ів[анавіча] з поспехамі ў паэзіі. Ад вас мы надзеемся многае ўбачыць, — традыцыйна прамовіў Ст[аброўскі].

— Ведаеце што, сп. Стабр[оўскі], я гэты верш яго пашлю ў рэдакцыю “Баран[авіцкай] газэты”. Ён будзе змешчан на літэратурнай старонцы пачынаючых паэтаў. Уступны артыкул аб гэтых пачынаючых я напішу сам, — ск[азаў] Нов[ік].

— Вы згодны з маёй ініцыятывай, — зв[ярнуўся] ён да мяне.

— Не, я рашыў пакуль што нідзе не друкавацца, — к здзіўленню ўсіх адрэзаў Уладзік. Я не жадаю, каб мае вершы чыталіся праклятымі немцамі. Я цвёрда веру, што прыдзе той час, калі на нашай зямлі Беларускай не застанецца ніводнага захопніка. Калі Уладарам Краіны стане свой Мужык-беларус. Тады толькі я буду цешыць свой народ поспехамі сваімі ў творчасці і толькі тады мае вершы прынясуць карысць маёй Бацькаўшчыне. А пакуль што няхай расце ўсё вышэй і вышэй сцяна з каменняў, якімі кідаюць у нас ворагі нашыя. Кожны гэты камень спрыяе росту гэтай сцяны цярпення. А каго яна пад сабой пахавае — убачым! — выпаліў з задорам малады паэт.

— Нельга, Уладзік, так разважаць. Нельга нам сядзець злажыўшы рукі і чагосьці чакаць. Неабходна кожную хвіліну свайго жыцця скарыстаць так, каб яна ва ўсякіх умовах, нават і ў нашых, магла прынесці карысць нашаму Народу і Краіне. Нельга быць назіральнікам адбываючыхся ў свеце падзей. Трэба сваёй дзейнасцю падпарадкоўваць час нашай мэце. Не час кіруе чалавекам, а чалавек часам — гэта ты запомні сабе назаўсёды, мой галубок!

— Сяр[гей] Міх[айлавіч], я нарэшце аб усім гэтым падумаю. З вашай думкай я згодзен. Аб гэтым я пагутару са сваім сябрам.

— Правільна, малайчына, Уладзік. Нічога не рабі не абдумаўшы. Кожны жыццёвы свой крок ты павінен дэталёва абдумаць і ўзважыць. Гэткім людзям лягчэй жывецца на свеце. Я вось і пытаў у цябе, ці ты згодзен зрабіць гэты свой жыццёвы крок. Я так і думаў, што та мне адразу не адкажаш на маё пытанне. Мне вельмі падабаецца, што ты ў такім узросце ўжо пачынаеш самастойна рэагіраваць на ўсё акружаючае. А тое, што ты сказаў аб захопніках, гэта шчырая праўда. Гэтак думаеш не толькі ты, але і ўсе шчырыя беларусы. Гэтак думаю і я, калі хочаш ведаць, мой жэўжык. Дай мне сваю руку ў сімвал таго, што мы пойдзем з табой аднолькавым шляхам па дасягненню сваёй мэты.

Мы моцна пацiснулі адзін другому рукі і пацалаваліся. У мяне выступілі на вачах слёзы. Гэтыя слёзы былі выкліканы тымі ранамі,

Слонім,
12.II.1943 г.
Пятніца.

Даражэнькі Уладзік!

Я вельмі шкадую, што Ты ўжо два разы прыходзіў да мяне й не застаў. Пасылаю Табе наступныя кніжкі да чытаньня: 1) „Arlanio", 2) „Z rodnaha zahonu" — A. Ziaziuli, 3) „Chłapiec" — Н. Адвачанка, 4) „Лясная Газэта" — В. Біанкі, 5) Bajki Bratoŭ Grimm. — Таксама далучаю сшыток, які Табе напэўна прыдасца. — Кнігу „Nędznicy" — W. Hugo, будзь ласкаў, перадай Марусеньцы, бо я абяцаў прысылаць да чытаньня.

Што ў Цябе новага? Ці напісаў яшчэ што-небудзь? Як здароўе Мамачкі? Ці была гэтымі днямі ў дому Валя?—

Спадзяюся, што пасланыя Табе кніжкі Табе спадабаюцца. — Наступным разам дам Табе кнігу Янкі Купалы, аб якой Ты мяне пытаў — „Шляхам жыцьця". Яна ўжо апраўлена

у чырвонае палатно й вельмі
хораша выглядае.—
Як прыпомню Тваё апавяданьне
„Аб нябожчыку", дык сьмяюся ад
шчырага сэрца, бо вельмі яно
вясёлае й мне вельмі падабаецца.
Пішы больш, будзеш маладзец!
Паэтам Ты будзеш напэўна!
Толькі вучыся старанна й шмат
чытай добрых кніжак. Абы толькі
ў Цябе была ахвота — кніжкі будуць,
я Табе заўсёды іх дам і дапамагу, як
толькі магу.—
Я трохі застудзіўся й нікуды не выходжу,
бачыш і пішу дрэнна, бо ляжачы ў ложку.
Кніжкі Табе перададуць без мяне. Як
прачытаеш, ізноў Табе дам новы.—
Прашу перадаць ад мяне прывітаньне:
Мамачцы (няхай Яна хутка выздараўлівае),
Тацця, Марусеньцы й Васі.—
Бывай! да пабачаньня! Жадаю Табе
посьпехаў у навуцы і ў пісаньні
вершыкаў і апавяданьнеў.—
З шчырым прывітаньнем

С. Вок.—

якія штодзень атрымоўвала радзіма ад сваіх ворагаў. Але каб не было такіх, як Новік і др., Краіне гэтыя раны былі бы ў значнай меры цяжэй перажываць, чым з імі. Яны сваёй дзейнасцю і творчасцю загойваюць нанесеныя ворагам раны. Яны разам з сваёй краінай пераносяць здзекі і пакуты, якія чыняць нам папы, ксяндзы, маскалі, палякі і немцы. Яны прыбліжаюць з кожным новым днём светлы ўсход сонца, якое рассыпле і па нашай Бацькаўшчыне залатыя праменні незалежнасці!

— Добра, ты праз тры дні прыдзеш да мяне і скажаш сваё рашэнне наконт маёй ініцыятывы. Вершы твае мне вельмі спадабаліся. Пішы часцей. Хай узмацняюцца рады барацьбітоў за Беларусь. Хай мацнее моц нашага народа. А гэта ўсё магчыма толькі тады, калі мы з табой ды яшчэ многія падобныя нам будуць вось гэтак думаць аб жыцці, як думаю я і ты. Мы народжаны на свет для таго, каб рухаць яго напе-рад і палепшыць. У гэтым закл[ючаны] і сэнс лепшых людзей. Гэтым і вызначаюцца з мільённага чалавецтва геніі і слаўныя барацьбіты.

Ужо наступаў час абеду. Пара была закрываць музей. Праз не-калькі часу праз гарадскі парк між белага бліскучага снегу прайшлі двох людзей. Гэта быў Новік і яго "сябра па пяру" Ул. Зорка. На іх адзенне нарастала ўсё больш пуховага снегу. Нейк па-казачнаму пачаў скрыпець снег пад нагамі.

— Ну, Уладзік, бывай. да пабачэння. Часцей заглядай. Па-па-па, — пачуў Уладзік адыходзячы ў супрацьлеглую вуліцу. Пад рукой у яго быў вялікі пачак кніг, завернуты ў свежакупленую газету. А снег усё ішоў і ішоў. Разам са снегам, лажыўшымся на пуховую пярыну, якою пакрыта ўся Краіна, плаўна прамільгалі разнастайныя думкі аб усім, што толькі магло яго хлапечы розум зацікавіць.

[канец 1949-га?]

# ЛІСТ СЯРГЕЯ НОВІКА-ПЯЮНА ДА ЎЛАДЗІМЕРА ШУНДРЫКА

"Слонім,
12.II.1943 г.
Пятніца.

Даражэнькі Уладзік!

Я вельмі шкадую, што Ты ўжо два разы прыйходзіў да мяне й не застаў. Пасылаю Табе наступныя кніжкі да чытаньня: 1) "Arlanio", 2) "Z rodnaha zagonu" — A. Ziaziuli, 3) "Chłapiec" — W. Adważnaha, 4) "Лясная Газэта" — В. Біянкі, 5) Bajki Bratou Grimm. — Таксама далу-

чаю сшыток, які Табе напэўна прыдасцца. — Кнігу “Nędznicy” — W. Hugo, будзь ласкаў, перадай Марусеньцы, бо я абяцаў прыслаць да чытаньня.

Што ў Цябе новага? Ці напісаў яшчэ што-небудзь? Як здароўе мамачкі? Ці была гэтымі днямі ўдому Валя?

Спадзяюся, што пасланыя Табе кніжкі Табе спадабаюцца. Наступным разам дам Табе кнігу Янкі Купалы, аб якой Ты мяне пытаў — “Шляхам жыцьця”. Яна ўжо апраўлена ў чырвонае палатно й вельмі хораша выглядае.

Як прыпомню Тваё апавяданьне “Аб нябожчыку”, дык сьмяюся ад шчырага сэрца, бо вельмі яно вясёлае й мне вельмі падабаецца. Пішы больш, будзеш маладзец! Паэтам Ты будзеш напэўна! Толькі вучыся старанна і шмат чытай добрых кніжак. Абы толькі ў Цябе была ахвота — кніжкі будуць, я Табе заўсёды іх дам і дапамагу, як толькі магу.

Я трохі застудзіўся й нікуды ня выходжу, бачыш і пішу дрэнна, бо лежачы ў ложку. Кніжкі Табе перададуць без мяне. Як прачытаеш, ізноў Табе дам новыя.

Прашу перадаць ад мяне прывітаньне Мамачцы (няхай Яна хутка выздараўлівае), Папе, Марусеньцы й Вам.

Бывай! Да пабачаньня! Жадаю Табе посьпехаў у навуцы і ў пісаньні вершыкаў і апавяданьняў.

З шчырым прывітаньнем
С. Новік”.

*Ад 2011 году рукапісы захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.*

# АКЦЫЯ Ў ПАМЯЦЬ ПРА ЯНКУ ФІЛІСТОВІЧА

У верасьні ў цэнтральным парку польскай сталіцы ініцыятыва “Беларуская Нацыянальная Памяць” нагадала пра беларускага дэсантніка з-за “жалезнай заслоны”.



Прысутным ня толькі распавялі пра жыцьцё й дзейнасьць Янкі Філістовіча (1926 — 1954?), але і арганізавалі паказ фільма пра антысавецкі супраціў у Беларусі. Як паведамляе Еўрарадыё, напрыканцы акцыі ўдзельнікі запалілі паходні і выгукнулі “Жыве Беларусь!”.

У гэтым нумары “БР” у рубрыцы “Публіцыстыка” зьмешчаны артыкул Янкі Філістовіча “Вялікі дзень”.

# У ДЗІВІН ХАЦЕЛІ ПРЫВЕЗЦІ ШЫЛЬДУ “БАНДЭРАЎСКАЙ” УПА

У кастрычніку стала вядома, што адзін з дэпутатаў Львоўскай абласной рады зьвяртаўся да кіраўніка Беларусі — прасіў дазволіць усталяваць у Дзівіне на Кобрыншчыне мэмарыяльную шыльду УПА. Тлумачыў, што восеньню 1942-га менавіта ў тых ваколіцах Сяргей Качынскі арганізаваў першы партызанскі аддзел. Адказ прыйшоў яму

з Берасьцейскага аблвыканкаму: адмовілі.

Адзначым, што Качынскі і яго паплечнікі запачаткавалі “бандэраўскую” ЎПА. Аднак яшчэ ад пачатку 1942-га на Палесьсі і Валыні дзеяла ЎПА “бульбаўская” — атамана Тараса Бульбы-Бараўца. Пра яе львоўскі дэпутат прадказальна змаўчаў.

Газэта “Народная воля” з гэтай нагоды правяла цікавае апытаньне “Ці заслугоўваюць помніка тыя, хто змагаўся супраць савецкай улады?”.*

Пазьней на Радыё Свабода зьявіўся дзіўнаваты матэрыял Зьмітра Бартосіка “А бульбашы хацелі заваяваць Украіну!”.** Ён зьездзіў у мястэчка Дзівін і пагаварыў з мясцовымі жыхарамі. У матэрыяле, дарэчы, не падзяляюцца “бульбаўцы”/”бульбашы” і “бандэраўцы” — вельмі “прафэсійна”. А адзін з камэнтатараў-вар’ятаў не прамінуў заўважыць: “Вельмі цікавы матэрыял. Па-першае, ён падтвярджае, што ніякіх беларускіх партызан на Палессе, а можа і ва ўсей Беларусі не было”.

*Народная воля, 2012, 31 кастрычніка; http://nv-online.info/
**Радыё Свабода, 2012, 12 сьнежня; http://www.svaboda.org/content/transcript/24804579.html

## “СЬПІЦЕ СПАКОЙНА, ГЕРОІ-ЗМАГАРЫ”



westki.info

7 лістапада сябры вялейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры ўсталявалі новы крыж на брацкай магіле паўстанцаў 1863 году каля вёскі Уладыкі. Там пахаваныя каля 100 змагароў, якія загінулі ў няроўным баю з расейскімі войскамі.

Ранейшы крыж усталёўвалі на пачатку 1990-х скаўты з Маладзечна і вучні мясцовай школы. Паколькі ён ужо спарахнеў, было вырашана паставіць новы крыж-помнік у гонар

паўстанцаў. Яго асьвяціў ксёндз, было зладжанае набажэнства.

Сайт westki.info піша: “Сьпіце спакойна, героі-змагары. Бацькаўшчына помніць аб вас!”.

## СУМНЫЯ ПАДЗЕІ З ЧАСОПІСАМ “АРХЭ”

Восеньню 2012-га ў Менску спыніўся выхад часопіса “Архэ”. Здарылася гэта пасьля прэзентацыі ў Горадні кнігі гісторыка Яна Шумскага пра паваенную Заходнюю Беларусь (дарэчы, цікавае дасьледаваньне, якое, на наш погляд, псуюць розныя недарэчнасьці, напісаныя аўтарам пра беларускі Супраціў).*

Галоўнага рэдактара часопіса Валерку Булгакава падаткавікі злавілі на продажу друкаванай прадукцыі без адпаведных дакумэнтаў. Пасьля быў штраф, канфіскацыя тысяч кніг і часопісаў, справа, выезд Валеркі за мяжу, звальненьне яго з пасады галоўнага рэдактара. Часопіс цяпер спрабуюць перарэгістраваць.

*Шумскі Ян. Саветызацыя Заходняй Беларусі (1944-1953 гг.). Прапаганда і індактрынацыя на службе ідэалогіі. — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2012.

## У ЛЕТУВЕ ПРАПАНУЮЦЬ НАДАЦЬ СТАТУС ВЕТЭРАНАЎ ПАРТЫЗАНАМ І ПАЎСТАНЦАМ

З такой ініцыятывай зьбіраецца выступіць камандуючы летувіскай арміяй, генэрал-лейтэнант **Арвідас Поцюс.** Ён прапануе ўзаконіць статус ветэрана, які маглі б атрымаць удзельнікі баёў за свабоду і ўдзельнікаў міжнародных аперацый.

Як піша “Наша ніва”, “ён мяркуе, што статус ветэрана маглі б атрымаць ўдзельнікі паўстання 1941-га супраць савецкіх акупантаў, пасляваенныя партызаны, якія баранілі незалежнасць Літвы ў 1990-1991 гг., літоўскія добраахвотнікі і ваенныя, якія ўдзельнічалі ў міжнародных аперацыях”.*

Безумоўна, дарма летувіскі генэрал зьмяшаў тут пытаньне паваенных антысавецкіх партызанаў і ўдзельнікаў чэрвеньскага антысавецкага паўстаньня. Як вядома, летувіскія паўстанцы ў чэрвені-ліпені 1941-га ня толькі змагаліся з чырвонаармейцамі і НКВДыстамі, на іх

руках кроў габрэяў, якіх яны вынішчалі самастойна, ня маючы ніякіх загадаў нацыстаў.

*Камандарм Літвы прапануе ўзаконіць статус ветэрана паўстання 1941 г., удзельнікаў паваеннага супраціву // Наша ніва, 2012, 19 лістапада; http://nn.by/?c=ar&i=83844

# ПРА “ЛЯСНЫХ БРАТОЎ”

У пачатку сьнежня 2012 году сайт “*Историческая правда*” перадрукаваў стары артыкул архівіста Васіля Матаха “*Лесные братья*” (яго ў 2006-м публікавала “*Белгазета*”). Артыкул, безумоўна, цікавы. Толькі шкада, што правак у ім не было зроблена. Зноў там можна прачытаць такія радкі:

*“В марте 1948 г. отряды БОА взяли штурмом Новогрудок, перебили всех сотрудников МГБ, солдат местного гарнизона и работников администрации, освободили заключенных и захватили много оружия. Осенью 1948 г. отряды “Черного кота” совместно с УПА захватили Кобрин, в марте 1949 г. — Гайновку”.*



istpravda.ru

Колькі ўжо мы пісалі пра недакладнасьць гэтай інфармацыі і пра тое, што ня варта яе ў такім выглядзе паўтараць, але яе ўсё роўна тыражуюць. Проста падарунак розным “крытыкам”. Ёсьць у гэтым артыкуле і іншыя недарэчнасьці (напрыклад, пра расстрэл Родзькі). Затое, у артыкуле Матаха, які за апошнія гады шырока перадрукоўваўся ў інтэрнэце, зьмешчана нямала вытрымак з раней невядомых архіўных дакумэнтаў. Было б варта аўтару менавіта на іх аснове зрабіць навуковую публікацыю.

*Матох В. Лесные братья // 2012, 4 сьнежня; http://www.istpravda.ru/digest/1050/

# У МІНСКУ АДКРЫЛІ ПОМНІК ЧЭКІСТАМ



БЕЛТА

17 сьнежня 2012-га ў Менску каля будынка Інстытута нацыянальнай бясьпекі зьявіўся помнік загінулым супрацоўнікам дзяржбясьпекі, пра які мы згадвалі ў мінулым нумары. На адкрыцьці прысутнічала вялікая і прадстаўнічая дэлегацыя ФСБ Расеі. Дзяржсакратар Рады бясьпекі Беларусі генэрал-палкоўнік **Леанід Мальцаў** у сваім выступе адзначыў, што “гэта ня проста мерапрыемства да нейкай даты, а частка дзяржаўнай палітыкі... Сёньня важна захаваць памяць пра загінулых супрацоўнікаў ворганаў дзяржбясьпекі ў мэтах выхаваньня новага пакаленьня”, піша газэта *“СБ. Беларусь сегодня”*.

# У ЛУНІНЦЫ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ АФІЦЭРАЎ, ЯКІЯ ЗАГІНУЛІ Ў БАЮ З “ЛЯСНЫМІ БРАТАМІ”




mvd.gov.by

22 лістапада 2012 году на будынку Лунінецкага адзьдзяленьня ўнутраных спраў на транспарце зьявілася мэмарыяльная шыльда з надпісам: “Вечная памяць. Старэйшыя оперупаўнаважаныя

лінейнага адзьдзяленьня міліцыі станцыі Лунінец Брэст-Літоўскай чыгункі ВОЛКАЎ Аляксей Ільліч (н. у 1909), ЛЫЧОЎ Васіль Андрэевіч (н. у. 1905) загінулі 24 лістапада 1944 году ў вёсцы Бастынь Лунінецкага раёну ў баю з бандфармаваньнем. Пахаваныя ў горадзе Баранавічы".*

У тым баю з "бандай украінскіх буржуазных нацыяналістаў", якая прыйшла з Ровеншчыны, загінулі ня толькі яны. Сярод загінулых былі начальнік раённага аддзела НКВД капітан Міхаіл Трошын, раённы ваенкам капітан Іван Лосеў. Але забыліся толькі пра Волкава і Лычова з транспартнай міліцыі. Нядаўна, у выніку дасьледчай працы, удалося сабраць зьвесткі пра іх (абодва афіцэры — ураджэнцы Расеі). Грошы на шыльду зьбіралі міліцыянты і ветэраны. Цяпер Лунінецкае адзьдзяленьне ўнутраных справаў на транспарце хадайнічае перад мясцовымі ўладамі, каб імёны загінулых афіцэраў атрымалі новыя вуліцы ў Лунінцы. Таксама будуць рабіцца намаганьні, каб высьветліць, дзе яны былі ў Баранавічах пахаваныя.

Гэтая гісторыя яшчэ раз дэманструе, што замоўчаньне шматгадовай барацьбы з "ляснымі братамі" ў паваеннай БССР прывяло да таго, што дагэтуль не ўшанаваная памяць усіх, хто ваяваў і загінуў з боку сілавых структураў.

*Куликова О. Ранее неизвестные герои увековечены в Лунинце // 2012, 17 сьнежня; http://www.mvd.gov.by/ru/main.aspx?guid=39203

# ПРА ЎШАНАВАНЬНЕ ПАМЯЦІ АЙЦА ВІНЦЭНТА ГАДЛЕЎСКАГА




На 70-я ўгодкі забойства нацыстамі ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага (1888 — 1942), ідэоляга беларускага нацыянальнага Супраціву, у Чырвоным касьцёле ў Менску прайшло набажэнства ў памяць пра Яго. Аргкамітэт па стварэньні партыі "Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя" намагаецца ўшанаваць памяць пра а. Гадлеўскага праз усталяваньне шыльдаў, наданьне яго імя вуліцам гарадоў, у якіх ён жыў і дзейнічаў.

# КАНФЕРЭНЦЫЯ НА 70-Я ЎГОДКІ РАССТРЭЛУ ГАДЛЕЎСКАГА



22 сьнежня 2012 году ў памяшканьні менскага офісу Партыі БНФ адбылася канферэнцыя, прысьвечаная 70-м угодкам расстрэлу нацыстамі ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага. Яна мела назву **“Айцец Вінцэнт Гадлеўскі і лідары беларускага хрысьціянскага адраджэньня першай паловы XX ст”**. Гэтым мерапрыемствам завяршаўся аб’яўлены аргкамітэтам БХД год памяці ахвяраў тэрору ксяндзоў Вінцэнта Гадлеўскага і Адама Станкевіча.

У канферэнцыі ўзялі ўдзел гісторыкі, краязнаўцы і выдаўцы. Між іншым, Аляксандар Пашкевіч распавёў пра складанасьці, зь якімі сутыкнуліся складальнікі творчай спадчыны Вінцэнта Гадлеўскага. Ці выйдзе з друку гэтая кніга, пакуль невядома.

Адна выпадковая асоба спрабавала пасеяць сумненьні наконт дачыненьня Гадлеўскага да антынацысцкага падпольля і самога факту існаваньня Беларускай Незалежніцкай Партыі.

# СУПРАЦОЎНІКІ МІЛІЦЫІ, ДЫ НЯ ТОЛЬКІ

Восеньню 2011 году каля будынка Вялейскага раённага аддзела ўнутраных спраў зьявіўся мэмарыяльны знак у памяць пра 25 “супрацоўнікаў міліцыі”, якія падчас вайны і ў паваенныя гады загінулі “ў барацьбе з ворагамі”.* Аднак, пры азнаямленьні са сьпісам у ім знайшоўся, як мінімум, адзін супрацоўнік дзяржбясьпекі — Васіль Чуланаў. У 1948 годзе ён, супрацоўнік УМГБ Маладзечанскай вобласьці, загінуў, трапіўшы ў засаду “лясных братоў” афіцэра БКА Андрэя Горбаня.** Не зразумела, ці аўтары мэмарыяльнага знаку зрабілі памылку, залічыўшы ўсіх загінулых у міліцыянты, ці пайшлі на гэта зь іншай прычыны.






---

*У адным з апошніх нумароў мы ўжо згадвалі пра яго, падаючы інфармацыю з рэгіянальнага сайта. Гл.: Кроніка // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 2 (11), б. 196. Як высьветлілася, у ёй былі недакладныя зьвесткі. Цяпер мы маем і фотаздымкі мэмарыяльнага знаку.

**Сушко В. Партызанскі атрад Андрэя Горбаня на Маладэчаншчыне, др. пал. 1940-х // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2(7), б. 125-126.

У № 1(12) “БР” ад 2012 году была зьмешчаная рэцэнзія С. Дудаліча на кнігу М. Сьмірнова.* На жаль, праз тэхнічную памылку ў тэкст рэцэнзіі на б. 124 патрапіў кавалак зноскі. А менавіта:

*“У гэтым артыкуле М. Сьмірноў падае сэнсацыйную інфармацыю. Аказваецца, Міхась Ганько пасьля вайны зьмяніў прозьвішча і ўцёк у ЗША! А спадар Туронак усё “хавае” яго ў траўні 1945-га ў Чэхіі...”.*

Тут маецца на ўвазе не кніга Сьмірнова, а яго газэтны артыкул.** Ён сапраўды аказаўся сэнсацыйным, бо ўтрымлівае згадку пра паваеннае жыцьцё Міхала Ганька ў ЗША.

*Дудаліч С. Таямнічы вірус // Беларускі Рэзыстанс, б. 122-124.
**Смирнов Н. Они не боялись гестапо // СБ. Беларусь сегодня, 2012, 13 кастрычніка; http://www.sb.by/post/137811/




**Кантактныя адрэсы:**
**rezystans@gmail.com**
**rezystans2004@yahoo.com**

З нашымі выданьнямі можна азнаёміцца на
**www.kamunikat.org**

На вокладцы скарыстаныя здымкі
bymedia.net, histmuseum.by, hardzin.livejournal.com